25 верасня 2015 | № 36 (453)

Новы час

novychas.info

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА • ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

У цісках партнёрскіх чаканняў

стар. 6

**4** АД СЫТАСЦІ ДА АБАРОНЕНАСЦІ

Перадвыбарная праграма галоўнага кандыдата на прэзідэнцкую пасаду — істотная заяўка на права і далей несці крыштальны сасуд, імя якому Беларусь

**28** КРЫЗІС МІГРАНТАЎ. НАСТУПСТВЫ ДЛЯ СНД

Міграцыйны крызіс у Еўропе зменіць выгляд еўрапраекту. Адначасова будуць мяняцца і праеўрапейскія рухі ў краінах СНД



**9–24** Літаратурная Беларусь

**30** ГІСТОРЫЯ Ў ПАШТОВЫХ МАРКАХ

Часам малапрыкметная марка на канверце можна расказаць нам цэлую гісторыю пра легендарных пілотаў ці вядомага героя паўстання



# Без спадзеваў на будучыню

## Пакуль апазіцыя абвінавачвае Караткевіч у спробах «легалізацыі рэжыму», сама ўлада ў гэтую легалізацыю не верыць



Сяргей ПУЛЬША

Гэтую выбарчую кампанію назавуць самай сумнай і нецікавай за ўсю гісторыю Беларусі. Тацццяна Караткевіч матляецца па рэгіёнах, Аляксандр Лукашэнка ўвогуле з'ехаў з краіны, маўчаць Сяргей Гайдукевіч і Мікалай Улаховіч. Паштовыя скрыні пустыя — пакуль што я не знайшоў ніводнай улёткі ніводнага кандыдата.

Агітацыйныя пікеты не выклікаюць такой цікавасці, як пікеты па зборы подпісаў. Нават нестандартныя хады Караткевіч не прыцягваюць увагі. Напрыклад, у аўторак, 22 верасня, яна паспрабавала напаіць студэнтаў кавай у дворыку Белдзяржуніверсітэта. Каву папілі добра калі паўтара дзясятка чалавек.

Багата палітолагаў сцвярджаюць пра «апатыю насельніцтва» і «запужанасць электарату». Але наўрад ці гэта так. Хутчэй, гэта нагадвае стары, яшчэ савецкіх часоў анекдот, як у Маскве на Краснай плошчы мужык раздаваў «апазіцыйныя ўлёткі». Калі яго затрымалі, высветлілася, што ён раскідваў чыстыя аркушы, без ніводнага слова. «А чаго пісаць, і так усё зразумела», — патлумачыў ён КДБ.

Сапраўды, і так усё зразумела. Прафсаюз РЭП правёў зандаж грамадскай думкі наконт эканамічнага самаадчування беларусаў. 60% апытаных адзначылі, што за апошнія паўгода іх матэрыяльнае становішча пагоршылася, 32% — засталося без зменаў. І толькі 3% палепшылі свае матэрыяльныя ўмовы. Так што краіна — у глыбокім эканамічным крызісе.

Замест таго, каб скарыстаць гэтыя моманты для агітацыі насельніцтва, апазіцыя разбіраецца ў сваёй пясочніцы. Абвінавачванні Тацццяны Караткевіч у тым, што яна гуляе на «легітымізацыю ўлады» ходзяць па інтэрнэтах і чуюцца з зайздроснай рэгулярнасцю. Апошняе важкае слова з гэтай нагоды выказаў палітэмігрант з 20-гадовым стажам Зянон Пазняк. Маўляў, Караткевіч завабіць народ на выбарчыя ўчасткі, а потым «элегантна пераможа» Лукашэнка, наступствам чаго будзе прызнанне выбараў з боку Захаду, то бок — легітымізацыя рэжыму.

Аднак сам «крывавы рэжым» не верыць у гэтую легітымізацыю ані на ёту.

Агенцтва «Reuters» паведаміла са спасылкай на свае крыніцы ў ЕС, што Еўропа можа прыпыніць санкцыі супраць беларускага чыноўніцтва. Стабільна невыязная ў Еўропу старшыня ЦВК Лідзія Ярмошына, каментуючы гэтую інфармацыю, упэўнена сказала, што ў адносінах да сябе гэта не разглядае «нават гіпатэтычна». А значыць, выбары пройдуць дакладна так, як папярэднія, і Рыгоравіч атрымае чарговую «элегантную перамогу».

Пра тое, што ўсё будзе, «як звычайна», кажуць і апошнія лічбы сумеснага сацыялагічнага даследавання Інфармацыйна-аналітычнага цэнтра і Інстытута сацыялогіі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. Паводле апытанкі гэтых праўладных інстытутаў, аб правядзенні выбараў 11 кастрычніка 2015 года ведае практычна ўсё насельніцтва краіны — 96,7%.

«Вынікі сацыялагічных апытанняў паказваюць, што 86,2% насельніцтва рэспублікі плануе прыняць удзел у маючых адбыцца прэзідэнцкіх выбарах: на адпаведнае пытанне 72% апытаных адказалі «так», 14,2% — «хутчэй так», — такім чынам прыводзіць дадзеныя даследавання агенцтва БелТА.





**60% апытаных адзначылі, што за апошнія паўгода іх матэрыяльнае становішча пагоршылася**

Паколькі гэта цытата БелТА, то на іх сумленні я і пакідаю розніцу паміж «насельніцтвам» і «выбаршчыкамі».

Таксама цікавыя лічбы атрымания ў ток-шоў вядомага праўладнага публіцыста Вадзіма Гігіна «Справа прынцыпу», якое прайшло па БТ. Згодна з паказанымі нам лічбамі, толькі 21% нібыта прагаласаваўшых верацы ў тое, што пасля выбараў адносіны з Захадам палепшацца. 79% адзначылі, што чакаюць пагаршэння гэтых адносінаў.

Чаму важныя лічбы гігінскага ток-шоў? Таму што праз іх праходзіць падрыхтоўка грамадскай думкі. На адных з мінулых прэзідэнцкіх выбараў у аналагічным ток-шоў лідар Беларускага кангрэса дэмакратычных прафсаюзаў Аляксандр Ярашук не паленаваўся і чатыры разы на працягу перадачы вымяраў суадносіны тых, хто прагаласуе за Аляксандра Рыгоравіча, альбо за альтэрнатыўнага кандыдата. Дык вось, усе чатыры разы суадносіны былі аднолькавыя — 73 з нечым працэнты за Лукашэнку. З гэтага Ярашук зрабіў выснову — дзейснаму кіраўніку дзяржавы намалююць каля 73% галасоў. Прыкладна так яно і адбылося.

Канешне, беларускі рэжым вельмі б хацеў легалізавацца ў вачах Захаду. Ад гэтага шмат залежыць у эканоміцы, і не ў малой ступені — доступ да замежных крэдытаў і інвестыцыяў. Аднак правесці свабодныя і сумленныя выбары згодна са стандартамі АБСЕ і сумленна на іх выйграць — задача для сённяшняй улады невыканальная. Яны ўжо даўно развучыліся гуляць сумленна.

А таму яны загадзя плануюць песімістычны сцэнар — ніякага прызнання беларускіх выбараў не будзе, адносіны з Захадам пагоршацца. І да гэтага яны рыхтуюць насельніцтва.

# Памяці Аляксея Караля



Аляксей Кароль, безумоўна, застанецца ў гісторыі краіны — як палітык, дзеяч нацыянальнага дэмакратычнага руху, рэдактар недзяржаўных выданняў, журналіст.

Рэдактар вызначае атмасферу ў калектыве. І рэдакцыя «Новага Часу» ў гэтым плане, без перабольшванняў, ідэальная. З 2008 года, як прыйшла працаваць, я не бачыла тут звадак, сварак, інтрыг. Калегі сталі сябрамі, якія падтрымаюць у няпростыя моманты і раздзеляць радасць на белай паласе жыцця. Аляксей Кароль задаў высокую планку галоўнага рэдактара ў міжасабовых рэдакцыйных стасунках. Больш за тое, яго адметную стрыманасць ды інтэлігентнасць хацелася б перанесці на іншыя бакі свайго жыцця. Прызнаюся, ужо не аднойчы лавіла сябе на думцы ў ацэнках людзей: «Кароль бы так не сказаў, не зрабіў».

Я шчаслівая, што ў нейкі момант абрала рэдакцыю «Новага Часу» ў якасці патэнцыйнага месца працы (а рэдакцыя ці Кароль абралі мяне). Свабоду, безумоўную павагу да асобы не раздаюць на кожным скрыжаванні. Мне падаецца, што рэдактар Кароль часта верыў у журналістаў больш, чым яны самі ў сябе. Гэта натхняе, надае моцы і ўпэўненасці. Перакананая, што да высокай, а не прыніжальнай, ацэнкі іншых здольныя людзі, якія поўныя самі верою ў ідэалы, у чалавека, урэшце аптымісты.

Кароль быў аптымістам — ніколі не скардзіўся, усміхаўся, падбадзёрваў. Нават калі прыйшлі навіны пра пагаршэнне стану, верылася, што Аляксей Кароль выберацца, бо папросту немагчыма ўявіць свой свет без гэтага чалавека. Я спадзявалася на медыцыну. Думала, што праз месяц-другі можна будзе пры сустрэчы пытацца пра выхаванне дзяцей, абмяркоўваць працоўныя планы, гаварыць пра рэдакцыйнае і асабістае.

Ёсць моманты, калі моцна хочацца верыць у існаванне іншага свету. Так расстанне выглядае менш балючым, бо з'яўляецца цьмяны спадзеў на сустрэчу з чалавекам, які займае вялікае месца ў жыцці.

**Вольга Хвоін**

***

Адышоў у лепшы свет выдатны публіцыст, палітолаг, гісторык, журналіст, які цаніў свабоду, незалежнасць, дэмакратыю і за гэта шчыра змагаўся, — Аляксей Сцяпанавіч Кароль.

Беларусь засталася без сапраўднага адраджэнца, асірацела на аднаго з яе выбітных сыноў.

З Аляксеем Каралём, кандыдатам гістарычных навук, я пазнаёміўся ў 1975 годзе — сорак гадоў таму. У той час ён працаваў старшым навуковым супрацоўнікам Інстытута гісторыі партыі пры ЦК КП Беларусі, а я — загадчыкам рэдакцыі літаратуры па гісторыі і праве выдавецтва «Навука і тэхніка» АН БССР.

Аляксею Сцяпанавічу я дасылаў на рэцэнзаванне рукапісы па гісторыі Беларусі ў асноўным партыйнай тэматыкі, патрыятычнага падполля, партызанскага руху гісторыкаў Інстытута гісторыі АН БССР. Ягоныя рэцэнзіі адрозніваліся глыбокім аналізам, слушнымі заўвагамі па тэксце, дакладнымі і зразумелымі высновамі. Сваімі заўвагамі ён дапамагаў аўтарам дапрацоўваць рукапісы.

Аляксей Кароль быў чалавекам з адкрытай душой і палымяным сэрцам. Ён быў сапраўдным светачам у цёмнай прасторы аўтарытарызму нашай краіны. Ён пакінуў свой прыкметны след у гісторыі нашай Бацькаўшчыны як журналіст і выдавец газет «Згода» і «Новы Час», як аўтар шматлікіх артыкулаў па гісторыі, паліталогіі і інтэрв'ю з нашымі сучаснікамі.

Цікавыя ідэі спадара Караля могуць служыць беларускаму народу ў адраджэнні нашай Краіны.

Выказваю шчырае спачуванне сям'і, родным, блізкім, сябрам, калегам і супрацоўнікам газеты «Новы Час». Бывай, цудоўны чалавек, сябра. Хай будзе Табе пухам родная зямля.

**Анатоль Валахановіч**

***

Сваю бязмежную любоў да Беларусі, яе гісторыі, мовы, Аляксей Сцяпанавіч усімі даступнымі яму сродкамі імкнуўся перадаць тым, з кім працаваў, каго ведаў.

Вось і з гэтай пазіцыі мы б хацелі распавесці пра адну, на наш погляд, вельмі важную сферу яго дзейнасці. Справа ў тым, што падчас ягонай працы ў Інстытуце гісторыі партыі ён узначальваў прафсаюзны камітэт. Усё, што рабіў Аляксей Сцяпанавіч, ён рабіў грунтоўна, аналізуючы, на перспектыву. Па ягонай ініцыятыве быў складзены план вандровак і экскурсій па Беларусі і за яе межамі. Мы ў тыя 1970-я гады мала што ведалі пра сваю краіну, яе блізкую і далёкую гісторыю, культуру (вядома, гэта ў параўнанні з цяперашнімі ведамі...). Але такі быў час! З Аляксеем Сцяпанавічам мы аб'ездзілі ўсю Беларусь. Далей была Літва. І зноў мясціны, падзеі, асобы, звязаныя з нашай гісторыяй.

Аляксей Сцяпанавіч дасканала ведаў гісторыю памежных абшараў Беларусі — Пскоў, Ноўгарад, Смаленск. І гэта давала яму магчымасць падчас экскурсіі паказаць непасрэдную сувязь гісторыі і лёсу гэтых мясцін з нашай гісторыяй.

У выніку гэтыя паездкі не проста паглыблялі нашы веды пра Беларусь, наш кругагляд, але былі штуршком, стымулам для далейшага вывучэння гісторыі краіны, гонару за зямлю, на якой жывем, за тых, хто ў розных галінах праславіў Беларусь за яе межамі. І гэта толькі каліва з той спадчыны, якую пакінуў нам Аляксей Сцяпанавіч Кароль.

**Аляўціна Вячорка, Кацярына Гарэлік**

# Выбарчая кампанія практычна не заўважная

**Назіральная місія Бюро па дэмакратычных стандартах і правах чалавека АБСЕ абнародавала прамежкавы даклад па выбарах у Беларусі. У дакуменце адзначаецца, што выбарчая кампанія ў нашай краіне практычна не заўважная.**

Пры гэтым у дакуменце адзначаецца, што некаторыя былыя кандыдаты ў прэзідэнты, чые імёны не называюцца, «выказалі занепакоенасць працэсам рэгістрацыі кандыдатаў».

Пазітыўным крокам называецца вызваленне шасці палітвязняў, у тым ліку экс-кандыдата ў прэзідэнты Мікалая Статкевіча. Згадваецца, што экс-кандыдат Алесь Міхалевіч, які вярнуўся з-за мяжы 8 верасня, застаецца пад следствам у сувязі з яго меркаваным удзелам у пратэстах пасля выбараў 2010 года, перадае БелаПАН.

У дакуменце гаворыцца, што ў медыяпрасторы Беларусі дамінуюць дзяржаўныя СМІ, але некаторыя незалежныя крыніцы інфармацыі даступныя анлайн.

Таксама місія адзначыла, што ў 2012 годзе ў выбарчым заканадаўстве Беларусі былі зробленыя некаторыя змены, якія закранулі пераважна СМІ і фінансаванне кампаній. Аднак ні адна з ключавых рэкамендацый БДІПЧ АБСЕ, зробленых пасля папярэдніх прэзідэнцкіх і парламенцкіх выбараў, не была ўлічаная.

Сярод недахопаў заканадаўства ў дакладзе называюцца недакладныя правілы фармавання выбарчых камісій і працэсу праверкі подпісаў. Звяртаецца ўвага на адсутнасць мераў па арганізацыі бяспекі пры падліку галасоў, у тым ліку адсутнасць патрабавання аб публікацыі вынікаў галасавання ўчастковымі выбарчымі камісіямі.

У дакуменце гаворыцца, што «непрапарцыйныя юрыдычныя абмежаванні асноўных свабод» уплываюць на атмасферу выбарчай кампаніі. Правы грамадзян або грамадскіх арганізацый, якія жадаюць абмяркоўваць пытанні выбарчай кампаніі на публічных сустрэчах, застаюцца абмежаванымі. Свабода слова абмежаваная шэрагам крымінальных артыкулаў аб паклёпе і абразе, у тым ліку за заклікі да байкоту выбараў.

У справаздачы адзначаецца, што гарантаванае Канстытуцыяй права на свабоду слова і свабодны доступ да інфармацыі парушаецца.

# Далі другі шанец

Сяргей ПУЛЬША

**Мікалай Статкевіч зладзіў у Мінску сустрэчу з кандыдатам у прэзідэнты Аляксандрам Лукашэнкам. Лукашэнка прадказальна не прыйшоў.**

Недзе каля ў 17.50 у сквэрыку на плошчы Свабоды вакол Статкевіча стаяла з паўсотні людзей — журналістаў, асобаў у цывільным і тых, хто прыйшоў на сустрэчу з Аляксандрам Рыгоравічам. Мікола Статкевіч размаўляў з прыйшоўшымі і казаў, што «чакае кандыдата ў прэзідэнты». Аднак дачакаўся ён толькі паплечнікаў па апазіцыі — Уладзіміра Някляева і Анатоля Лябедзьку. Да прызначанага часу — 18-ці гадзінаў, — народу паболела. Але кандыдат у прэзідэнты так і не з'явіўся.

Таму Статкевіч, ягоныя сябры і супрацоўнік міліцыі, які суправаджаў арганізатараў сустрэчы, разам з народам зайшлі па другі бок Ратушы — там, дзе большая пляцоўка для народа. Там і зладзілі імправізаваны мітынг.

Паколькі Аляксандр Рыгоравіч не з'явіўся, Статкевіч агучыў пяць ягоных пытанняў кандыдату ў прэзідэнты. Гэта пытанні пра зніклых палітыкаў, пытанні пра спробу здаць незалежнасць праз Саюзную дзяржаву, пра незаконны рэферэндум 1996 года і разгон парламента, пра дыктатуру і беларускую мову.

Пасля Статкевіча выступіў Някляеў, які, зноў жа, абвінавацію кіраўніка дзяржавы ў тым, што ён працягвае гандляваць незалежнасцю краіны і ставіць яе пад пагрозу.

Перад выступоўцамі ўвесь час круціўся міліцыянт, задаючы ім пытанні і збіраючы звесткі для адміністрацыйнага пратаколу. З ім ветліва размаўляў Някляеў. Тыя, хто былі побач і бачылі гэтую сцэну, прасілі супрацоўніка міліцыі не замінаць ім слухаць выступоўцаў. Некаторыя збіраліся міліцыянта адцягнуць убок і, магчыма, пабіць. Аднак далей за планы гэта не зайшло.

Уладзімір Някляеў запрасіў прысутных на сход супраць расійскіх ваенных базаў, які павінен адбыцца ў гэтым жа месяцы 4 кастрычніка. А Мікалай Статкевіч напрыканцы сустрэчы заявіў, што «трэба даць чалавеку яшчэ адзін шанец». Таму ён яшчэ раз запрасіў Аляксандра Лукашэнку на сустрэчу з выбаршчыкамі напярэдадні дня галасавання — 10 кастрычніка. На той жа плошчы Свабоды. А раптам з'явіцца?

Пасля сустрэчы не было нічога. Яе арганізатары размаўлялі з народам, і ніхто нікога не чапаў. А калі б чапалі, то не было б куды людзей падзець, таму што ў наваколлі не было бачна ніводнага «аўтазаку». Нават на звыклай для іх стаянцы за Палацам Рэспублікі.

Невядома, ці дамогся Статкевіч сваёй мэты — вярнуць народу вуліцу. Аднак варта зазначыць, што спроба была ўдалай. Нягледзячы на тое, што на гэтую сустрэчу прыйшлі дзяжурныя 300 чалавек разам з журналістамі, міжнароднымі назіральнікамі і міліцыянтамі.

Можа быць, на наступную сустрэчу прыйдзе болей.

# Салігорскія ўлады забаранілі пікет

**Намеснік старшыні Салігорскага райвыканкаму Мікалай Маскевіч забараніў правядзенне на цэнтральнай плошчы пікетавання супраць ушчыльнення гарадской забудовы, арганізатарам якога з'яўляецца мясцовы грамадскі актывіст Уладзімір Шыла.**

У адказе Салігорскага райвыканкаму гаворыцца, што прычынай адмовы стала парушэнне заяўнікам пры падачы заявы на правядзенне пікетавання артыкула 5 Закона «Аб масавых мерапрыемствах». Даваць матываваны адказ і патлумачыць, якая менавіта частка артыкула і якімі канкрэтнымі дзеяннямі заяўніка была парушана, салігорскія ўлады ўжо традыцыйна адмовіліся.

Мікалай Маскевіч таксама паведаміў, што заяўленае месца правядзення пікета не адпавядае пераліку месцаў, вызначаных адпаведным рашэннем Салігорскага райвыканкаму 27 лютага 2015 года. Варта адзначыць, што мясцовыя прадстаўнікі Беларускага Хельсінкскага Камітэта дамагаюцца адмены гэтага рашэння ад моманту яго афіцыйнай публікацыі.

Салігорскія праваабаронцы таксама канстатуюць, што пэўная перадвыбарчая лібералізацыя практычна не закранула грамадска-палітычнае жыццё па-за выбарчым працэсам у рэгіёне.

spring96.org

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Купляйце беларускае!

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Мы зноў на мяжы «малочнай вайны». Гэтым разам ужо не з Расіяй — з Казахстанам. Нурсултана Абішавіча Назарбаева, бачыце, хвалюе, якое малако п'юць казахі.**



Назарбаеў паскардзіўся Пуціну, што Лукашэнка закідвае Казахстан сухім малаком і ўводзіць у зман мясцовага спажыўца.

Чаму Нурсултан Абішавіч скардзіўся на гэта Уладзіміру Уладзіміравічу — не вядома. Па ідэі, ён бы мог вырашыць гэтую праблему з беларускім калегам сам-насам. Але ён прымусіў Аляксандра Рыгоравіча даць публічны адказ.

З гэтага адказу вынікае, што натуральнага малака ўвогуле ў прыродзе не існуе. «Няма такога вызначэння: «натуральнае малако». Усе выдатна разумеюць, што і Расія, і Беларусь узаемна «сушаць» гэта малако, выдаляюць ваду. Калі пік малака падае, калі яго не хапае, Расія заказвае ў Беларусі, мы часта купляем у Расіі гэта малако, разводзім яго, гэта значыць дадаючы ваду, і атрымліваецца нармалізаванае малако», — абвінаваціў Лукашэнка Назарбаева ў некампетэнтнасці.

Хаця, насамрэч, я б на месцы Аляксандра Рыгоравіча не даваў бы адказу Нурсултану Абішавічу ўвогуле. Не хочуць беларускага малака — хай п'юць кумыс. Ці купляюць малако ў Расіі.

Але ў Расіі гэтае малако не купіш. Усе звыклі, што Рассельгаснагляд — страшэнная і жудасная кантора. Яна заўсёды прыдзіраецца да беларускіх прадуктаў: то адно там не так, то іншае. Пэўна, каб пазбегнуць абвінавачанняў у заангажаванасці, той самы Рассельгаснагляд у жніўні праверыў расійскую прадукцыю. Эксперты даследавалі ўзоры расійскага малака, малочнай прадукцыі, свініны і птушкі.

Вынікі аказаліся жудаснымі. У 100% (ста працэнтах!) даследаваных узораў прадукцыі расійскай эксперты выявілі ўтрыманне амфеніколаў, антыбіётыкі тэтрацыклінавай групы і метабаліты нітрафуранаў.

Так што: альбо беларускае — альбо кумыс.

Гэта была б прыватная спрэчка двух кіраўнікоў дзяржаваў, калі б не далёка ідучыя высновы, якія зрабіў беларускі правадыр з гэтай размовы. А высновы такія: сінявокай не трэба ўступаць у Сусветную гандлёвую арганізацыю, куды ўжо ўвайшлі Казахстан і Расія.

«Я шчыра вам скажу, мы не спяшаемся ўступіць у СГА. Я думаю, што нам трэба моцна прааналізаваць сітуацыю. Можа быць, няўдзел Беларусі ў СГА прынясе карысць большую, чым уступленне ў СГА», — заявіў Лукашэнка.

Ён негатыўна адгукнуўся пра ўмовы, на якіх Казахстан уступіў у СГА. «Апошнія дамоўленасці Казахстана з СГА і тыя мытныя пошліны, пра якія яны дамовіліся, стварылі рэальную праблему функцыянавання нашага адзінага эканамічнага саюза. І мы вымушаны прыстасавацца да таго, што там навараціў з СГА Казахстан. І гэта будзе няпроста, таму што там панізілі пошліны так, што можа хлынуць прадукцыя на расійскі і беларускі рынкі», — адзначыў ён.

Такім чынам, Лукашэнка яўна і недвухсэнсоўна выказаўся: ён будзе абараняць свае прадпрыемствы і сваю прадукцыю любымі сродкамі. Зразумела, што ўмовы СГА — гэта свабоднае перамяшчэнне тавараў і паслугаў, у выніку чаго больш танныя і больш якасныя тавары проста заб'юць айчынную прамысловасць. Уступленне ў СГА — адначасна і адмова ад рэгулявання імпарту, што зараз любымі сродкамі спрабуюць зрабіць улады. А абмежаванне імпарту — гэта значыць амаль прымусова «купляйце беларускае».

Апроч таго, уступленне ў СГА накладае і абавязкі. Напрыклад, абавязкі сур'ёзна абмежаваць падтрымку дзяржаўнай вытворчасці. Бо мы так датуем тое ж малако, што яно каштуе значна менш за імпартныя аналагі, і адпаведна, можа быць абвінавачанае ў нядобрасумленнай канкурэнцыі. Гэтыя датацыі таксама давядзецца спыніць, што раўназначна загібелі такой мілай сэрцу Жэрара Дэпард'ё сельскай гаспадаркі.

А з іншага боку: як не ўступіць у СГА, калі ўсе нашы асноўныя эканамічныя партнёры ўжо там? Чаму з падзеннем расійскага рубля нашы грамадзяне рванулі на шопінг у Расію? Менавіта таму, што яна ў СГА, і там можна было танней набыць тыя ж тавары, што і ў Літве, і ў Польшчы. Нашая адмова ад СГА будзе спрыяць вымыванню валюты з краіны — прычым не толькі ў заходнім, а ўжо і ва ўсходнім напрамку.

Вось такая дылема ў беларускага кіраўніцтва. З аднаго боку кепска, і з іншага не лепей.

А яшчэ супраць падтрымкі беларускага вытворцы выступіла Сусветная арганізацыя аховы здароўя. Падавалася б, нядаўна Аляксандр Рыгоравіч правёў нараду па алкагольным рынку Беларусі, у выніку чаго былі знятыя рэгіянальныя абмежаванні на час продажу алкаголю, а розныя кавярні і рэстарацыі прымусілі прадаваць гарэлку хіба што не па сабекошце. Што з гэтага атрымліваецца?

СААЗ канстатуе: Беларусь зноў апынулася сярод лідараў па спажыванні алкаголю. 14,4 літра чыстага спірту ў год на чалавека. Адначасна сінявокая разам з Літвою з'яўляюцца лідарамі па колькасці самагубстваў. Сярэдняя працягласць жыцця ў Беларусі, Расіі і Малдове складае 71 год, у Францыі, Італіі і Іспаніі гэты паказчык на 11 гадоў большы.

Пасля такіх лічбаў трэба тэрмінова вяртаць усе алкагольныя абмежаванні і праводзіць новую нараду па абароце алкагольнай прадукцыі.

Але пакуль што мы рухаемся ў адваротным кірунку. Як паведаміў намеснік міністра гандлю Вячаслаў Драгун, у краіне могуць быць адменены абмежаванні, уведзеныя на інтэрнэт-гандаль алкагольнай прадукцыяй і цыгарэтамі.

На думку чыноўніка, любыя меры рэгулявання ў гандлі накіраваныя на найбольш поўнае задавальненне патрэбаў насельніцтва, а таксама на тое, каб засцерагчы пакупніка ад няякаснага, несертыфікаванага і кантрафактнага тавару. «Нельга не прызнаць, што абмежаванні на гандаль алкаголем і цыгарэтамі ў інтэрнэце звужаюць магчымасці пакупнікоў, асабліва тых групаў насельніцтва, для якіх дыстанцыйны заказ і дастаўка тавараў найбольш актуальныя», — адзначыў намеснік міністра.

Вось узрадуецца «шкалата»! Праз інтэрнэт жа не бачна, ці дасягнуў пакупнік алкаголю і цыгарэтаў 18-гадовага ўзросту. І не аддаць гарэлку непаўналетняму, які ўжо аплаціў заказ банкаўскай карткай, таксама нельга. Бо аплачана!

Так што будзем мы хадзіць у беларускім, п'яныя і дурныя.

ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

## Міклаш Харашці



**Спецыяльны дакладчык ААН не верыць у лібералізацыю ў Беларусі.**

Пра гэта Міклаш Харашці заявіў у камітэце па замежных справах Еўрапарламента, дзе прайшлі слуханні па Беларусі.

«Гэтую мыльную оперу мы бачылі шмат разоў — вызваленне палітвязняў перад выбарамі. Таму я б раіў пачакаць з буйным крокам насустрач Мінску, зменшага, да выбараў, на якіх Аляксандр Лукашэнка стане ўласным пераемнікам», — упэўнена заявіў Харашці.

«Мы ведаем вынікі гэтых выбараў — ведаем прычыны нязменных законаў, нязменнага становішча з правамі чалавека, у прыватнасці, нязменнага становішча з выбарчымі правамі. Такія выбары па вызначэнні не могуць быць свабоднымі і справядлівымі. І яны ніколі не былі свабоднымі і справядлівымі з тых часоў, як Лукашэнка прыйшоў да ўлады», — падкрэсліў спецыяльны дакладчык ААН па Беларусі.

«Вы можаце адмяніць некаторыя санкцыі, калі сістэма дазволаў крыху палепшылася, калі дала грамадзянскай супольнасці крыху магчымасцяў быць свабоднай. Але ў мінулым снежні ў Беларусі быў прыняты закон, які паставіў увесь інтэрнэт пад кантроль дзяржавы, нават калі гаворка ідзе пра асобны вэб-сайт і нават асобны каментар», — нагадаў ён.

«Крок насустрач Мінску будзе геапалітычна важным з дыпламатычнага пункту гледжання. Але з пункту гледжання абароны правоў чалавека, я лічу, такі крок павінен рабіцца ў спалучэнні з вялікімі саступкамі з боку беларускіх уладаў. Прынамсі, з абяцаннем такіх саступак. У гэтым выпадку кіраўніцтва адмены санкцый могуць дапаўняць гэтыя абяцанні Мінска», — дадаў Харашці.

## Марыяна Шчоткіна



**У камандзе кандыдата ў прэзідэнты Лукашэнкі А.Р. адбылася нечаканая замена.**

Раней паведамлялася, што кіраўніком штаба Лукашэнкі з'яўляецца Аляксандр Радзькоў. Але «Камсамольская праўда ў Беларусі» раптам высветліла, што афіцыйна штабам Лукашэнкі кіруе Марыяна Акіндзінаўна Шчоткіна, міністр працы і сацыяльнай абароны насельніцтва.

Як распавялі ў міністэрстве, яна ўжо тыдзень у адпачынку. Усяго адпачынак працягнецца месяц — да выбараў Мар'яна Акіндзінаўна будзе займацца выбарчай кампаніяй.

З аднаго боку, ход удалы — прызначыць кіраўніком штаба жанчыну, асабліва на фоне жанчыны — кандыдаткі ў прэзідэнты. А з іншага — міністр працы і сацыяльнай абароны ніяк не падыходзіць на гэтую пасаду, калі ў краіне праблемы і з працай, і з сацыяльнай абаронай.

## Вікторыя Азаранка



**Першая ракетка Беларусі паабяцала Беларусі «золата» ў тэнісе ў 2016 годзе на Алімпійскім турніры ў Рыа-дэ-Жанейра.**

Пра гэта Вікторыя Азаранка распавяла пасля правядзення майстар-класа для дзяцей у Рэспубліканскім цэнтры тэніса. «У мяне ўжо ёсць залаты медаль Гульняў у Лондане ў міксце, у Рыа-дэ-Жанейра паспрабую стаць першай у жаночым турніры. Перамогі ў спаборніцтвах сусветнага тура і выступ за Беларусь вельмі адрозніваюцца па адчуваннях. Вельмі хочацца выйграць для Беларусі золата ў Рыа», — распавяла Азаранка.

Спартсменка таксама ацаніла свой выступ у гэтым сезоне. На яе думку, лепш за ўсё з турніраў «Вялікага шлема» ў яе атрымалася сыграць на Адкрытым чэмпіянаце ЗША. Хоць ужо з «Ралан Гароса» гульня Азаранка станавілася лепшай. Мэта гэтага сезону ў беларускі — трапіць на выніковы турнір Жаночай сусветнай асацыяцыі (ВТА), які пройдзе ў Сінгапуры.

Вікторыя Азаранка, якая не выступала ў турнірах на мінулым тыдні, захавала 23-ю пазіцыю ў абноўленым рэйтынгу ВТА.

а | Азбука паліталогіі



Сяргей НІКАЛЮК

# Ад сытасці да абароненасці

**Перадвыбарная праграма галоўнага кандыдата на прэзідэнцкую пасаду — істотная заяўка на права і далей несці крыштальны сасуд, імя якому Беларусь.**

Пачну з размовы з жонкай перад сном:

— Якія навіны?

— Апублікаваныя вынікі апытання Інфармацыйна-аналітычнага цэнтра (ІАЦ).

— І што?

— Аказваецца, ты ўсім задаволеная.

— Вау!

Зразумець здзіўленне маёй жонкі нескладана. Пяць гадоў таму напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў яе зарплата (настаўніцы сярэдняй школы) перавысіла 500 долараў. Сёння пры той жа нагрузцы яна не дацягвае ў эквіваленце і да 300 «зялёных». Такі вынік чацвёртай пяцігодкі для асобна ўзятай прафесійнай групы.

Улістападзе 2010 года 77,5% суайчыннікаў былі ўпэўненыя, што Беларусь пад кіраўніцтвам адзінага палітыка (АП) развіваецца ў правільным кірунку. За пяць гадоў гэты паказчык не змяніўся. Стабільнасць, аднак. Такой стабільнасць уяўляюць сацыёлагі ІАЦ, калі на яе глядзець з вокнаў кабінетаў на праспекце Пераможцаў.

Здольнасць рэагаваць на змены навакольнага асяроддзя — фундаментальная ўласцівасць жывых арганізмаў. Але, калі меркаваць па прыведзенай сацыялогіі, сярэднестатыстычны беларус знаходзіцца ў каматозным стане (ад старажытнагрэчаскага «кóма» — «глыбокі сон» — стан паміж жыццём і смерцю, які характарызуецца стратай свядомасці, рэзкім паслабленнем або адсутнасцю рэакцыі на знешнія раздражненні.

### Змена вехаў

Працытую фрагмент з папярэдняй «Азбукі паліталогіі» («Хто вычарпаў ліміт рэвалюцый?», 11 верасня, №34): «З пэўнага моманту для кожнай аўтарытарнай дзяржавы палітычная павестка пачынае канцэнтравацца на ўтрыманні ўлады. А гэта азначае, што жыць яна пачынае пад дыктоўку надыходзячай рэвалюцыі. Прадухіленне рэвалюцыі становіцца адзіным пунктам праграмы кіруючага класа. Тут ужо не да развіцця».

Не ўпэўнены, што мяне чытаюць у Адміністрацыі АП, але актуальнасць майго выказвання там прызнаюць, што і пацвярджае перадвыбарная праграма кандыдата на пяты прэзідэнцкі тэрмін. Яна апублікаваная 17 верасня. Адкрыем яе.

Перад намі «карціна алеем», для стварэння якой аўтарам хапіла дзвюх фарбаў — чорнай і белай. Дзве фарбы сімвалізуюць два магчымыя шляхі развіцця Беларусі: «Адзін шлях наперад — да захавання стабільнасці і парадку, свабоды і незалежнасці. Гэта шлях адзінства і згоды, развіцця і прагрэсу. Гэта шлях міру і стварэння. Іншы шлях назад — да смуты і хаосу «дзевяностых», бандыцкага капіталізму і дзяльбы ўласнасці, да паслаблення дзяржавы і страты незалежнасці. Гэта шлях рэвалюцыі, крыві і вайны».

Прадухіленне рэвалюцыі — цэнтральны элемент праграмы АП. Але калі ў 2010 годзе кандыдат на чацвёрты тэрмін у якасці антырэвалюцыйнага сродку (сродку па падтрыманні стабільнасці) прапаноўваў «імкліва рухацца наперад і дасягнуць большага», то сёння на парадку дня стаіць задача «абараніць тое, што ўжо створана».

Такая дыялектыка развіцця аўтарытарнага рэжыму. Яна выразна праглядаецца ў загалоўках праграм адзінага рэальнага кандыдата на прэзідэнцкую пасаду: «Ад захавання — да памнажэння (2010), «За будучыню незалежнай Беларусі» (2015).

Дзесяць гадоў таму кандыдат на трэці тэрмін абяцаў давесці якасць жыцця нашых грамадзян да ўзроўню, параўнальнага з заходнееўрапейскім. Пяць гадоў таму ён рэдукаваў сваё абяцанне да набліжэння ўзроўню жыцця ў Беларусі да еўрапейскага. Сёння кандыдат на пяты тэрмін цвёрда абяцае абараніць Айчыну ад любых замахаў.

Несці на працягу двух дзесяцігоддзяў крыштальны сасуд, імя якому Беларусь, — задача не самая простая. Верагоднасць спатыкнуцца рэальная, тым больш, што жадаючых падставіць падножку хапае.

Адсюль змена вехаў. Змена сацыяльнага кантракту. Падтрымліваць лаяльнасць насельніцтва за кошт росту рэальных даходаў беларуская мадэль больш не ў стане. Свой унутраны рэсурс яна цалкам вычарпала яшчэ ў пачатку «нулявых». Далейшы рост даходаў забяспечваўся за кошт датацый з боку «нашай Расіі», нафтавага афшора і крэдыту МВФ.

Новы сацыяльны кантракт прадугледжвае абмен лаяльнасці на выжыванне. Упершыню пра яго ўвядзенне АП абвясціў у сваім навагоднім звароце за некалькі хвілін да надыходу 2015 года. У праграме «За будучыню незалежнай Беларусі» новаму кантракту нададзена цэнтральнае месца.

Абмяжуюся трыма цытатамі: «Нам у Беларусі ўдаецца захаваць мір, мы не чуем стрэлаў і разрываў снарадаў, у нас ёсць магчымасць спакойна працаваць, гадаваць дзяцей і радавацца мірнаму жыццю». «Як першы прэзідэнт незалежнай Беларусі магу цвёрда абяцаць вам: наша краіна ніколі не будзе ўцягнутая ў чужыя войны і канфлікты. І мы заўсёды абаронім Айчыну ад любых замахаў». «ЗАХАВАЦЬ У КРАІНЕ МІР І ПАРАДАК — у гэтым я бачу сваю другую найважнейшую задачу».

### Экзамены адмянілі

Мне ўжо неаднаразова даводзілася адзначаць, што беларускі аўтарытарны рэжым абапіраецца не на падтрымку грамадства, а на яго пасіўнасць. Але няма правіл без выключэння, і такія выключэнні ў 2001, 2006 і 2010 гадах мы назіралі падчас правядзення прэзідэнцкіх выбараў. Што тычыцца мясцовых і парламенцкіх выбараў, то яны пасля канстытуцыйнага рэферэндуму 1996-га праводзяцца ў «сумным» рэжыме.




Як паказваюць апытанні НІСЭПД, мэтанакіраваная прапаганда здольная дадаць каля 10% галасоў, але гэты дадатак праз 2–3 месяцы пасля заканчэння выбарчай кампаніі «самаліквідуецца». У якасці прыкладу прывяду дынаміку электаральнага рэйтынгу АП у 2010 годзе: кастрычнік — 44%, снежань — 53%, сакавік — 43%.

Фінальная кропка кампаніі па мабілізацыі электарату — Усебеларускі народны сход («веча» ў тэрміналогіі АП). Першае веча адбылося 19 кастрычніка 1996 года. Яно прайшло пад лозунгам «Улада павінна падпарадкоўвацца толькі волі народа».

Усе наступныя веча будаваліся па аналогіі з партыйнымі з'ездамі эпохі «Дарагога Леаніда Ільіча Брэжнева», г. зн. у рэжыме самасправаздачы пра дасягнутыя поспехі. У прыватнасці, з трыбуны чацвёртага веча (6 снежня 2010 года) АП урачыста заявіў: «Нягледзячы ні на якія цяжкасці, мы выканалі тое, што абяцалі народу на папярэднім сходзе».

Пры змене сацыяльнага кантракту з самасправаздачай улады перад народам паўсталі праблемы. Таму пятыя прэзідэнцкія выбары АП вырашыў правесці ў «сумным» рэжыме. Натуральна, патрэба ў правядзенні Усебеларускага народнага сходу адпала. Як адпала і неабходнасць у здачы экзамену.

Разглядаць выбары ў якасці экзамену, які ўлада здае перад народам — яшчэ адно ноў-хаў АП. У гэтым годзе першая згадка пра маючы адбыцца экзамен датуецца 25 сакавіка, апошняя — 23 чэрвеня. Цытую паводле афіцыйнага прэс-рэлізу: «Кіраўнік дзяржавы лічыць, што маючыя адбыцца прэзідэнцкія выбары з'яўляюцца ў пэўным сэнсе экзаменам для ўсіх органаў улады. «Гэта экзамен перад народам, перад тымі, хто даверыў нам лёс Беларусі», — падкрэсліў Аляксандр Лукашэнка. Паводле яго слоў, вынікі прадэманструюць стаўленне людзей да гэтай працы, а таксама стануць асновай стратэгіі далейшага развіцця краіны».

Але права на здачу экзамену яшчэ трэба зарабіць. Студэнтаў, што сістэматычна прапускаюць заняткі, не выконваюць практычныя работы і не здаюць залікі, да іспытаў не дапускаюць. Гэта ісціна ўладальніку двух дыпломаў савецкіх ВНУ, безумоўна, добра вядомая.

АП заўсёды ўмеў выбудоўваць палітыку «ідучы ад жыцця». А жыццё сёння такое, што не варта лішні раз засяроджваць увагу выбаршчыкаў на дасягнутых выніках. Таму пасля 23 чэрвеня ад здачы экзамену галоўны студэнт краіны вырашыў адмовіцца, не чакаючы, калі рашэнне пра нядопуск да іспыту прымуць выбаршчыкі.

### Усім і бескарысліва

Любая мабілізацыйная кампанія, хто б і з якой мэтай яе ні праводзіў, вядзе да палярызацыі грамадства. У расколатым жа беларускім грамадстве эфект палярызацыі праяўляецца асаблівага відавочна. Таму мэтанакіраваныя намаганні дзяржаўнай прапаганды па мабілізацыі патэнцыйных прыхільнікаў АП аўтаматычна вядуць і да мабілізацыі яго праціўнікаў.

З эфектам палярызацыі звязаны адносны поспех апазіцыйных кандыдатаў на прэзідэнцкіх выбарах. Калі ўзровень электаральнай падтрымкі АП на выбарах адпавядае яго рэйтынгу даверу, то для апазіцыйных кандыдатаў ён, як правіла, у два разы вышэйшы (паводле дадзеных НІСЭПД).

Гэта перавышэнне забяспечваецца за кошт так званага пратэстнага галасавання. Але адна справа — згаджацца на негатыўны пабочны эфект мабілізацыі ва ўмовах ранейшага сацыяльнага кантракту («Лаяльнасць у абмен на рост даходаў») і зусім іншае — ва ўмовах цяперашняга («Лаяльнасць у абмен на выжыванне»).

У 1994 годзе Лукашэнка быў галоўным рэсурсам сваёй выбарчай кампаніі. Сёння, калі меркаваць па публічнай інфармацыйнай прасторы, ён фактычна хаваецца ад сваіх патэнцыйных выбаршчыкаў.

Роля галоўнага ньюсмейкера Беларусі ўскладзена на старшыню Цэнтрвыбаркама Лідзію Ярмошыну. У гэтую ролю яна выдатна ўжылася, і нават вялікі Станіслаўскі не змог бы вымавіць сваё сакраментальнае: «Не веру!»

Я рэгулярна праглядаю сайт самай салiднай беларускай газеты. Прывяду некалькі загалоўкаў навінавых матэрыялаў: «Ярмошына цалкам давярае выбарчым камісіям» (16.09); «Ярмошына лічыць, што ў Беларусі не варта спяшацца з пераходам на дыстанцыйнае галасаванне» (16.09); «Ярмошына: Беларусь не баіцца экзіт-полаў» (16.09); «Ярмошына: На тэледэбатах кандыдатам трэба трымацца бойка і кампетэнтна» (11.09).

З апошняга загалоўка вынікае, што інтарэсы гэтай выдатнай жанчыны не абмяжоўваюцца прафесійнай сферай. Яна прэтэндуе і на лаўры галоўнага беларускага спецыяліста ў галіне фармавання палітычнага іміджу. Прычым свае парады старшыня Цэнтрвыбаркама раздае бескарысліва, незалежна ад палітычнай арыентацыі кандыдатаў.



# Ад беларускамоўнай адукацыі бачу толькі плюсы

**Мы ні ў якім разе не расейцы, і не будзем ніколі расейцамі. Хачу, каб большасць людзей усведамляла, што яны — беларусы**

**Магілёў вядомы на ўсю Беларусь тым, што ў горадзе ёсць усяго адзін беларускамоўны клас, дзе навучаецца ўсяго адна вучаніца.**

Ялінка Салаўёва ўжо шасцікласніца. З першага класа яна знаходзіцца на ўроках толькі са сваёй настаўніцай. Аб плюсах і мінусах беларускамоўнага навучання, а таксама аб стаўленні да беларускай мовы ў грамадстве «Наш Магілёў» паразмаўляў з бацькам Ялінкі Зміцерам Салаўёвым.

***— Зміцер, чаму вырашылі аддаць сваё дзіця ў беларускамоўны клас?***

— Мы жывем у Беларусі, і натуральна, што навучацца таксама жадаем на беларускай мове. Для нас такога пытання ўвогуле не было. У нас беларускамоўная сям'я, і мая дачка размаўляць спачатку пачала на роднай беларускай мове. Ялінка рускай мовы да трох гадоў наогул не ведала, пакуль з іншымі дзецьмі не стала кантактаваць.

***— Якой была сітуацыя, калі Ялінка пайшла ў першы клас?***

— У садку ў нас была беларускамоўная група, таму далей сталі шукаць такую ж школу, аднак яе ў горадзе не аказалася. Мы вырашалі пытанне беларускамоўнага навучання і з гарадскім, і з абласным аддзелам адукацыі. Нам прапаноўвалі ехаць у Бароўку, бо там некамплектная школа і ёсць магчымасць утварыць такі клас.

Затым нас накіроўвалі ў СШ №8. Наша мэта была — не толькі дзеля сябе зрабіць, а каб усім было зручна, каб і бацькі маглі вазіць дзяцей з любога раёна і самі дзеці ездзіць, таму нашай умовай было зручнае транспартнае забеспячэнне. У гэтым плане лепей пасуюць установы ў цэнтры горада. Паколькі па прапісцы мы належым да першай школы, туды і занеслі дакументы. Мы ўжо гатовыя былі навучацца на даму, але, на нашае здзіўленне, беларускамоўны клас адкрылі, хоць Ялінка там і была адзінай вучаніцай. Першы час яна навучалася адна, але недзе на год да яе далучыліся брацік з сястрычкай, аднак у другім класе яны былі вымушаны змяніць школу па нейкіх сваіх сямейных абставінах.

***— Што змянілася за гэты час, наколькі складана быць адной вучаніцай у класе?***

— Сацыяльны псіхолаг намагалася стварыць нам праблемы, адрапартаваўшы, што ў Ялінкі не ўсё добра з сацыялізацыяй. Мы, канешне, павінны былі спраўдзіць гэта, дзеля чаго знайшлі вельмі добрага спецыяліста па дзіцячай псіхалогіі, якая пазаймалася з Ялінкай і адмовіла наяўнасць такой праблемы. Я лічу, што праблема сацыялізацыі ў школе вырашана, бо Ялінка на тых прадметах, дзе не патрэбна мова (руская мова і літаратура, англійская мова, фізічнае выхаванне), далучаецца да суседняга класа і займаецца там разам з іншымі дзецьмі.

***— Што сама Ялінка думае пра сваё становішча?***

— Канешне, як любое дзіця, яна жадае, каб у яе былі аднакласнікі. Што мы толькі ні рабілі, каб іх знайсці. Штогод улетку мы праводзім невялічкую (за свой кошт) піяр-кампанію беларускамоўнага класа. Спачатку раздавалі ўлёткі, пасля клеілі плакаты, апошнім быў відэаролік. Спрабавалі звяртаць увагу на мову і культуру, пасля пачалі казаць пра больш празаічныя рэчы: індывідуальны падыход і паглыбленую адукацыю.

На сёння настаўнікам матэматыкі Міхасём Булавацкім была высунута і намі падтрымана ідэя аб стварэнні ў першай школе з наступнага года сёмага класа з паглыбленым вывучэннем матэматыкі, вядома, з беларускамоўным навучаннем. Ужо абмяркоўвалі гэта і са школай, і з уладамі, пытанне будзе вырашацца.

***— Як лічыце, чаму піяр-кампанія не падзейнічала дагэтуль?***

— Бацькі пачнуць думаць аб беларускамоўным навучанні ў школах толькі тады, калі ў нас з'явяцца ўніверсітэты на беларускай мове. Гэта асноўная праблема. Яна, канешне, трохі надуманая, але яна існуе. Хаця ні дзеля мяне, ні дзеля майго дзіця не цяжка разабрацца з тэрміналогіяй на рускай ці беларускай мовах.

***— Адзін з журналістаў на сустрэчы з Аляксандрам Лукашэнка згадаў сітуацыю з Ялінкай, якой рэакцыі чакалі ад прэзідэнта?***

— Канешне, мы былі здзіўлены, бо гэта была ўласная ініцыятыва журналіста. Мы пра гэта не прасілі. Я чакаў двух варыянтаў развіцця падзей. Па-першае, ведаючы нашых чыноўнікаў, дзеля якіх няма чалавека — няма праблемы, я думаў, што клас увогуле могуць закрыць. З іншага боку, ад іх можна чакаць і так званай уласнай ініцыятывы, па якой хутка знайшліся б і жадаючыя і магчымасці дзеля напаўнення такога класа, але ні таго, ні іншага не адбылося.

***— Якія бачыце плюсы і мінусы беларускамоўнага навучання ў цяперашніх умовах?***

— Цяжка адзначыць мінусы, іх амаль не бачна. А вось плюсы відавочныя: лічыце, што вы маеце рэпетытараў па кожным прадмеце. У дзіця не бывае сітуацыі, калі тэма пройдзена, а нешта засталося незразумелым. Не бывае такога, што дзіця хварэла і прапусціла тэму — з Ялінкай усё роўна пазаймаюцца. Яна мае больш часу для дадатковага матэрыялу. Атрымліваецца больш паглыбленае навучанне па кожным прадмеце.

***— Але ж чаму маем тое, што маем?***

— Зараз беларускія мова і культура атрымалі вялікі штуршок да развіцця. Праўда, тэндэнцыя больш ахапіла дарослых, ужо сталых людзей. Хочацца верыць, што на гэтай хвалі адбудзецца ўздым у сістэме адукацыі, і ўсё ж такі будуць адкрывацца беларускамоўныя класы. Я гатовы дапамагаць людзям, якія не ведаюць, што рабіць, каб аддаць дзіця ў такі клас.

Зразумела і іншае — гэтаму папярэднічалі 200 гадоў расейскай акупацыі, і сёння застаецца актуальным лозунг: «Что не сделает русский штык, сделает русское слово». Я лічу, што трэба адключыць усе гэтыя расейскія прапагандысцкія каналы, каб людзі жылі ў сваім беларускім асяроддзі. Не важна, на якой мове размаўляеш, тут ніхто цябе прымушаць не будзе, але дзяржаўная мова павінна быць адна — беларуская. Гэта пытанне захавання культуры і нацыі.

Многія лічаць, што ў нас няма ідэнтычнасці, цытуючы нашага прэзідэнта, што «большасць беларусаў — гэта рускія, але толькі са знакам якасці». Але ж мы не рускія. Мы вельмі адрозніваемся ад іх. І гэта можа пацвердзіць любы вандроўнік, які пабываў і ў Расіі і ў Беларусі. Мы ні ў якім разе не расейцы, і не будзем ніколі расейцамі. Хачу, каб большасць людзей усведамляла, што яны — беларусы, і ад гэтага ўсё далей і пойдзе.

**Паводле «Наш Магілёў»**

# У ціСках партнёрскіх чаканняў

Дзяніс ЛАЎНІКЕВІЧ

**Сённяшняя прэзідэнцкая кампанія супала з эканамічным крызісам і падзеннем прыбыткаў электарату. А значыць, уладзе асабліва важна добра выглядаць у вачах як Масквы, так і Брусэля.**

Стан, у якім апынулася беларуская ўлада, выдатна разумеюць і на Усходзе, і на Захадзе. Разумеюць таксама і тое, што чакаць ад Аляксандра Рыгоравіча рэфарматарскіх цудаў не прыходзіцца. Але правесці на тле выбараў такія-сякія эканамічныя змены цалкам магчыма. Тым больш, канцэпцыя «сацыяльнай дзяржавы» відавочна трашчыць па швах, таму кіраўніцтва краіны, мусіць, упершыню ў гісторыі Беларусі больш настроена на рэформы, чым насельніцтва. Адпаведна, і Расія, і Еўрасаюз прапаноўваюць Беларусі свае мадэлі эканамічнага супрацоўніцтва.

## З Захаду

Ужо вядома, што Еўрапейскі саюз падрыхтуе нейкі новы, адмысловы варыянт эканамічнага супрацоўніцтва з Беларуссю і Арменіяй: з краінамі, якія ўваходзяць у арбіту еўрапейскіх інтарэсаў, але пакуль усё ж застаюцца празмерна залежнымі ад Расіі. Прычым як у эканамічнай, так і ў палітычнай прасторы.

Пра стварэнне новай мадэлі супрацоўніцтва распавёў міністр замежных спраў Люксембурга Жан Асэльборн. Па ягоных словах, новы тып дамовы будзе звязваць гэтыя краіны ў меншай ступені, чым класічная дамова аб эканамічнай асацыяцыі з ЕС — тая, якую падпісалі, у прыватнасці, Украіна і Малдова. У Брусэлі выдатна разумеюць, што Мінск і Ерэван не гатовыя падпісаць дамову аб эканамічнай асацыяцыі з Еўрасаюзам, бо гэтага ім проста не дазволіць зрабіць Масква. Еўрачыноўнікі разважаюць так: лепш мець хоць нейкае супрацоўніцтва сёння, каб паказваць Беларусі і Арменіі выгады еўрапейскага шляху развіцця, чым увогуле ніяк не ўраўнаважваць уплыў Расіі.

«Мы шукаем сістэму, пры якой не бурыліся б усе масты. Мы разумеем, што дамова аб асацыяцыі немагчымая, і таму мы гатовыя знайсці лягчэйшы варыянт, меней фундаментальны. Гэта не дамова аб асацыяцыі, якую падпісаць яны не могуць. Гэта будзе нешта на ўзровень ніжэй, не магу пакуль сказаць, як гэта будзе звацца», — распавёў Асэльборн. Па ягоных словах, новы тып дамовы не прадугледжвае распаўсюду на Беларусь і Арменію мытных палёгкаў, аднак «там будзе ўказана шмат што іншае».

З неафіцыйных крыніц стала вядома, што ў дамове прадугледжаны акцэнт на «кропкавае» супрацоўніцтва з беларускімі прадпрыемствамі, якое было б выгодным у роўнай ступені і беларусам, і еўрапейцам. Напрыклад, будзе захаваны статус-кво дачычна паставак з Беларусі нафтапрадуктаў, калійных соляў, металу. Актывізуецца транспамежнае супрацоўніцтва ў энергетыцы. Верагодна, будзе палегчаная працэдура сертыфікацыі для еўрапейскага рынка прадуктаў харчавання з Беларусі.

Што тычыцца санкцый, то рашэнне пра іх адмену будзе прымацца, зыходзячы з вынікаў выбараў прэзідэнта.

## З Усходу

З іншага боку, сваё «асаблівае эканамічнае меркаванне» Беларусі дыктуюць эксперты Еўразійскага банка развіцця (ЕАБР), які кіруе сродкамі Еўразійскага Фонду стабілізацыі і развіцця (ЕФСР). Так з нядаўніх часоў завецца Антыкрызісны фонд ЕўрАзЭС — той самы, які ў 2011 годзе выратаваў Беларусь буйным стабілізацыйным крэдытам. Гэтая структура дэ-факта цалкам кантралюецца Расіяй, і таму ўсе прапановы, што сыходзяць ад яе, у першую чаргу адпавядаюць расійскім жа інтарэсам.

**Пасля выбараў Беларусь і надалей будзе залежаць ад Расіі, размесціць на сваёй зямлі авіябазу, атрымае грошы на кансерваванне сваёй эканамічнай мадэлі**

Падставай даваць парады для ЕФСР стала жаданне ўладаў Беларусі атрымаць новы стабілізацыйны крэдыт у памеры $2–3 мільярды. У афіцыйным прэс-рэлізе ЕАБР сказана, што «для атрымання Беларуссю новага фінансавага крэдыту ўладам неабходна ўзмацніць прапанаваную раней праграму для забеспячэння ўстойлівасці вынікаў пераўтварэнняў, у тым ліку, на падставе ўрокаў, якія былі атрыманыя падчас выканання папярэдняй стабілізацыйнай праграмы ў 2011–2013 гадах». Калі перавесці на чалавечую мову, гэта гучыць так: «Нам не спадабалася, што ў мінулы раз вы ўзялі грошы, а рэформы не правялі, так што гэтым разам пачынайце з рэформаў».

Прапанаваныя рэформы выглядаюць цалкам па-рынкаваму, і нават з жорсткімі наступствамі для насельніцтва. Ва ўжо апублікаваных рэкамендацыях ЕФСР гаворыцца, што Саўмін і Нацбанк Беларусі павінны для дасягнення макраэканамічнай стабілізацыі «стварыць асновы для доўгатэрміновага ўстойлівага росту шляхам правядзення цвёрдай грашова-крэдытнай і кансерватыўнай падаткова-бюджэтнай палітыкі, збалансаванай палітыкі прыбыткаў насельніцтва, і рэалізацыі глыбокіх структурных рэформаў, нацэленых на паніжэнне ролі дзяржавы ў эканоміцы і актыўнае развіццё прыватнага сектара».

Праграма прадугледжвае скарачэнне аб'ёмаў фінансавання новых дзяржпраграм, памяншэнне дзяржаўных субсідый на падтрымку ЖКГ праз павышэнне ўзроўню акупляльнасці выдаткаў. У тэорыі ўсё гэта павінна спрыяць не толькі збалансаванаму выкананню дзяржбюджэта, але і вызваліць рэсурсы для развіцця прадпрымальніцтва ў краіне. Наступствам гэтых мер павінна стаць падвышэнне ўстойлівасці плацежнага балансу, нарошчванне ўзроўню міжнародных рэзерваў, запаволенне інфляцыі, паніжэнне працэнтных ставак і перанакіраванне рэсурсаў у найболей рэнтабельныя сектары.

На практыцы ж большасць з пералічанага мала прымальная для беларускіх уладаў з іх канцэпцыяй «сацыяльнай дзяржавы». Скарачэнне дзяржпраграм азначае, што стратныя беларускія заводы не атрымаюць бюджэтных грошай на «падтрымку штаноў». Памяншэнне субсідый на ЖКГ азначае, што працаўнікі гэтых заводаў, застаўшыся без зарплат, апынуцца яшчэ і перад фактам рэзкага росту «камуналкі». Адно плюс другое аўтаматычна азначае рост сацыяльнай напружанасці.

Вядома, сёе-тое ўлады Беларусі робяць ужо цяпер — менавіта са спісу тых мер, якія назваў ЕАБР. Напрыклад, адносна цвёрдая грашова-крэдытная палітыка і пераход да больш гнуткага рэжыму абменнага курсу, уключаючы выкарыстанне механізму падвойнага аўкцыёну з чэрвеня гэтага года дазволілі стабілізаваць сітуацыю на валютным рынку.

Тым не менш, нягледзячы на адносную стабілізацыю на валютным рынку і станоўчае сальда бюджэтных прыбыткаў, беларуская эканоміка застаецца ў рэцэсіі. За студзень-ліпень 2015-га ВУП скараціўся на 4%. Каб пераламаць сітуацыю, уласна, і патрабуецца крэдыт у $2–3 мільярды ад ЕСФР.

Улады могуць пайсці на непапулярныя меры ў эканоміцы пасля прэзідэнцкай кампаніі. Можна ўзгадаць 2011 год, калі неўзабаве пасля інаўгурацыі Лукашэнкі прыспела дэвальвацыя беларускага рубля. Тады яна выклікала рэзкае падзенне прыбыткаў насельніцтва і адносна масавыя «маўклівыя пратэсты». Затое прадпрыемствы (найперш экспартаарыентаваныя) адчулі сябе нашмат лепш, а ў канцы года паспяховы продаж «Белтрансгаза» расійцам дапамог вырашыць мноства бюджэтных праблем.

Зараз можа адбыцца нешта падобнае, але ўжо пад больш цвёрдым кантролем з Масквы.




## Рэзюме

Па сутнасці, Брусэль ды Масква паставілі Мінск перад выбарам. Масква зрабіла гэта больш катэгарычна: яна прапаноўвае льготны крэдыт на $2–3 мільярды, які Беларусь можа атрымаць яшчэ да канца года. Але ўзамен беларуская ўлада павінна пацвердзіць сваю лаяльнасць. Невыпадкова размовы пра крэдыт практычна супалі з прапановай размясціць у Беларусі расійскую авіябазу з цяжкімі дальнімі знішчальнікамі Су-27.

Ці пагодзіцца беларуская ўлада на рэформы, якіх патрабуе ЕФСР? Хутчэй за ўсё, фармальна пагодзіцца, але пасля пачне «круціць азадкам». Не ўпершыню ж...

Прапанова ж еўрапейцаў — нейкі незразумелы і яшчэ нават не распрацаваны дакумент. Сурагат дамовы аб эканамічнай асацыяцыі з ЕС, з якой дагэтуль аніякай карысці не мае ні Украіна, ні Малдова.

Таму грунтоўных зменаў у беларускай палітыцы пасля выбараў не адбудзецца. Беларусь і надалей будзе залежаць ад Расіі, размесціць на сваёй зямлі авіябазу, атрымае грошы на далейшае кансерваванне сваёй эканамічнай мадэлі. А што з Еўропай? Не будзем забываць лукашэнкаўскую канцэпцыю «ласкавага цяля». Калі выбары пройдуць «больш дэмакратычна, чым папярэднія», цалкам магчыма, што ЕС здыме санкцыі, але наўрад ці стане фінансаваць «беларускую мадэль».

TV

## 28 ВЕРАСНЯ, ПАНЯДЗЕЛАК

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.00** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00** Навіны.
**07.05** Навіны эканомікі.
**07.10** Зона Х. Крымінальная хроніка.
**07.20** Добрай раніцы, Беларусь!
**08.00** Навіны.
**08.05** Навіны эканомікі.
**08.10** Зона Х. Крымінальная хроніка.
**08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**09.00** Навіны.
**09.10** Галоўны эфір.
**10.05** Клуб рэдактараў.
**10.45** Дэтэктыўная меладрама «Бацька Мацвей» (Расія).
**11.45** Лірычная камедыя «Закаханы і бяззбройны» (Расія).
**12.00** Навіны.
**12.10** Лірычная камедыя «Закаханы і бяззбройны» (Расія).
**13.40** Вострасюжэтная меладрама «Я не змагу цябе забыцца» (Расія). 1-я серыя.
**15.00** Навіны.
**15.15** Навіны рэгіёну.
**15.25** Вострасюжэтная меладрама «Я не змагу цябе забыцца» (Расія). 2-я серыя.
**17.35** Беларуская часіна.
**18.40** Навіны рэгіёну.
**19.00** Навіны.
**19.20** Арэна.
**19.40** Зона Х. Крымінальныя навіны.
**20.00** Дэтэктыўная меладрама «Бацька Мацвей» (Расія).
**21.00** Панарама.
**21.45** Беларусь XXI.
**22.05** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**23.35** Зона Х. Крымінальныя навіны.
**23.55** Навіны.
**00.10** Дзень спорту.
**00.25** Лірычная камедыя «Закаханы і бяззбройны» (Расія).

### ОНТ

**06.00, 08.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.00** Нашы навіны.
**09.05** Контуры.
**10.00** «Жыць здарова!».
**11.00** Нашы навіны.
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Фазэнда».
**11.55** «Модны прысуд».
**13.00** Нашы навіны.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Мужчынскае / Жаночае».
**14.10** Сам-насам з усімі.
**15.05** Час пакажа.
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** Час пакажа.
**16.50** «Давай пажэнімся!».
**18.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** Зваротны адлік.
**18.55** Чакай мяне.
**20.00** Час.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Справа прынцыпу.
**22.15** Легенда пра Гога.
**23.15** Адборачны этап чэмпіёна свету па брэйк-дансе.
**01.00** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**08.30** «Тыдзень». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**09.25** Вялікі сняданак.
**10.50** «Далёкія сваякі».
**10.40** «Салдаты 10». Серыял.
**11.30** «Сямейныя драмы».
**12.30** «Не хлусі мне!».
**13.50** «Ежа багоў».
**14.45** Такі лёс.
**15.35** Дакументальны праект.
**16.50** «Вялікі горад».
**17.25** «Міншчына».
**17.35** «Званая вячэра».
**18.35** Самыя шакавальныя гіпотэзы.
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Ваенная таямніца».
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** Тыдзень спорту.
**23.30** «Прыгажуня з трушчоб».
**01.25** Па загадзе багоў.

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Тэлераніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** «Арол і рэшка. Шопінг». Пазнавальнае стайл-шоў (Украіна).
**10.00** Тэлебарометр.
**10.35** Анімацыя для ўсёй сям'і.
**00.10** Вострасюжэтны дэтэктыў «Выпадковы сведка» (Расія).
**00.35** Навуковае шоў прафесара Адкрывашкіна.
**13.15** Дэтэктыў «Метад Фрэйда».
**15.15** Мастацкі фільм «Пасля нашай эры».
**17.00** «Перазагрузка». Маладзёжнае ток-шоў.
**17.55** Сімвал веры.
**18.15** Людзі добрыя.
**18.35** Арт-код.
**19.05** Меладраматычны серыял «Не нарадзіся прыгожай» (Расія).
**21.05** Тэлебарометр.
**21.10** «Экстрасэнсы-дэтэктывы». Дакументальны цыкл расследаванняў (Украіна).
**22.05** КЕНА.
**22.10** Дэтэктыўны серыял «Косці» (ЗША).
**23.05** Рэпарцёр.
**23.55** Трылер «Прывіды».
**00.50** Камедыйны серыял «Як я сустрэў вашу маму» (ЗША).

### 3 БЕЛАРУСЬ

**07.20** «Дабраранак».
**07.50** «Калейдаскоп».
**08.00** «Размовы пра духоўнае».
**08.15** «Цені знікаюць апоўдні». Гістарычная драма. 7-я серыя, заключная (СССР, 1971 г.).
**09.15** Хіт-парад «Сто песень для Беларусі».
**10.10** «Наперад у мінулае».
**10.35** «Размаўляем па-беларуску». Тэлевіктарына.
**11.10** Вандроўка з «Бясседай». Магілёўская вобласць.
**11.35** «Калейдаскоп».
**11.50** «Неадкрытыя астравы». Прыгодніцкі фільм (СССР, 1974 г.).
**12.50** Мультфільм.
**13.05** «Справы фамільныя». «Каралі шкла». Пра гісторыю шклозавода «Нёман».
**13.30** «Застылая музыка Лангбарда». Дакументальны фільм.
**14.10** «Калейдаскоп».
**14.25** «Чакай мяне». Ваенная драма (СССР, 1942 г.).
**15.50** «Нябачны фронт». Георгій Жукаў.
**16.35** «Майскія зоркі». Ваенная драма (СССР, 1959 г.).
**18.05** «Калейдаскоп».
**18.20** «Размовы пра духоўнае».
**18.30** «Каханне.?» Меладрама (Беларусь, 2009 г.).
**19.10** «Ночевала тучка золотая..» Драма (СССР, 1989 г.).
**20.45** «Калыханка».
**21.05** «Размаўляем па-беларуску». Тэлевіктарына.
**21.35** «Свет Караткевіча». Дакументальны фільм.
**22.05** «Хрыстос прызямліўся ў Гародні». Філасофская прытча (СССР, 1967 г.).
**23.25** «Дыя@блог». «Пра літаратуру».
**23.50** «Калейдаскоп».
**00.05** «Размовы пра духоўнае».

### 5 БЕЛАРУСЬ

**07.10** PRO спорт. Навіны.
**07.25** Спорт-мікс.
**07.45** PRO спорт. Навіны.
**08.00** Тэніс. Турнір ВТА. Ухань.
**12.00** Валейбол. Чэмпіянат Еўропы. Жанчыны.
**13.30** Тэніс. Турнір ВТА. Ухань.
**17.30** Оверайм.
**17.55** Валейбол. Чэмпіянат Еўропы. Жанчыны.
**20.05** Час футболу.
**20.55** Футбол. Чэмпіянат Англіі. Агляд тура.
**21.55** Футбол. Чэмпіянат Англіі. Вэст Бромвіч - Эвертан.
**23.55** Еўрапейскі покерны тур.
**00.50** PRO спорт. Навіны.

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** ПраСвет.
**07.35** Зона «Свабоды».
**08.10** Форум (ток-шоў): Незалежнасць – гэта.
**08.55** Апошнія сакрэты Трэцяга Райху, дак. серыял: Генерал Гітлера.
**09.45** Загадкі беларускай гісторыі: Касцюшка contra Сувораў.
**10.05** Мова нанова: Гатэль.
**10.25** Эксперт (сатырычная праграма).
**10.55** ПраСвет.
**11.30** Зона «Свабоды».
**12.10** Невядомая Беларусь: Прайграная гісторыя. Вяртанне ў Бішофсвэрду, д/ф.
**12.50** Кітай і рэальнасць, д/ф.
**13.55** Кінаклуб: «Анегін».
**14.05** Анегін, м/ф.
**15.50** Сведкі: Паддашак.
**16.00** Mad Men. Утрапёныя IV, серыял.
**16.50** Банда, д/ф.
**17.50** Мова нанова: Гатэль.
**18.10** Беларусы ў Польшчы.
**18.30** Студыя «Белсат».
**18.45** Форум (ток-шоў): Незалежнасць – гэта.
**19.30** Студыя «Белсат».
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.40** Асабісты капітал.
**22.05** Рэмарка (культурніцкая праграма).
**22.30** Кінаклуб: «Анегін».
**22.45** Анегін, м/ф.
**00.25** Студыя «Белсат».
**02.15** Асабісты капітал (эканамічная праграма).
**02.40** Рэмарка (культурніцкая праграма).

## 29 ВЕРАСНЯ, АЎТОРАК

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.00** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00** Навіны.
**07.05** Навіны эканомікі.
**07.10** Зона Х. Крымінальная хроніка.
**07.20** Добрай раніцы, Беларусь!
**08.00** Навіны.
**08.05** Навіны эканомікі.
**08.10** Зона Х. Крымінальная хроніка.
**08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**09.00** Навіны.
**09.10** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**11.05** Дэтэктыўная меладрама «Бацька Мацвей» (Расія).
**12.00** Навіны.
**12.10** Серыял «Сямейныя меладрамы - 5».
**13.10** Дзень у вялікім горадзе.
**14.05** Камедыйны серыял «Думай як жанчына» (Расія).
**15.00** Навіны.
**15.15** Навіны рэгіёну.
**15.25** Крымінальная меладрама «Адшпіліце рамяні» (Расія).
**16.35** Серыял «Сямейныя меладрамы - 5».
**17.35** Беларуская часіна.
**18.40** Навіны рэгіёну.
**19.00** Навіны.
**19.20** Сфера інтарэсаў.
**19.40** Зона Х. Крымінальныя навіны.
**20.00** Дэтэктыўная меладрама «Бацька Мацвей» (Расія).
**21.00** Панарама.
**21.45** Беларусь XXI.
**22.05** Буйным планам.
**22.35** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**00.10** Зона Х. Крымінальныя навіны.
**00.25** Сфера інтарэсаў.
**00.45** Навіны.
**01.05** Дзень спорту.
**01.20** Крымінальная меладрама «Адшпіліце рамяні» (Расія).

### ОНТ

**06.00, 08.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Жыць здарова!».
**10.25** «Кантрольная закупка».
**11.00** Нашы навіны.
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Фазэнда».
**11.50** «Модны прысуд».
**13.00** Нашы навіны.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Мужчынскае / Жаночае».
**14.10** Сам-насам з усімі.
**16.00** Нашы навіны.
**16.10** Навіны спорту.
**16.20** «Час пакажа».
**16.50** «Давай пажэнімся!».
**18.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** Серыял «Татавы дочкі».
**18.50** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Тэлесерыял «Джуна».
**23.05** Мастацкі фільм «ПіраМММіда».
**01.00** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**08.30** «Смяротная зброя».
**10.15** «Далёкія сваякі».
**10.40** «Салдаты 10». Серыял.
**11.30** «Сямейныя драмы».
**12.30** «Не хлусі мне!».
**13.50** Наша справа.
**14.05** Ежа багоў.
**14.45** Тэлесерыял «Водбліскі».
**16.50** «Цэнтральны рэгіён».
**17.25** «Міншчына».
**17.35** «Званая вячэра».
**18.35** Дакументальны праект.
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** Дакументальны праект.
**21.20** Участак лейтэнанта Качуры.
**22.30** «24 гадзіны».
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** Простыя пытанні.
**23.20** Аўтапанарама.
**23.45** Тэлесерыял «Водбліскі».
**01.25** Дакументальны праект.

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Тэлераніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** «Арол і рэшка. На краі свету». Пазнавальна-забаўляльнае шоў (Украіна).
**10.00** «Экстрасэнсы-дэтэктывы». Дакументальны цыкл расследаванняў (Украіна).
**11.00** «Зразумець і абясшкодзіць».
**11.30** Азбука густу.
**12.20** Прыгодніцкі серыял «Бафі - знішчальніца вампіраў» (ЗША).
**13.15** Дэтэктыўны серыял «Косці» (ЗША).
**14.10** Меладраматычны серыял «Не нарадзіся прыгожай» (Расія).
**16.00** «Арол і рэшка. На краі свету». Пазнавальна-забаўляльнае шоў (Украіна).
**17.00** «Пін_код». Інтэрактыўны моладзевы праект.
**17.55** Пульс.
**19.05** Меладраматычны серыял «Не нарадзіся прыгожай» (Расія).
**21.05** Тэлебарометр.
**21.10** «Экстрасэнсы-дэтэктывы». Дакументальны цыкл расследаванняў (Украіна).
**22.05** Спортлато 6 з 49, КЕНА.
**23.55** 21.30 Футбол. БАТЭ - Рома.
**01.00** Дэтэктыўны серыял «Косці» (ЗША).
**01.50** «Пін_код». Інтэрактыўны моладзевы праект.

### 3 БЕЛАРУСЬ

**07.20** «Дабраранак».
**07.50** «Калейдаскоп».
**08.05** «Ночевала тучка золотая..» Драма (СССР, 1989 г.).
**09.35** «Я не самотны…» Дакументальны фільм.
**10.05** «Хрыстос прызямліўся ў Гародні». Філасофская прытча (СССР, 1967 г.).
**11.30** «Свет Караткевіча». Дакументальны фільм.
**12.25** «Калейдаскоп».
**12.35** «Запаведнымі сцежкамі беларускай зямлі». Дакументальны фільм.
**12.55** «Святло далёкай зоркі». Памяці опернай спявачкі, народнай артысткі СССР зоркі». Памяці опернай спявачкі, народнай артысткі СССР Святланы Данілюк.
**13.30** Е.Міровіч. «Машэка». Тэлеверсія спектакля Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы. Частка 1-я.
**14.55** «Купалаўцы: погляд праз час». Акцёрскі ансамбль.
**15.15** Е.Міровіч. «Машэка». Тэлеверсія спектакля Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы. Частка 1-я.
**16.15** «Калейдаскоп».
**16.25** «Без надзеі».Ваенная драма (СССР, 1965 г.).
**17.55** «Міклаш Янча. Шчырая размова». Дакументальны фільм.
**18.45** «Калейдаскоп».
**19.00** «Сава Марозаў». Гістарычная драма. 1-я і 2-я серыі (Расія, 2007 г.).
**20.45** «Калыханка».
**21.05** «Дыя@блог». «Пра літаратуру».
**21.30** «Сава Марозаў». Гістарычная драма. 3-я і 4-я серыі (Расія, 2007 г.).
**23.10** «Дыя@блог». «Пра мову».
**23.35** «Святло далёкай зоркі». Памяці опернай спявачкі, народнай артысткі СССР зоркі». Памяці опернай спявачкі, народнай артысткі СССР Святланы Данілюк.
**00.05** «У гасцях у Барыса Аверына». Кандыдат філалагічных навук Валерый Цімафееў.
**00.30** «Калейдаскоп».

### 5 БЕЛАРУСЬ

**07.10** PRO спорт. Навіны.
**07.25** Спорт-мікс.
**07.45** PRO спорт. Навіны.
**08.00** Тэніс. Турнір ВТА. Ухань.
**12.00** Футбол. Чэмпіянат Англіі. Агляд тура.
**12.56** Час футболу.
**13.30** Тэніс. Турнір ВТА. Ухань.
**16.55** Хакей. КХЛ.
**19.25** Хакей. Кубак Беларусі.
**21.40** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. 2. тур.
**23.50** Спорт-кадр.
**00.20** Еўрапейскі покерны тур.
**01.10** PRO спорт. Навіны.

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Студыя «Белсат».
**07.15** Форум (ток-шоў): Незалежнасць – гэта.
**08.00** Студыя «Белсат».
**10.10** Асабісты капітал (эканамічная праграма).
**10.35** Рэмарка (культурніцкая праграма).
**11.00** Цырульніца, м/ф.
**12.50** Студыя «Белсат».
**13.05** Форум (ток-шоў): Незалежнасць – гэта.
**13.50** Студыя «Белсат».
**16.00** Асабісты капітал (эканамічная праграма).
**16.20** Рэмарка (культурніцкая праграма).
**16.45** Ратаўнікі, серыял.
**17.30** Эксперт (сатырычная праграма).
**18.00** Відзьмо-невідзьмо (інфармацыйна-забаўляльны агляд).
**18.30** Студыя «Белсат».
**19.00** Рэпартэр (публіцыстычная праграма).
**19.30** Студыя «Белсат».
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.40** Два на два (тэледыскусія): Валер Булгакаў і Сяргей Дубавец: Ці ўдалася уладам «мяккая беларусізацыя»?
**22.10** Моц матылькоў, рэпартаж.
**22.30** Банда, д/ф.
**23.30** Студыя «Белсат».
**01.10** Два на два (тэледыскусія): Валер Булгакаў і Сяргей Дубавец: Ці ўдалася уладам «мяккая беларусізацыя»?
**01.45** Моц матылькоў, рэпартаж.

TV

## 30 ВЕРАСНЯ, СЕРАДА

**1 БЕЛАРУСЬ**

**06.00** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00** Навіны.
**07.05** Навіны эканомікі.
**07.10** Зона Х. Крымінальная хроніка.
**07.20** Добрай раніцы, Беларусь!
**08.00** Навіны.
**08.05** Навіны эканомікі.
**08.10** Зона Х. Крымінальная хроніка.
**08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**09.00** Навіны.
**09.10** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**11.05** Дэтэктыўная меладрама «Бацька Мацвей» (Расія).
**12.00** Навіны.
**12.10** Серыял «Сямейныя меладрамы - 5» (Украіна).
**13.10** Дзень у вялікім горадзе.
**14.05** Камедыйны серыял «Думай як жанчына» (Расія).
**15.00** Навіны.
**15.15** Навіны рэгіёну.
**15.25** Крымінальная меладрама «Адшпіліце рамяні» (Расія). Заключная серыя.
**16.35** Серыял «Сямейныя меладрамы - 5» (Украіна).
**17.35** Беларуская часіна.
**18.40** Навіны рэгіёну.
**19.00** Навіны.
**19.20** Нашы.
**19.35** Зона Х. Крымінальныя навіны.
**20.00** Дэтэктыўная меладрама «Бацька Мацвей» (Расія).
**21.00** Панарама.
**21.45** Беларусь XXI.
**22.35** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**00.10** Зона Х. Крымінальныя навіны.
**00.30** Навіны.
**00.45** Дзень спорту.
**01.05** Крымінальная меладрама «Адшпіліце рамяні» (Расія). Заключная серыя.

**Н**

**06.00, 08.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Жыць здорава!».
**10.25** «Кантрольная закупка».
**11.00** Нашы навіны.
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Фазэнда».
**11.50** «Модны прысуд».
**13.00** Нашы навіны.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Мужчынскае / Жаночае».
**14.10** Сам-насам з усімі.
**16.00** Нашы навіны.
**16.10** Навіны спорту.
**16.20** «Час пакажа».
**16.50** «Давай пажэнімся!».
**18.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** Серыял «Таты дочкі».
**18.50** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Мастацкі фільм «Схватка».



**23.05** Мастацкі фільм «Графіці».
**01.20** Начныя навіны.

**СТВ**

**06.00** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.30** «24 гадзіны».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**08.30** Дакументальны праект.
**09.30** Участак лейтэнанта Качуры.
**10.30** «24 гадзіны».
**10.40** «Салдаты 10». Серыял.
**11.30** «Сямейныя драмы».
**12.30** «Не хлусі мне!».
**13.30** «24 гадзіны».
**13.50** Ежа багоў.
**14.45** «Водблiскi». Серыял.
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Мінск і мінчане».
**17.25** «Міншчына».
**17.35** «Званая вячэра».
**18.35** Дакументальны праект.
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «Сталічная падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** Дакументальны праект.
**22.00** «Глядзець усім!».
**22.30** «24 гадзіны».
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** Простыя пытанні.
**23.20** «Водблiскi». Серыял.
**01.05** «Сакрэтныя тэрыторыі».

**2 БЕЛАРУСЬ**

**07.00** Тэлераніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** «Арол і рэшка. На краі свету». Пазнавальна-забаўляльнае шоў (Украіна).
**10.05** «Разбуральнікі міфаў».
**11.05** «Зразумець і абясшкодзіць».
**11.40** Беларуская кухня.
**12.25** Прыгодніцкі серыял «Бафі - знішчальніца вампіраў» (ЗША).
**13.20** Дэтэктыўны серыял «Косці» (ЗША).
**14.15** Меладраматычны серыял «Не нарадзіся прыгожай» (Расія).
**16.05** «Арол і рэшка. На краі свету». Пазнавальна-забаўляльнае шоў (Украіна).
**17.00** «Пін_код». Інтэрактыўны моладзевы праект.
**17.55** Адкрытае пытанне.
**19.05** Меладраматычны серыял «Не нарадзіся прыгожай» (Расія).
**20.55** Цела чалавека.
**21.05** Тэлебарометр.
**21.10** «Экстрасэнсы-дэтэктывы». Дакументальны цыкл расследаванняў (Украіна).
**21.35** Спортлато 5 з 36, КЕНА.
**21.45** Футбол. ПСВ - ЦСКА.
**00.55** Дэтэктыўны серыял «Косці» (ЗША).
**01.40** «Пін_код». Інтэрактыўны моладзевы праект.

**3 БЕЛАРУСЬ**

**07.20** «Дабраранак».
**07.50** «Калейдаскоп».
**08.05** «Олівер Твіст». Драма (Вялікабрытанія, 1948 г.).
**09.55** «Вандроўніца». Дакументальны фільм. Старонкі кнігі Сафіі Снесаравай пра вандроўніцу Дар'юшку.
**10.35** «Сава Марозаў». Гістарычная драма. 1-я - 4-я серы (Расія, 2007 г.).
**13.55** «Калейдаскоп».
**14.10** «Святло далёкай зоркі». Памяці першага дырэктара Музея Якуба Коласа, старэйшага сына пісьменніка Данілы Міцкевіча.
**14.40** «Новая зямля». Гістарычная драма. 1-я і 2-я серыі (СССР, 1982 г.).
**16.55** У гасцях у Барыса Аверына. Кандыдат філалагічных навук Валерый Цімафееў.
**17.20** «Калейдаскоп».
**17.35** «Далей няма куды!» Камедыя (Францыя, 1976 г.).
**19.15** «Коні ў акіяне». Драма (СССР, 1989 г.).
**20.45** «Калыханка».
**21.05** «Дыя@блог». «Пра мову».
**21.30** «Зямля Саннікава». Прыгодніцкі фільм (СССР, 1972 г.).
**23.00** «Дыя@блог». «Пра прыгожае».
**23.30** «Святло далёкай зоркі». Памяці першага дырэктара Музея Якуба Коласа, старэйшага сына пісьменніка Данілы Міцкевіча.
**23.55** «Калейдаскоп».

**5 БЕЛАРУСЬ**

**07.15** PRO спорт. Навіны.
**07.30** Козел пра футбол.
**07.40** PRO спорт. Навіны.
**08.00** Тэніс. Турнір ВТА. Ухань.
**12.00** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. 2. тур. БАТЭ - Рома.
**13.30** Тэніс. Турнір ВТА. Ухань.
**17.30** Спорт-кадр.
**17.55** Валейбол. Чэмпіянат Еўропы. Жанчыны.
**19.55** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. 2. тур. «Астана» - «Галатасарай».
**21.40** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. 2. тур.
**23.50** PRO спорт. Навіны.

**БЕЛСАТ tv**

**07.00** Студыя «Белсат».
**07.30** Рэпартэр (публіцыстычная праграма).
**08.00** Студыя «Белсат».
**10.10** Два на два (тэледыскусія): Валер Булгакаў і Сяргей Дубавец: Ці ўдалася ўладам «мяккая беларусізацыя»?
**10.40** Моц матылькоў, рэпартаж.
**11.00** Банда, д/ф.
**12.00** Беларусы ў Польшчы.
**12.15** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**12.45** Мова нанова: Гатэль.
**13.05** Студыя «Белсат».
**13.35** Рэпартэр (публіцыстычная праграма).
**14.05** Студыя «Белсат».
**16.15** Два на два (тэледыскусія): Валер Булгакаў і Сяргей Дубавец: Ці ўдалася ўладам «мяккая беларусізацыя»?
**16.45** Моц матылькоў, рэпартаж.
**17.05** Вандроўная ноч, д/ф.
**18.00** Рэмарка (культурніцкая праграма).
**18.30** Студыя «Белсат».
**19.00** Асабісты капітал.
**19.20** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнавалчая праграма): Кім быў Кірыла Тураўскі?
**19.30** Студыя «Белсат».
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.40** Маю права (юрыдычная праграма).
**22.05** Чорным па белым (культурніцкая праграма): Альтэрнатыўная школа ў Беларусі, ці ёсць яна?
**22.30** Форум (ток-шоў): Незалежнасць – гэта.
**23.10** Эксперт (сатырычная праграма).
**23.40** Парадокс, серыял.
**00.25** Студыя «Белсат».
**02.10** Маю права (юрыдычная праграма).
**02.30** Чорным па белым (культурніцкая праграма): Альтэрнатыўная школа ў Беларусі, ці ёсць яна?

## 1 КАСТРЫЧНІКА, ЧАЦВЕР

**1 БЕЛАРУСЬ**

**06.00** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00** Навіны.
**07.05** Навіны эканомікі.
**07.10** Зона Х. Крымінальная хроніка.
**07.20** Добрай раніцы, Беларусь!
**08.00** Навіны.
**08.05** Навіны эканомікі.
**08.10** Зона Х. Крымінальная хроніка.
**08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**08.50** Слова Мітрапаліта Тадэвуша Кандрусевіча.
**09.00** Навіны.
**09.10** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**11.05** Дэтэктыўная меладрама «Бацька Мацвей» (Расія).
**12.00** Навіны.
**12.10** Серыял «Сямейныя меладрамы - 5».
**13.10** Дзень у вялікім горадзе.
**14.05** Камедыйны серыял «Думай як жанчына» (Расія).
**15.00** Навіны.
**15.15** Навіны рэгіёну.
**15.25** Прыгодніцкая меладрама «Вікторыя» (Расія). 1-я серыя.
**16.35** Серыял «Сямейныя меладрамы - 5».
**17.35** Беларуская часіна.
**18.40** Навіны рэгіёну.
**19.00** Навіны.
**19.20** Сфера інтарэсаў.
**19.40** Зона Х. Крымінальныя навіны.
**20.00** Дэтэктыўная меладрама «Бацька Мацвей» (Расія).
**21.00** Панарама.
**21.45** Беларусь XXI.
**22.35** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**00.05** Зона Х. Крымінальныя навіны.
**00.25** Сфера інтарэсаў.
**00.45** Навіны.
**01.00** Дзень спорту.
**01.15** Прыгодніцкая меладрама «Вікторыя» (Расія). 1-я серыя.

**Н**

**06.00, 08.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Жыць здорава!».
**10.25** «Кантрольная закупка».
**11.00** Нашы навіны.
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Фазэнда».
**11.50** «Модны прысуд».
**13.00** Нашы навіны.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Мужчынскае / Жаночае».
**14.10** Сам-насам з усімі.
**16.00** Нашы навіны.
**16.10** Навіны спорту.
**16.20** Час пакажа.
**16.50** «Давай пажэнімся!».
**18.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** Серыял «Таты дочкі».
**18.50** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Мастацкі фільм «Схватка».
**23.30** Мастацкі фільм «Апельсінавы сок».



**01.15** Начныя навіны.

**СТВ**

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.00** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.30** «24 гадзіны».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**08.30** Дакументальны праект.
**09.30** Участак лейтэнанта Качуры.
**10.30** «24 гадзіны».
**10.40** «Салдаты 10». Серыял.
**11.30** «Сямейныя драмы».
**12.30** «Не хлусі мне!».
**13.30** «24 гадзіны».
**13.50** Ежа багоў.
**14.45** «Водблiскi». Серыял.
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Мінск і мінчане».
**17.25** «Міншчына».
**17.35** «Званая вячэра».
**18.35** Дакументальны праект.
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «Сталічная падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** Дакументальны праект.
**22.00** «Глядзець усім!».
**22.30** «24 гадзіны».
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** Простыя пытанні.
**23.20** «Водблiскi». Серыял.
**01.25** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман».

**2 БЕЛАРУСЬ**

**07.00** Тэлераніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** «Арол і рэшка. На краі свету». Пазнавальна-забаўляльнае шоў (Украіна).
**10.05** «Разбуральнікі міфаў».
**11.05** «Зразумець і абясшкодзіць».
**11.40** Вось дык так!
**12.20** Прыгодніцкі серыял «Бафі - знішчальніца вампіраў» (ЗША).
**13.20** Дэтэктыўны серыял «Косці» (ЗША).
**14.10** Меладраматычны серыял «Не нарадзіся прыгожай» (Расія).
**16.00** «Арол і рэшка. На краі свету». Пазнавальна-забаўляльнае шоў (Украіна).
**17.00** «Пін_код». Інтэрактыўны моладзевы праект.
**17.55** Адкрытае пытанне.
**19.05** Серыял «Не нарадзіся прыгожай» (Расія).
**21.05** Тэлебарометр.
**21.10** «Экстрасэнсы-дэтэктывы». Дакументальны цыкл расследаванняў (Украіна).
**22.10** Спортлато 6 з 49, КЕНА.
**22.10** Дэтэктыўны серыял «Косці» (ЗША).
**23.10** «Пін_код». Інтэрактыўны моладзевы праект.
**00.00** Камедыйны серыял «Як я сустрэў вашу маму» (ЗША).

**3 БЕЛАРУСЬ**

**07.20** «Дабраранак».
**07.50** «Калейдаскоп».
**08.00** «Коні ў акіяне». Драма (СССР, 1989 г.).
**09.30** «Зямля Саннікава». Прыгодніцкі фільм (СССР, 1972 г.).
**11.00** «Далей няма куды!» Сатырычная камедыя (Францыя, 1976 г.).
**12.40** «Святло далёкай зоркі». Памяці жывапісца і педагога Сяргея Каткова.
**13.20** «Рымскі-Корсакаў». Біяграфічны фільм. (СССР, 1953 г.).
**15.10** «Калейдаскоп».
**15.20** «Олівер Твіст». Драма (Вялікабрытанія, 1948 г.).
**17.10** «Сіла веры».
**17.40** «Васіль Буслаеў». Фільм-казка (СССР).
**18.55** «Калейдаскоп».
**19.10** «Няскончаная аповесць». Драма (СССР, 1955 г.).
**20.45** «Калыханка».
**21.05** «Дыя@блог». «Пра прыгожае».
**21.30** «Дзень добры, сталіца!» Меладрама (Расія, 2003 г.).
**23.15** «Дыя@блог». «Пра вечнае».
**23.45** «Святло далёкай зоркі». Памяці жывапісца і педагога Сяргея Каткова.
**23.45** «Святло далёкай зоркі». Памяці жывапісца і педагога Сяргея Каткова.
**00.10** «Калейдаскоп».

**5 БЕЛАРУСЬ**

**07.40** Сэлфі.
**08.00** Тэніс. Турнір ВТА. Ухань.
**12.00** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. 2. тур. ЦСК - ПСВ.
**13.30** Тэніс. Турнір ВТА. Ухань.
**16.55** Хакей. КХЛ. «Югра» (Ханты-Мансійск) - «Дынама-Мінск».
**19.10** PRO спорт. Навіны.
**19.25** Футбол. На шляху да ЧС-2018.
**19.55** Футбол. Ліга Еўропы УЕФА. Манака - Тотэнхэм.
**21.55** Час футболу.
**22.00** Футбол. Ліга Еўропы УЕФА. Дынама - Рапід.
**00.25** Гандбол. Ліга чэмпіёнаў.
**01.50** PRO спорт. Навіны.

**БЕЛСАТ tv**

**07.00** Студыя «Белсат».
**07.30** Асабісты капітал (эканамічная праграма).
**07.50** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнавалчая праграма): Кім быў Кірыла Тураўскі?
**08.00** Студыя «Белсат».
**10.10** Маю права (юрыдычная праграма).
**10.35** Чорным па белым (культурніцкая праграма): Альтэрнатыўная школа ў Беларусі, ці ёсць яна?
**11.00** Парадокс, серыял.
**11.45** Форум (ток-шоў): Незалежнасць – гэта.
**12.25** Студыя «Белсат».
**13.00** Асабісты капітал (эканамічная праграма).
**13.20** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнавалчая праграма): Кім быў Кірыла Тураўскі?
**13.25** Студыя «Белсат».
**15.40** Маю права (юрыдычная праграма).
**16.05** Чорным па белым (культурніцкая праграма): Альтэрнатыўная школа ў Беларусі, ці ёсць яна?
**16.30** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнавалчая праграма): Кім быў Кірыла Тураўскі?
**16.40** Невядомая Беларусь: Днюка, д/ф.
**17.25** Форум (ток-шоў): Незалежнасць – гэта.
**18.10** Моц матылькоў, рэпартаж.
**18.30** Студыя «Белсат».
**19.00** Выбары-2015.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.40** Рэпартэр (публіцыстычная праграма).
**22.10** Відзьмо-невідзьмо (інфармацыйна-забаўляльны агляд).
**22.35** Востраў канібалаў, д/ф.
**23.30** Выбары-2015.
**01.30** Студыя «Белсат».

# Літаратурная Беларусь

Выпуск №9 (109)
(верасень)

КУЛЬТУРНА-АСВЕТНІЦКІ ПРАЕКТ
Грамадскага аб'яднання «Саюз беларускіх пісьменнікаў» і «Новага Часу»

lit-bel.org
novychas. info

## Змест



# Ніл Гілевіч: «Будзем аптымістамі, іншага не дадзена»

**30 верасня Нілу Сымонавічу Гілевічу спаўняецца 84 гады. Ён некалькі гадоў не выходзіць са сваёй кватэры на вуліцы Карла Маркса, але па-ранейшаму сочыць за навінамі, шчыра цікавіцца беларускай літаратурай і палітыкай. За сваю пенсію былога прафесара БДУ, дэпутата беларускага парламента ён выдаў 23 тамы ўласнага Збору твораў. Аднак праца над спадчынай не скончаная: рыхтуюцца яшчэ сем дадатковых тамоў з тых матэрыялаў, якія адшукаліся зусім нядаўна.**



Цягам некалькіх гадоў Ніл Сымонавіч адмаўляў журналістам у інтэрв'ю. Але для прэс-службы Саюза беларускіх пісьменнікаў зрабіў выключэнне. Размова — пра Беларусь, Украіну, сёлетніх кандыдатаў на прэзідэнта, пра Жызнеўскага і Чаркашына. Пра ўсё, што набалела.

***— Ніл Сымонавіч, вы адзіны Народны паэт Беларусі, старэйшы нацыянальны творца, дзяржаўны дзеяч і палітык. Якою вам бачыцца Беларусь 2015 года, ці адчуваюцца пэўныя змены да лепшага альбо да горшага?***

— На вялікі жаль, вясёлага на сённяшні дзень нічога не бачу. Як і раней — і год, і два, і пяць, і дзесяць назад — наша грамадства ці нават, скажам, народ наш, насельніцтва Беларусі далёка не ўсё паднялося да разумення галоўнай задачы, якая стаіць перад намі, перад нашай дзяржавай. Галоўная задача — не дапусціць, каб наша мова і далей гінула так, як яна гіне цяпер. Без усведамлення, што такое мова ў жыцці народа, што такое нацыянальная культура, нацыянальная гісторыя, у народа не можа быць будучыні. Дык вось, на вялікі жаль, гэту ісціну, апрабаваную дзясяткамі народаў на працягу стагоддзяў, у нас разумеюць далёка не ўсе. І таму падымаюць пытанні, патрабуюць вырашаць эканамічныя праблемы, сацыяльныя, экалагічныя і іншыя. Не ўсведамляючы, што паперадзе ўсіх праблем павінна ісці праблема мовы. Сказаў жа некалі першы вялікі, першы народны беларускі паэт Францішак Багушэвіч: «Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!». Усё! Што ж незразумелага? Калі не хочам памерці, а хочам жыць, значыць, павінны перш за ўсё ратаваць мову. Гэтым не адмаўляючы важнасць рашэння іншых вышэйпералічаных задач. На вялікі жаль, і сёлетняя сітуацыя, і пяць гадоў назад, і дзесяць... Прэтэндэнты на самую высокую пасаду ў нас вось на гэта самае галоўнае забываюцца. Не лічаць самым галоўным. Мяне гэта бязмерна засмучае. Інтэлігенцыя гэта павінна разумець. Канечне, некаторыя з прэтэндэнтаў на правадыра краіны забываюцца па іншых прычынах. Але яны і не з'яўляюцца патрыётамі Беларусі. Іх мала цікавіць лёс Беларусі менавіта як «беларускай Беларусі». Таму лічу, што сёння найпершы абавязак усіх свядомых беларускіх грамадзян — патрыётаў бацькаўшчыны — думаць пра гэта, турбавацца пра гэта. Ну і па меры магчымасцяў дабівацца карэнных пераменаў у гэтых адносінах.

***— Апошнія некалькі гадоў назіраецца пэўнае ажыўленне цікавасці да мовы. Адкрываюцца добраахвотніцкія бясплатныя курсы беларускай мовы. І яны ніяк не звязаны з дзяржаўнай адукацыяй. Як вы думаеце, мажліва ў нашых варунках будучыня беларускай мовы за недзяржаўнымі адукацыйнымі праектамі?***

— Дык гэта і ёсць сапраўдная прапаганда беларускай мовы. Больш за тое, выхаванне павагі і любові да беларускай мовы, але менавіта не з ласкі дзяржавы. Гэта выдатная падзея, выдатная наша рэалія, што ўтвараюцца такія асяродкі, дзе кожны, хто жадае, можа палепшыць сваё веданне мовы. Гэта архіважна. Я вітаю, як кажуць, у абедзьве рукі тое, што ў нас ёсць такое. Праўда, не ў курсе, ці ёсць падобнае па-за Мінскам?

***— Так-так. Ёсць у абласных гарадах і ў некаторых раённых цэнтрах.***

— Дык гэтаму толькі радавацца трэба. І пашыра́ць: хай яшчэ больш будзе такіх курсаў, школаў, гурткоў, як ні назавіце. Вось гэта і будзе рост нацыянальнай самасвядомасці. Вось праз гэта мы ўсім народам і дойдзем да разумення таго запавету Багушэвіча. Я вітаю, падтрымліваю, зычу і здароўя і поспехаў у гэтай працы.

***— Скажыце, наколькі ўдаецца вам сачыць за новымі кнігамі, за літаратурнай перыёдыкай, наогул за станам сучаснай беларускай літаратуры?***

— Я ўжо некалькі разоў сказаў «на вялікі жаль» і яшчэ раз скажу: на вялікі жаль, вельмі мала. Па стане здароўя. У мяне ўвогуле глядзіць толькі адно вока, і тое ўсё слабей і слабей. Мне чытаць вельмі цяжка, сам амаль не чытаю. Вось прыходзіць часам пляменніца, сястра малодшая, чытае. Ну яшчэ прэсу сяк-так пераглядаю, хоць загалоўкі, набраныя буйнейшымі літарамі. Таму стараюся больш слухаць радыё. Бывае, што ўвесь вечар і да позняй ночы каля радыё — і нашага афіцыйнага дзяржаўнага, і Радыё Свабода, і іншыя станцыі — каб усё-такі быць у курсе, дзе, што і як адбываецца. Выручаюць і сябры, прыйдуць, раскажуць, абмяняемся думкамі па тым ці іншым пытанні. Я вельмі неабыякавы да таго, што адбываецца ў нашай краіне і ў блізкім свеце. За падзеямі ва Украіне з першага дня выхаду на Майдан я сачыў і сачу, як толькі можна. І вельмі хачу і спадзяюся, што паразумнеюць нарэшце тыя, хто сёння займае не тое што небратэрскую, але недружалюбную пазіцыю ў дачыненні да нашай братняй Украіны. Так нельга, катэгарычна так нельга.

**Без усведамлення, што такое мова ў жыцці народа, што такое нацыянальная культура, нацыянальная гісторыя, у народа не можа быць будучыні**

***— Цяпер стаўленне беларусаў да Украіны праз расійскія СМІ падзеленае на дзве часткі, два лагеры. Ёсць тыя, хто верыць расійскім навінам і тыя, хто не верыць.***

— Натуральна. Мне цяжка сказаць, але я ведаю, што мы падзеленыя на дзве палавіны і, зноў жа «на вялікі жаль», нашмат больш тых, хто падтрымлівае Расію і не перажывае, не хварэе за лёс Украіны. Што хацець, калі наша насельніцтва, у вялікай сваёй частцы, за Беларусь не змагаецца і не перажывае — дык дзе ж жыво там за Украіну! І аднак жа, думаю, я не памыляюся, калі мяркую, што з ліку нашай моладзі ўсё больш і больш тых, хто разумее наш абавязак крэўных братоў, суседзяў украінскага народа суперажываць і, па магчымасці, дапамагаць. Мяне вельмі кранула, што нямала нашых хлопцаў удзельнічала і на Майдане, і ў баях на баку ўкраінскай арміі за незалежную і непадзельную Украіну. З вялікім хваляваннем чытаў пра смерць і пахаванне берасцейскага хлопца Алеся Чаркашына. Вельмі кранула мяне, што столькі людзей сабралася на пахаванне. Узрадавала вестка пра ўрадавую ўзнагароду, дадзеную пасмяротна Міхасю Жызнеўскаму. Гэта і сапраўдныя беларусы, і сапраўдныя сябры братняй Украіны.

***— Вы кажаце, што праз радыё і газеты сочыце за грамадска-палітычнай сітуацыяй. Якое ў вас склалася меркаванне наконт чарговых прэзідэнцкіх выбараў, калі можна ўжываць тут гэтае гучнае слова.***

— Апошні раз я ўдзельнічаў у выбарах у 1994 годзе. Пасля вельмі хутка зразумеў, што з намі здарылася, з нашай Беларуссю. Выбараў сапраўдных, належных, як ва ўсіх дэмакратычных краінах, не можа быць, пакуль не памяняецца сітуацыя. З павагі да сябе, да свайго разумення, што такое дэмакратыя і абавязкі кіраўніцкай дэмакратычнай краіны, я не хачу прыніжаць сябе і ўдзельнічаць нават намінальна. І на гэты раз, што б ні гаварылі, што б ні абяцалі, усё застанецца як было. Мы павінны былі ісці шляхам, як у найбольш перадавых еўрапейскіх краінах: тэрмін прэзідэнцтва — максімум дзве кадэнцыі. Не больш. А ў нас, бачыце, дваццаць адзін год — адзін і той жа прарэжым. Калі гаварыць пра кандыдатаў з апазіцыі...

**Пачатак.**

**Працяг на стар. 13 (5) »**

## ПАЛІЦА

### «Поўня» Леаніда Галубовіча



Зборнік выбраных твораў паэта, рэдактара і крытыка Леаніда Галубовіча, куды ўвайшлі вершы і мініяцюры, пабачыў свет у Бібліятэчцы часопіса «Дзеяслоў» у выдавецтве «Кнігазбор».

Кніга змяшчае найлепшыя вершы, напісаныя за трыццаць пяць гадоў, што ўваходзілі ў папярэднія зборнікі («Таемнасць агню» (1984), «Споведзь бяссоннай душы» (1989), «Бусел без гнязда» (1989), «Таемнасць споведзі» (1993), «Заложнік цемры» (1994), «Апошнія вершы Леаніда Галубовіча» (2000), «З гэтага свету» (2012)), а таксама «зацемкі з левай кішэні» з аднайменнага выдання, прысвечаныя літаратурнай дзейнасці.

«Зямная філасофія жыцця, зрытмізаваная сэрцам і зарыфмаваная душой» — так лаканічна і глыбокасэнсоўна анансуецца зборнік, прымеркаваны да 65-гадовага юбілею аўтара.

«Адна з асаблівасцяў яго паэзіі — смеласць, бясстрашнасць, бескампрамісная сумленнасць у дачыненні да таго, пра што ён гаворыць», — адзначаў у адным з выступленняў паэт Анатоль Вярцінскі пра Леаніда Галубовіча.

«Прыгожыя словы часцей за ўсё непраўдзівыя. Але — вабныя. Скарыстаўшы, забываеш іх, як злізаную цукерку... — піша аўтар у адной са сваіх мініяцюр. — Праўдзівыя словы — страшныя. Яны — трывалыя, цяжкія, непазбытныя. І менавіта на іх трымаецца свет, як дом на падмурку...»

### «Звычайны шоў-бізнес» Юры Несцярэнкі



Літаратар і музыкант, стваральнік гуртоў «White Night Blues» і «Nestary Band» Юры Несцярэнка прадстаўляе кнігу апавяданняў і навелаў, якая пабачыла свет у серыі «Кнігарня пісьменніка» Бібліятэкі Саюза беларускіх пісьменнікаў. Прадмову да зборніка напісала Людміла Рублеўская.

Першая празаічная кніга Юрыя змяшчае як аўтабіяграфічныя, так і па-мастацку змадэляваныя сюжэты. Практычна ўсе творы закранаюць музычную тэматыку, у іх гучаць рок, джаз, блюз ды іншыя альтэрнатыўныя жанры. Назва зборніка мае глыбока іранічны кантэкст, абумоўлены як асабістым досведам аўтара, так і агульнакультурнай сітуацыяй у Беларусі.

«Гэта было шчырае пакаленне андэграўнду — калі адстойваць свае густы было небяспечна, але гэта дапамагала знайсці сэнс жыцця. Калі нельга было знайсці патрэбны дыск альбо купіць добры музычны інструмент — затое, калі ўдавалася, яны набывалі нечуваную, немагчымую сёння каштоўнасць, — успамінае ў прадмове да кнігі Людміла Рублеўская. — Жыццё «саўка» з пункту гледжання нефармала... Цяпер гэта ўжо экзотыка — сямідзясятыя, васьмідзясятыя, перабудова.... Першыя канцэрты беларускіх рок-гуртоў, выставы мастакоў-авангардыстаў... Дух вольнасці, безграшовага вальнадумства, які многія, хто пачынаў тады, страцілі на шляху да славы».

### Казка-размалёўка Стасі Наркевіч

Дзявятым выпускам серыі «Каляровы ровар» Бібліятэкі Саюза беларускіх пісьменнікаў стала кніжка-размалёўка Стасі Наркевіч «Як Васілёк выратаваў каралеўства».

Юнака Васіля ногі самі нясуць у пракаветны лес, аднак зайсці туды не атрымліваецца. Птушкі паведамляюць Васілю, што лес атачаны равамі, пасткамі і закляццямі: тут знаходзіцца замак, дзе чарадзеі сцерагуць прынцэсу Дабралетку. Юнак вырашае вызваліць прынцэсу...

Што адбылося далей, вы даведаецеся, калі набудзеце кніжку Стасі Наркевіч. А каб чытаць яе было яшчэ цікавей, ледзь не на кожным развароце кніжкі можна размалёўваць графічныя работы мастачкі Алены Сянько.

Кнігу Стасі Наркевіч «Як Васілёк выратаваў каралеўства» можна набыць у кнігарнях Мінска ў аддзелах дзіцячай беларускай літаратуры.

**Прэс-служба СБП**

## КАСТРЫЧНІЦКІЯ ЮБІЛЯРЫ

**У наступным месяцы адзначаюць юбілеі сябры Саюза беларускіх пісьменнікаў**

Тамара Віктараўна Габрусь (нар. 2.10.1945)
Наталля Аляксееўна Давыдзенка (нар. 19.10.1950)
Генадзь Ісакавіч Лапацін (нар. 22.10.1955)
Уладзімір Андрэевіч Паўлаў (нар. 25.10.1935)

Жадаем усім радасці, натхнення і дабрабыту!



# Конкурс «Экслібрыс» імя Рыгора Барадуліна

**Падвезеныя вынікі штогадовага літаратурнага конкурсу, арганізаванага Саюзам беларускіх пісьменнікаў і прысвечанага сёлета паэзіі і паэтычнаму перакладу. Журы выбрала 10 фіналістаў — 2 лаўрэаты і 8 дыпламантаў.**

У журы конкурсу ўваходзілі Раіса Баравікова, Леанід Дранько-Майсюк, Вольга Іпатава, Наталля Кучмель, Уладзімір Някляеў.

У намінацыі «Паэзія» лаўрэатам стала Валярына Кустава, у намінацыі «Паэтычны пераклад на беларускую мову» — Алесь Емяльянаў-Шыловіч.

Дыпламанты ў намінацыі «Паэзія» (у алфавітным парадку): Яна Мацюшава, Аліса Мініна, Анхела Эспіноса Руіс, Ганна Станіславенка.

Дыпламанты ў намінацыі «Паэтычны пераклад»: Яўгенія Асколкава, Ганна Комар, Аляксей Лабоцкі, Арцём Сітнікаў.



17 верасня ў галерэі сучаснага мастацтва «Ў» адбылося ўганараванне фіналістаў.

Перад больш як паўсотняй гледачоў выступілі арганізатары, лаўрэаты і сябры журы конкурсу. Вялі імпрэзу Аляксандра Дварэцкая і Віка Трэнас.

Гішпанская паэтка Анхела Эспіноса Руіз, якая піша на некалькіх мовах, у тым ліку па-беларуску, і якая нядаўна выдала кнігу беларускамоўных вершаў «Раяль ля мора», перадала відэапрывітанне беларускай публіцы.

# Загадкі і здабыткі Маладзечаншчыны

**Якія зоркі беларушчыны праязджалі чыгункай праз Маладзечна, дзе збіраліся мастакі слухаць Шапэна, пад што прыстасавалі бровар у яшчэ бедным на будынкі даваенным горадзе?**

Хто сёння можа распавесці пра Беларусь на Маладзечаншчыне праз кнігу з безліччу малавядомых і сакавітых фактаў лепш за Міхася Казлоўскага? Сваю кніжную экскурсію краязнаўца і бібліяфіл Міхась Казлоўскі надрукаваў у зборніку «Цяпло айчынных камянёў». Аўтар распавядае не толькі пра знакавых асобаў, чый лёс звязаны з Маладзечаншчынай, пра месцы, што памятаюць іх, але і пра сваю родную вёску Быкі, якая цяпер мае назву Рабінавая.

— Наклад такі, які дазволілі мае фінансавыя магчымасці, — тлумачыць аўтар, чаму выдаў толькі сто экзэмпляраў. — Калі б хтосьці быў зацікаўлены ў больш масавым накладзе, то дапамог бы выдаць. Частка матэрыялу была распрацаваная сумесна з журналісткай Інай Кандауравай, якая на той час працавала ў «Маладзечанскай газеце». Гэта ў яе з'явілася ідэя праз будынкі распавядаць пра гісторыі месца і людзей. Але ёсць яшчэ вельмі шмат мясцінаў, пра якія можна было б гаварыць. Пісаў пра тых, каго на момант напісання ўжо не было. Адзінае выключэнне тычыцца Янкі Галубовіча. Кніга прысвечаная яго памяці, таму не ўзгадаць гэтага пісьменніка было б незразумелым для чытача.

# Памерла Ала Канапелька

**Пасля цяжкай хваробы ад нас сышла беларуская паэтка Ала Канапелька.**

Ала Іванаўна нарадзілася 14 лютага 1960 года ў вёсцы Небытаў Хойніцкага раёна Гомельскай вобласці. У 1978-м скончыла Лоеўскую педагагічную вучэльню і паступіла на філфак БДУ. Пасля заканчэння ўніверсітэта (1983) працавала метадыстам у Доме літаратара, а з 1990 — загадчык арганізацыйна-прапагандысцкага аддзела Беларускага фонду культуры.

Першыя вершы апублікавала ў 1974 годзе ў хойніцкай раёнцы «Ленінскі сцяг». У 1985 годзе выйшаў першы зборнік вершаў «Цвет алешыны».

Сакратарыят Саюза беларускіх пісьменнікаў смуткуе і спачувае родным і блізкім Алы Іванаўны.

# Аўтару аб праве

**На сайце Саюза беларускіх пісьменнікаў з'явіўся новы раздзел, прысвечаны аўтарскаму праву і адрасаваны літаратарам, сябрам творчай арганізацыі.**

Раздзел «Аўтару аб праве» ўтрымлівае прававую інфармацыю, падрыхтаваную прафесійным юрыстам, і адказвае на асноўныя пытанні, якія могуць узнікнуць у аўтара адносна існавання, выкарыстання і распаўсюду ягонай інтэлектуальнай уласнасці на тэрыторыі Беларусі і за яе межамі.

Акрамя таго, у раздзеле свабодна даступныя для спампоўвання ў фармаце .doc афіцыйныя дакументы, якія вызначаюць і ўстанаўліваюць дзеянне аўтарскіх правоў як з пункту гледжання заканадаўства Рэспублікі Беларусь, так і згодна з міжнароднымі канвенцыямі па ахове інтэлектуальнай уласнасці.

Члены Саюза беларускіх пісьменнікаў па пытаннях рэалізацыі і абароны сваіх аўтарскіх правоў могуць звяртацца на электронную пошту арганізацыі: litbel.law@gmail.com. Сакратарыят СБП гатовы аказаць інфармацыйную і прававую падтрымку сваім аўтарам-членам арганізацыі.

# Беларуская кніга ў Львове

**З 10 па 13 верасня ў межах XXII Форуму выдаўцоў у Львове ў Палацы мастацтваў былі прадстаўленыя беларускія кнігі ад выдавецтва «Кнігазбор», у тым ліку выдаваныя ў серыі «Кнігарня пісьменніка» Бібліятэкі Саюза беларускіх пісьменнікаў.**

Мэта Форуму — прыцягнуць увагу грамадскасці да актуальных праблем сучаснага ўкраінскага кнігавыдання, падтрымаць традыцыю прафесійных дыскусій і семінараў. У апошнія гады ў межах Форуму праводзіцца ўсё больш сумежных акцый, разлічаных на масавую аўдыторыю і закліканых папулярызаваць чытанне сярод дзяцей і моладзі. Да супрацоўніцтва з Форумам актыўна далучаюцца не толькі вядомыя ўкраінскія і замежныя пісьменнікі і выдаўцы, але і зоркі спорту і шоў-бізнэсу, прадстаўнікі розных галін улады, грамадскія, дабрачынныя і камерцыйныя структуры.

**З 2012 года пры Саюзе беларускіх пісьменнікаў дзейнічае Школа маладога пісьменніка, якую наведвалі і наведваюць пачаткоўцы з Мінска і рэгіёнаў Беларусі. У навучальнай праграме — лекцыі, семінары і майстар-класы вядомых беларускіх і замежных аўтараў, навукоўцаў і прадстаўнікоў культуры. У Школе адбыліся тры выпускі будучых беларускіх паэтаў, празаікаў, эсэістаў, драматургаў, крытыкаў. Штогод ладзяцца выпускныя вечарыны, а таксама выдаюцца зборнікі «дыпломных» прац маладых творцаў. Перад новым наборам у Школу маладога пісьменніка вераснёўская «ЛБ» вырашыла пазнаёміць сваіх чытачоў з некаторымі мініяцюрамі ды імпрэсіямі мінулагодніх выпускнікоў.**

# Кругі

## Артур Камароўскі

**Нарадзіўся ў 1991 годзе ў г. п. Мір Гродзенскай вобласці. Скончыў ГДУ імя Янкі Купалы, магістратуру.**






### Тое, што шэпча табе мора...

Мора пахне соллю, маленькімі, вымытымі да гладкага бляску каменьчыкамі, пустымі ракаўкамі, што паразззяўлялі раты, халодный лускою срэбных і маўклівых рыб, лёгкім празрыстым брызам, што плыве аднекуль з-за далёкага шнурка гарызонта, змрочнай таямніцай нябачнага дна, крыклівымі чайкамі, мокрымі адбіткамі чалавечых, маленькіх і вялікіх, ног і самотнымі, аднавокімі маякамі.

А. ніколі не бачыў мора, але ведаў, што пахне яно так і ніяк інакш. Нават цяпер, седзячы ў парослай галовамі залі чакання, сціскаючы ў руках квіток, дзе канцавым прыпынкам значылася «Мора», ён ясна чуў рогат гуллівых хваляў, што шпарка набягалі на бераг, і працяжны свіст нейкага заблукалага ў бясконцай сінечы лайнера. Мора падымалася, пенілася, шумела, кацілася на бераг, танцавала, бурліла, сіпела, завівалася мокрай істужкай, патыхала водарасцямі, мядузамі і марскімі конікамі.

— Вы ведаеце, першы раз на мора. Ніколі яшчэ не быў. Хацелі з бабуляй, але яе ў мінулым годзе не стала... Хвалююся, — павярнуўшыся да соннай, нямытай некалькі дзён галавы прашаптаў А.

Чорныя, сашчэпленыя ззаду валасы заварушыліся, і да А. адвярнуўся такі ж нямыты твар.

— Ну і чаго табе? — прабубніла жанчына, якая даўно размяняла чацверты дзясятак.

А. збянтэжыўся, чамусьці засаромеўся.

— Гэта я так. Нічога. Выбачайце, — і, схапіўшы заплечнік, накіраваўся да выхаду.

На пероне амаль нікога не было, акрамя жанчыны з дзіцем, памятай часам дворнічыхі і вечаровай ліпеньскай гарачыні, што вальготна раскінулася на шэрай квадратнай плітцы, бліскучых чорных пуцях, цыбатых лаўках і вялікім гадзінніку з трыма няўмольнымі стрэлкамі. Прыйшло супакаенне і прыхаваная яшчэ з дзяцінства пяшчота, нерастрачаная на матулю, бабулю і шкадлівага ката Ваську.

Маленькае дзяўчо запускала самалёцікі, зробленыя з паперы і дзіцячай веры ў здольнасць лятаць, і яны, падхопленыя дрыготкім, кволым ветрыкам, крыху яшчэ ляцелі, а пасля, дзесьці за лавамі і зялёнымі сметніцамі, рабілі экстраную пасадку.

А. успомніў, як калісьці, прыходзячы з бабуляй у магазін, дзе яна працавала і які знаходзіўся на ўскрайку іх невялікага мястэчка, запускаў гэткія ж самыя самалёцікі. Тады гаспадарыла ўжо хваравітая восень, і А. чуў, як вецер днём і ноччу завываў у коміне іх маленькай печы.

Мабыць, ужо тады ён адчуў, што паветра і самалёцікі, што нязменна падаюць — гэта не яго. Яго было — маленькія караблікі з пластыкавых бутэлек, якія ніколі не танулі.

Сонца, апошні раз міргнуўшы, схавалася за далёкай сцяной лесу. А. прысеў на лаву. «Так трэба,» — казала калісьці бабуля, і ён, думкамі ўжо даўно не ў хаце, пакорна сядаў на плячскатае крэсла, старое і скрыпучае. «Ну, паехалі,» — парушалася пракураным голасам цішыня, і яны выходзілі ў двор.

З вакзала выплывалі паціху людзі, і перон апаноўвалі іх смех, вясёлая гамонка, капелюшы, брудны запылены абутак, вялізныя чамаданы, сярэдніх памераў заплечнікі і шчупленькія клуначкі.

Ледзь адчувальныя вібрацыі прадказвалі хуткае з'яўленне цягніка. Ён паказаўся з-за павароту, строгі і магутны, і вёз з сабою пах збожжавых палёў, сухіх прычыгуначных дрэў, жалеза і расстання.

Гадзіннік вызначыўся з часам, і ён упэўненай лічбай 9 падышоў да А.

Змахнуўшы з пляча ўспаміны, А. працягнуў праваднiцы квіток, ускочыў на прыступку, азірнуўся, а пасля знік у спякотнай сярэдзіне вагона.

Ноч грымела і неслася за вакном, і А. здавалася, што ён чуе марскія навальнічныя хвалі, якія апантана кідаліся на жоўта-белы бераг. Мора разлівалася, спявала сваю векавечную песню слепаватай поўні, якая толькі зрэдку выходзіла цалкам, апранаючы сінь у пазалоту і спрабуючы дастаць рукамі да дна. Хвалі наскоквалі адна на адну, зліваліся ў шалёным танцы, разбягаліся і зноў сыходзіліся. І магія водна́й стыхіі была хвалюючай і невядомай, бязмежнай і жаданай, і А. тануў у ёй увесь, да апошняга ўздыху.

### Кругі

За раскрытым насцеж вакном, унізе, дзе наліваюцца спеласцю пад нагдядам сонца бліскучыя жоўтыя апельсіны і дрэмлюць стракатыя кветкі, разлеглася цішыня. І нават мора не чуваць. Але яго салёны пах, прынесены свавольным ветрам, нагадвае, што яно ёсць, што яно жыве і нікуды не знікла, што яно пераліваецца хвалямі і, цяжка ўздыхаючы, выпаўзае на пясчаную роўнядзь берага.

Малага драмала разам з кветкамі, з выбеленымі мініяцюрнымі балкончыкамі, што навісалі над цеснымі вулачкамі, з сакаўнымі апельсінамі, з апусцелымі столікамі вулічных кафэ, з мансардамі і тэрасамі якіх-небудзь заможных іспанас, Алехандра і Бланкі, Эдуарда і Соледад, Эстэбана і Марыі, якія ўзяліся за дзевяностагадовыя рукі і ціха пасопваюць, з крамамі і бібліятэкамі, з усім тым, што не хацела і не магло супрацьстаяць векавечным законам і правілам сіесты.

Драмаў і К., седзячы ў скураным фатэлі свайго пакойчыку, звесіўшы ўніз галаву і раскрыўшы рот. Скупая лінія сонца, не больш, чым на два пальцы шырынёй, раздзяліла пакой на няроўныя палавіны...

Колькі б К. ні круціўся ля люстэрка, але матылёк сядзеў не так, як хацелася. Ён то скакаў занадта ўверх, то вельмі ўніз. Найчасцей усё заканчвалася тым, што К. зрываў наравістую тканіну і, сыплючы іспана-беларускімі праклёнамі, ішоў на працу проста ў кашулі, модна не зашпіленай на верхні гузік.

Матылёк — гэта з дзяцінства, з першага класа, са святочнай вераснёўскай лінейкі пад шэрымі, дажджавымі хмарамі і з бабуліных рук. Здавалася, гэта не яны мацуюць матылёк так, як трэба, а ён сам, трапечучы і калыхаючыся, усаджваўся роўненька і акуратна на тоненькай шыйцы шчаслівага першакласніка.

Вельмі часта К. успамінаў менавіта бабулю Марыю, хоць яна была не адзіным дарагім чалавекам, пакінутым у далёкай Беларусі. Недзе там, сярод пыльных абсягаў палёў і вечназялёнага сасонніка, хаваючых за крутым узгоркам, няспынна цякло і не спынялася вясковае жыццё яго (хаця якое там яго — даўно чужой) Тасі і маленькай (а цяпер ужо, мабыць, не зусім) Уляны. Яны, пэўна, прачыналіся гэтак жа рана, да сонца, і халодная раса на падворку апякала іх босыя ногі, і дзесьці ў кустах бабуліных парэчак спявалі жаўрукі свае песні пра самоту і каханне, і рыкала ў хляве карова, і дзень абяцаў быць цёплым і ясным.

К. не любіў многія словы, што пачыналіся на с: скупасць, слёзы, самота, секчы, самалёт, страх, смерць... Але не бачыць іх не мог, выпадкова сустракаючыся з імі на вялікіх і малых іспанскіх вулках, у крамах, за сценамі белатварых дамоў...

Гэтым днём, у электронным лісце, што даляцеў з-за мяжы скрозь сусветную павуціну, шмат словаў пачыналася з літары с. К. запомніў толькі адно, страшнае і кароткае: смерць.

Побач беглі жытнія палі, што калыхаліся жоўтым морам і сляпілі, самотныя прыдарожныя дрэўцы, шумныя лясы. Побач бегла маладосць і дзяцінства, прапахлыя рэчкай, гарохавым полем і яблыневым садам, падранымі порткамі і збітымі каленямі, сцюдзёнай крынічнай вадой вясковага ўскрайку, пякучым следам дубца дзядзькі Вані за пакрадзеныя трускаўкі і гарачымі слязьмі на брудным хлапечым твары.

К. амаль іх не помніў: бабулю, Тасю, Уляну, хату, вёску. Памяць пакінула асобныя рэчы, дробныя і непатрэбныя. Як гэты круты ўзгорак, за якім, і К. гэта ведаў, зараз выплывуць вясковыя шматваконныя драўляныя хаты. Ён заплюшчыў вочы не ад сонца, а знарок, баючыся рэзкага пераходу ад сучаснага ў мінулае, ад якога мала што засталося.

Машына тузанулася, падскочыла ў апошні раз на дарожанай няроўнасці і спынілася. «Прыехалі», — раздражняльным голасам паведаміў таксіст.

К. усё яшчэ сядзеў з заплюшчанымі вачыма. Было ціха і горача.

Хата была знаёмай, але зусім не той, якой К. яе запомніў, ад'язджаючы. Яна састарэла, асунулася, фарба патрэскалася і нагадвала луску рыбіны, падчэпленай на востры кручок і выкінутай на бераг.

Збоку, на ганку, — вымаляваны белым і зялёным кветкі. Тады, як фарбавалі хату ў апошні яго раз, забылі схаваць фарбу. Калі вышлі, малая Уля, перапэцканая з галавы да босых пят і шчаслівая, выводзіла бела-зялёныя кветкі на нагах.

Крыху ўглыб падворка — стары, забіты наглуха калодзеж, куды ледзь не зваліласа дзіцё, але заблыталася ў ланцугу і павісла на вядры.

Яны з Тасяй не былі ідэальнымі бацькамі, як большасць з тых, хто рана, у 17–18, спазнаваў радасць і цяжар сямейнага, з дзецьмі і сваркамі, са слязьмі і радасцю, з рэўнасцю і даверам, складанага і неспадзяванага жыцця. Яны не былі створаны адзін для аднаго. Гэта безвыходнасць і адчай іх паяднала, а яны — кароткія і хутка праходзяць.

Паўсюль — кветкі і кветкі. Ад бабулі К. помніў тыя вечары, калі яны ўдвох, прыціснуўшыся адзін да аднаго, сядзелі на пакуль яшчэ не ў кветках ганку, падклаўшы пад сябе старую дзедаву фуфайку. Мякка свяціла сонца, пахлі кветкі: жоўтыя, белыя, чырвоныя, фіялетавыя, розныя, калыхаліся пад лёгкім ветрыкам, хаваліся адна за другую. Спяшаліся некуды хмары, і дзесьці ля рэчкі смяяліся дарослыя, плёхкала вада і гагаталі пакрыўджаныя гусі, і спяшаліся ў двор, а сабака з важным выглядам сядзеў на будзе і, цяўкаючы, развітваўся з адыходзячым днём.

**Пачатак.**

**Працяг на стар. 12 (4) »**

« Працяг.
Пачатак на стар. 11 (3)

Будучы малым, К. баяўся смерці. Ён нават не ўяўляў, як гэта — паміраць. Што адбываецца пасля і ці адбываецца наогул? Можа, чалавек проста спіць, а каб ён не прачнуўся, яго закопваюць пад зямлю? Бабуля казала, што паміраць — гэта даваць пачатак новаму. Проста тваёй душы надакучвае сядзець у адным целе, і яна пакідае яго, знаходзячы іншае. І ніхто не ведае, колькі цярпення ў яго душы.

Цяпер К. не баяўся смерці — ён яе ненавідзеў.

Яны памерлі імгненна, не паспеўшы ні закрычаць, ні адскочыць убок. Гэта значыць, ім не балела. Гэта значыць, што душам бабулі і Тасі ў той момант захацелася новага цела. Менавіта тады, калі яны вярталіся познім вечарам з горада, а насустрач ляцела, падымаючы клубы пылу і не збаўляючы хуткасць, танная іншамарка.

У вакно паціху запаўзае раніца. Сонца яшчэ няма, і раса, такая ж сцюдзёная, як і дзесяць гадоў таму, пячэ іх босыя ногі. І ў гэты момант яны разумеюць, што ёсць жыццё, што ёсць шчасце. Яно — у гэтай расе, у босых нагах, у пакуль яшчэ нераскрытых рознакаляровых бутонах, у блізкім сонечным узыходзе, у сівым тумане ля рэчкі, у маўклівай цішыні, у вачах роднага чалавека.

Раніца абяцала добрае надвор'е, а недзе за многа-многа кіламетраў ад іх халоднае мора гнеўна пенілася і ўздымалася, б'ючы мокрымі хвалямі цёмныя пяскі ла-Малагеты.

# Даша Латышава

**Нарадзілася ў 1994 годзе ў вёсцы Ордаць Магілёўскай вобласці. Закончыла ліцэй №1 Магілёва. Студэнтка Інстытута журналістыкі БДУ. Фіналістка конкурсу маладых літаратараў «Экслібрыс» (2012).**



### Першае каханне

Быў маўклівы залаты вечар. Сонца купала свае промні ў цёплых хвалях Чорнага мора. Пляж без людзей здаваўся мёртвым. Сярэдзіна кастрычніка — сезон для турыстаў даўно скончыўся. Позірк зачапіла маленькая яркая фігурка. У пяску корпалася дзіця гадоў трох і будавала замак. Я падышла, села побач і пачала разглядаць светлыя кудзеркі хлопчыка, якія ў апошніх промнях восеньскага сонца здаваліся рудымі. Малец не звяртаў на мяне ніякай увагі і працягваў старанна ды ўважліва выбудоўваць свой палац…

Маё першае каханне пісаў мілыя, па-дзіцячы шчырыя запіскі на выдраных са школьнага сшытка лістах і падкідваў мне іх то ў партфель, то ў кішэню курткі, праводзіў дадому, трымаў за руку і моцна сціскаў пальцы, а аднойчы нават асмеліўся пацалаваць у шчаку. Я любіла глядзець у яго вочы і класці галаву на плячо. Я была шчаслівая і верыла, што гэта яно — сапраўднае каханне.

Маё другое першае каханне разбудзіў мяне сярод ночы смс-кай з адным словам «кахаю», без смайлаў ды іншых знакаў прыпынку, праводзіў дадому, трымаў за руку і моцна сціскаў пальцы, і аднойчы нават асмеліўся пацалаваць у вусны. Я любіла глядзець у яго вочы і класці галаву на плячо. Я была шчаслівая і верыла, што гэта яно — сапраўднае каханне.

Маё трэцяе першае каханне не пісаў мне лістоў і смс-ак сярод ночы, затое спяваў калыханку па скайпе, праводзіў дадому, трымаў за руку і моцна сціскаў пальцы, і аднойчы нават асмеліўся пацалаваць. У сэрца. Я любіла глядзець у яго вочы і класці галаву на плячо. Я была шчаслівая і верыла, што гэта яно — сапраўднае каханне.

Хлопчык, які гадзінамі выбудоўваў замак з пяску, без шкадавання разбурыў яго адным ударам нагі. Так робяць і дарослыя: доўгі час выбудоўваюць адносіны, а потым разбураюць адным простым выразам «не кахаю».

***P.S.*** *«Ка-ха-ю». Ён вымавіў гэтае слова на выдыху, паўшэптам, так ціха, што пачула яго не слыхам, а сэрцам. Калі б гэтае слова было сказана больш гучна, выразна, то яно здалося б няшчырым, нібы скамянела на вуснах, зрабілася несапраўдным само і пачуцці зрабіла б несапраўднымі. А яно было прамоўлена так, што стала зразумела: усё, што было раней — няпраўда, вось яно — адзінае, сапраўднае першае каханне.*

# Мікіта Волкаў

**Нарадзіўся ў Барысаве Мінскай вобласці. Скончыў ліцэй БДУ. Студэнт Беларускага дзяржаўнага медыцынскага ўніверсітэта.**

### Камандзіроўка

Запозненая завірушная зіма ўрэшце накрыла чысцюткім доктарскім халатам умерзлую ў глыбы чорную зямлю. Валіўся з нябёсаў камякамі пульхны, усадзісты сняжок. Ён рупліва спавіваў голле і вяршаліны сасонніку, які туліўся абапал шашы да катэджнага пасёлка.

Едучы ў цесным халодным аўтобусе з аб'інелымі шыбамі, я драмаў. Нават не драмаў, а проста заплюшчыў вочы і думаў.



І собіла ж кіраўніцтву бальніцы паслаць нас з Сяргеем у камандзіроўку акурат на Куццю.

Заўтра Каляды, трэба ехаць да бацькоў у вёску, а я яшчэ ніякіх гасцінцаў купіць не паспеў, апроч цукерак пляменніцы.

Вераніка, якая мусіла сустракаць нас у Бараўлянах, вучылася разам са мной у медыцынскім інстытуце. Пасля яе размеркавалі працаваць у дзіцячы онкагематалагічны цэнтр, а мяне, цягавітага вучня, былога фельчара, у Магілёў, у абласную бальніцу, адкуль мы ўчора з Сяргеем, загадчыкам аддзялення, прыехалі ў Мінск на навуковую канферэнцыю пад назваю «Ранняя дыягностыка лейкозаў: цяжкасці і перспектывы».

— Прачынайся, прыехалі, — штурхануў мяне ў бок локцем Сяргей.

Мы выйшлі на завеяны снегам прыпынак.

— Хай яны спрахнуць са сваімі камандзіроўкамі, у аддзяленні работы гара, а нас паслалі на канферэнцыю, быццам там нешта скажуць новае, — гугнявіў Сяргей.

— Няможна злаваць, сёння ж Святы вечар, — адказваў я.

— Ты што, пра святы ўспамінаеш? Каляды табе! Зусім распесціўся!

Месца нашага візіту, белаблакітны гмах, з прыпынка быў відаць. Няспешна ступаючы па цаліку, каб скараціць шлях, мы дабраліся да ўваходу. Там нас чакалі.

— Пятро Аркадзевіч! Нарэшце Вы прыйшлі, а я думала, мо праспалі, — прывітала калег маладая дакторка, дагледжаная жанчына ў накінутым на белы халат футры.

— Забылася, Вераніка, як сама спазнялася, за пяць раёнаў ад інстытута жывучы? Цяпер паблізу жывеш?

— А вунь мая хатка, крайняя злева, з чырвонай дахоўкай.

— Ну, пэўна, на зарплату купілі, — уляпіў Сяргей.

— Багатырка, што гаварыць, жыві і радуйся, — працягваў размову я.

— Ну ўсё, хадземце, хлопцы, — трохі збянтэжана сказала Вераніка. — Нас чакаюць, ужо 15 хвілін як пачаўся абход.

Мы падняліся на чацверты паверх, зайшлі ў аддзяленне. У палаце ляжалі дзеці, амаль усе паголеныя, з кропельніцамі ў венах, кожны з пакутаю ў вачах.

Хтосьці з іх — першы дзень, а хтосьці і некалькі месяцаў (апошнім зняверыная медыкі мянялі чарговую схему хіміятэрапіі).

У цэнтры пакоя стаялі некалькі дактароў. Іх важныя твары падаваліся абыякавымі да ўсяго навокал.

Яны падышлі да ложка хлопчыка, пакрытага дробнакрокавым высыпаннем. Побач з ім завіхалася яго бабуля, маладжавая прыгожая жанчына ў квяцістым халаце. На безуважным і патухлым твары хлопчыка ўзнікла лёгкае хваляванне.

— Хворы Марціновіч, 2001 года нараджэння, востры міелалейкоз, М4 па FAB-класіфікацыі, гемарагічны сіндром, чацвёрты тыдзень лячэння, — прамовіў урач.

— Які цытоз? Колькі бластаў? — строга запытаў прафесар і пачаў пальпаваць жывот пацыета.

— Бластаў, на жаль, ад мінулай схемы не паменела, — нібыта апраўдваючыся, амаль шэптам сказаў доктар.

— Трэба мяняць схему хіміятэрапіі, — важна пратарахцеў доктар.

— Доктар, доктар, мой унучак будзе жыць? — плачучы, спытала бабуля.

— Грамадзянка, нам трэба тэрмінова пагаварыць, зойдзеце да мяне ў кабінет.

Праз усю сумятню, што дзеелася ў палаце, да нас падышла Вераніка.

— Хлопцы, наш дацэнт прасіў, каб вы паглядзелі адну дзяўчынку, у яе, мабыць, акрамя лейкоза, яшчэ і гемафілія прыроджаная. Рэдкі выпадак, амаль казуістычны.

Вераніка паказала на ложак, дзе ляжала хворая.

Тую чарнявенькую дзяўчынку спачатку ніхто з нас не заўважыў. Яна ляжала на ложку, абыякавая і самотная, нейкая адчужанасць адчувалася ва ўсёй ейнай істоце. Малыя вочкі, шырокае пераноссе, суцэльныя бровы яўна паказвалі: дзяўчынка з асаблівасцямі развіцця. Усе па чарзе пачалі аглядаць яе.

Надышла мая чарга. Агаліўшы ейныя танюткія ножкі, я ўбачыў дробнакропкавы сып. На ўсю сярэдзіну спіны чарнела агромністая гематома. Пачаў яе слухаць, пальпаваць жывот. Сапраўды, печань моцна павялічаная.

— Facies alcoholica* — хіба ты не бачыш? — мармытаў Сяргей.

— Будзь з ёю пільным.

Раптам малая вырачыла свае тужлівыя вочы, утаропіўшыся ў мяне. Пасля абедзвюма… аберуч прыціснула маю далонь, якая ў гэты час спрабавала абмацаць край селязёнкі. Жывасць і спрыт з'явіліся ў ейных рухах. Яшчэ праз імгненне, звесіўшы ногі з ложка, яна ўсім тулавам падалася наперад. І не паспеў я даслухаць ейныя лёгкія, як яна раптам ускочыла мне на рукі. І ў той жа момант пачала мяне цалаваць.

— Ужо й бацьку сабе знайшла, — чаўпла санітарка, выціскаючы анучу.

— А дзе ейныя бацькі? — спытаў Сяргей.

— Дык яна ж з прытулка, пакінула нейкая прыблуда, — не сунімалася кабета, шаруючы і без таго ідэальна чыстую падлогу.

— Каця, хадзем са мной у гульнявы пакой, не перашкаджай дзядзям-дактарам працаваць, — увайшоўшы, сказала выхавальніца і дала ёй цацкі.

На калідоры я разгарнуў ейную гісторыю хваробы: «Сяргеева Кацярына Сяргееўна, 2005 г.н. Дом-інтэрнат Віцебска».

Раптам Сяргей выхапіў у мяне гісторыю, стаў хутка гартаць, штосьці важнае шукаючы, нарэшце паказаў мне.

Там было напісана: «Антыцелы да гепатыту В і С знойдзены. Выяўлены вірус Эпштайна-Бар. ВІЧ+».

— Ды пайшлі яны ў пекла, усе гэтыя ўбогія! Душу выелі, а ён яшчэ цалуецца з імі. Малися Госпаду Богу, каб брыдоты якой не падчапіў.

— Мо сліна ейная трапіла, а сам галіўся раніцай, мікратраўмы на пашчэнках засталіся. Жаласнік сраны, — Сяргей злосна тыцнуў мне ў рукі гісторыю хваробы.

Пакуль мой калега, змардаваны работай і лёсам, крычаў на ўвесь калідор, Каця скоранька перабегла з гульнявой да дзвярэй выхаду. Нягледзячы на тое, што я быў агаломшаны прачытаным, я гэта ўбачыў. Штамп пра вірусы адштурхоўваў мяне цяпер ад гэтай нявіннай маленькай дзяўчынкі.

Так, мне было шкада яе, вельмі шкада, аднак веды і прага ўратаваць сваю скуру часам здольная закрэсліць любыя пачуцці.

— Хадзем адсюль, канферэнцыя даўно пачалася, — Сяргей накіраваўся да выхаду.

— Толькі не туды, там яна, сірата гэтая, хадзем за мной.

Я ведаў пра іншы выхад.

Трэба было незаўважна сысці ад Каці на другі паверх, дзе ў актавай зале ішла канферэнцыя. Аднак разумовая адсталасць не перашкодзіла дзяўчынцы зразумець наш з Сяргеем намер. Яна была тут свая, тутэйшая, і ейная звярыная чуйнасць дапамагала ёй выжыць, трываць у гэтым воўчым для яе свеце. І як толькі мы павярнулі направа да выхаду, напярэймы нам выбегла Каця. Яна была ў бліШчастым каўпаку, з лялькаю ў руцэ. Раптам я ўспомніў пра цукеркі, якія былі ў мяне з сабой у торбачцы. «Вось што адцягне яе ўвагу», — падумаў я і сказаў, працягнуўшы ёй цукеркі:

— Каця, сёння ноччу Каляды, і ў гэты дзень ты можаш загадаць любое, самае патаемнае жаданне.

Вочы Каці, заблішчэлі радасцю, дзяўчо безупынку пачало паўтараць «Каляды, Каляды, Каляды», падскокваючы вакол мяне.

Сяргей, усміхаючыся, сказаў:

— Дык у яе ж ЗПР, яна не зразумее нічога! Ты лепш ногі ў рукі — ды бяжым, інакш не адчэпімся ад гэтай пачвары.

Так мы і зрабілі. Рвануўшыся з месца, мы пабеглі, што было сілы. На выхадзе ўжо стаяла Вераніка:

— Ну, колькі можна гэтае ЗВУР'ё** глядзець!

Ззаду быў чуваць голас Каці:

— Папа, ты вільнёшся, папа, ты плыедзеш?

— Вярнуся, канечне вярнуся, — запэўніў я Кацю, азірнуўшыся.

І не вярнуўся ніколі.

* Facies alcoholica (алкагалічная паверхня) — сукупнасць пэўных вонкавых (фенатыпічных) прыкметаў у дзіцяці ці ў дарослага чалавека, паводле якіх педыятры могуць меркаваць пра зачацце ў стане алкагольнага ап'янення.

** ЗВУР'ё — жарганізм некаторых педыятраў-неанатолагаў. Ад расійскага ЗВУР — «задержка внутриутробного развития».

# Пазвоннае,
## або Слова падзякі Аляксею КАРАЛЮ

Не магу сказаць, што ведаў яго надта хораша альбо што быў вельмі блізкі да ягонай асобы.

Пазнаёміцца пашчасціла тады, калі асноўнай справай ягонага жыцця стаўся штотыднёвік «Новы Час». Нават нумар ягонага мабільнага тэлефона значыўся ў выхадных звестках газеты як рэдакцыйны нумар, бо не падзяляў ён асабістае і працоўнае.

Нашмат пазней дазнаўся, што Аляксей Сцяпанавіч Кароль быў гісторыкам паводле адукацыі, кандыдатам гістарычных навук, аўтарам кніг і манаграфій, што адкрываў ён імёны рэпрэсаваных сталіністамі ў 20-30-я гады мінулага стагоддзя нашых дзяржаўных і культурніцкіх дзеячоў, што заўсёды быў верны ідэям дэмакратыі, што аддана служыў беларусізацыі і свабодзе слова, і найперш слова беларускага.

Аляксей Кароль быў па-каралеўску шчодры. Амаль што дзесяць гадоў таму з ягонай, як рэдактара «Новага Часу», ласкі ды з ініцыятывы Саюза беларускіх пісьменнікаў узнік дадатак да штотыднёвіка пад назваю «Літаратурная Беларусь». Аляксей Кароль рэальна паспрыяў пашырэнню свабоды слова, даў мажлівасць падзабаронным літаратарам штомесяц выходзіць да чытача са сваімі новымі творамі, думкамі, ідэямі і турботамі.

Ён быў надзвычай чуйны, сціплы ды інтэлігентны і, бывала, жартаваў, маўляў, яшчэ трэба падумаць: «Літаратурная Беларусь» — гэта дадатак да «Новага Часу» ці наадварот. Але на поўным сур'ёзе лічыў, што «літаратура для нашай нацыі — нешта большае за прыгожае пісьменства, гэта — асноватворная база беларускай нацыянальнай ідэі».

На вечарыне з нагоды выхаду сотага нумара «Літаратурнай Беларусі» адзін з выступоўцаў сказаў, што назіраецца працяглы застойны крызіс у палітычным і эканамічным жыцці краіны і толькі літаратары жывуць у новым часе, а пры тых словах спрытна, нібыта ілюзіяніст, выцягнуў юбілейны нумар «Літаратурнай Беларусі» з «Новага Часу». А пасля яшчэ жартоўна дадаў, што калі краіна пяройдзе ад прэзідэнцкай рэспублікі да манархіі, дык зусім не супраць быў бы бачыць на троне аднаго з віноўнікаў імпрэзы пад іменем Аляксей I.

Жыццё падарыла нямала сустрэчаў з Аляксеем Сцяпанавічам. Каля беларускай гімназіі № 23, непадалёк ад якой ён жыў і ахвотна выносіў з дому, прэзентаваў аўтарскія асобнікі. На 20-годдзі «Бацькаўшчыны» і на сядзібе Таварыства беларускай мовы. Пры кінатэатры «Кастрычнік» як месцы збору на шэсце ў Курапаты, дзе дабразычліва падказваў, што ў бліжэйшым пятнічным нумары выйдзе і мой матэрыял пра цмокаў. У філармоніі, дзе быў я ўражаны невераемным падабенствам да яго дачкі Ірыны Віданавай, якая выкладала маёй Алесі ва ўніверсітэце... А апошняя надарылася ў клубе «IMAGURU» на прэзентацыі кнігі Аляксандра Тамковіча «Няскораны Міхаіл Марыніч».



Адыход Аляксея Караля ў лепшы свет практычна супаў з гадавінаю па Пятру Марцаву, гэтаксама найвыдатнейшым арганізатары і журналісце. Сыйшлі яны няскоранымі, непераможанымі барацьбітамі, а значыць — пераможцамі. Мне падабаецца думаць, што і ў іх гонар быў перайменаваны адзін з галоўных праспектаў у нашай сталіцы. Тым болей, што Аляксей Кароль нарадзіўся ў пераможным 1945 годзе.

Вельмі шкадую, што не пабываю на развітанні з ім у Палацы мастацтва, бо буду ў ад'ездзе...

Схадзіў і падоўжыў падпіску на «Новы Час», бо хачу, каб мы жылі ў новым, лепшым, беларускім часе, у тым часе, пра які марыў спадар Аляксей.

Бывай, Кароль, бывай!

Віват, Кароль, віват!

**Уладзімір Сіўчыкаў**

*Саюз беларускіх пісьменнікаў невымерна смуткуе з прычыны адыходу Аляксея Сцяпанавіча КАРАЛЯ ў іншы свет і выказвае шчырыя спачуванні яго родным і блізкім. Светлая памяць!*

# Ніл Гілевіч: «Будзем аптымістамі, іншага не дадзена»

**« Працяг. Пачатак на стар. 9 (1)**

Я быў перакананы, што сапраўдная апазіцыянерка — Таццяна Караткевіч, але цяпер атрымліваю такія навіны, што не ведаеш, каму верыць. Хочаш не хочаш, атрымліваецца, тыя, хто будзе ўдзельнічаць у выбарах, гэтым самым сваім удзелам працуюць на карысць аднаго кандыдата. У Еўропе скажуць: балатаваліся ж вы, але не прайшлі, і народ выбраў іншага. А як ён выбера, калі ў яго даўно ніхто не пытае. За дваццаць гадоў хіба не пераканаліся, што сапраўдных выбараў няма?..

***— Ніл Сымонавіч, але як змяніць гэтую сітуацыю?***

— Адна партыя ці група не зменіць нічога. Толькі Майдан зменіць. Як ва Украіне: быў Януковіч — і няма Януковіча. Выйшаў народ. Таму ўсе сведомыя змагары за беларускую Беларусь павінны рыхтаваць народ. А ён выйдзе тады, калі будзе гэтак жа нацыянальна выхаваны і патрыятычна настроены, як украінскі народ. Нам яшчэ далекавата да гэтага. Бо інакш як выйдзе народ увесь, не дзясяткі нават тысяч, а сотні, калі не разумеюць галоўнай задачы? І думаюць, што я прагаласую за таго, каго я хачу, і ўсё на гэтым. Ну і што? Даўно было сказана: выйграе не той, хто галасуе, а той, хто падлічвае галасы.

Але складаць рукі ў бяздзейнасці і маўчаць нельга. Трэба як мага больш актыўна тлумачыць народу, у чым наша слабасць. Простыя людзі і сёлета спадзяюцца, што пасля выбараў зажывуць лепш, багацей. Трэба ж разумець, калі гэта можа адбыцца. Няма іншага шляху, як асветніцтва ў народзе. Помніце, чыталі, як пры цары яшчэ дэмакратычная інтэлігенцыя ставіла задачу асветніцтва сярод масаў. Цёмныя масы могуць узарвацца, але чаго гэтым дасягнуць? Таго, што на змену аднаму дыктатару прыйдзе другі, на змену другому — трэці. Таму колькі ёсць магчымасцяў, хоць яны не такія вялікія, колькі ёсць сілаў, трэба гаварыць з людзьмі, тлумачыць, якім чынам мы можам павярнуць у іншы бок усю сітуацыю. Так як людзі рабілі. Не мы першыя, не мы апошнія.

**Не можа ўсё насельніцтва, увесь народ да такой ступені страціць розум, каб адмовіцца ад абароны сваёй Бацькаўшчыны. З ліку моладзі ўсё больш і больш тых, хто ўсё разумее**

Глядзіце, найбольш даступны нам прыклад. Возьмем Польшчу. Двесце з гакам гадоў назад царская Расія на пару з Прусіяй і Аўстрыяй разарвалі Польшчу. Нават сталіца Польшчы апынулася ў складзе Расійскай імперыі, там быў заснаваны рускі ўніверсітэт, і ўсе найважнейшыя, галоўныя парадкі былі ўсталяваныя гэткія, як і ў Расіі. Але ёсць адно вялікае «але»: польская інтэлігенцыя, а следам за ёю і польскі народ, не адракліся ад польскай мовы. Наадварот, узяліся яшчэ з большым натхненнем выхоўваць нацыянальны польскі патрыятызм. Геніяльны польскі паэт Адам Міцкевіч нарадзіўся, калі Польшча ўжо была ў складзе Расіі. Але ён і яго сучаснікі — і пісьменнікі і навукоўцы — сталі вялікімі патрыётамі, адчуўшы сур'ёзную небяспеку. А таксама зрабілі некалькі спробаў вызваліцца ад прыгнёту. І што? Як толькі наступіў гістарычны момант, 1918 год, уваскрэсла Польшча, атрымала дапамогу ад іншых дзяржаў і настолькі адчула ўнутраныя сілы, што ў наступным годзе пайшла вайной на савецкую Расію. Вось што значыць — не страціў нацыянальны дух, нацыянальную годнасць, пашану да сваёй польскай культуры і мовы. Цяпер, пасля апошняй вайны, навязаў Іосіф Вісарыёнавіч Польшчы такія ж парадкі, як і для ўсяго сацыялістычнага лагеру. Цярпелі, так, але і пры сацыялістычных парадках як расквітнела польская культура, літаратура, мастацтва. І як падышоў час — і ніякай крамлёўскай апекі. Вазьміце Прыбалтыку: здавалася, так прыдушылі, што далей няма куды. А што мы бачым цяпер? Нам ёсць з каго браць прыклад — з нашых суседзяў.

***— Пытанне на астачу: што б вы маглі пажадаць новым пакаленням беларускіх літаратараў і наогул беларускай моладзі? Якою бачыцца вам іх сучаснасць і іх будучыня?***

— Нядаўна Барыс Пятровіч прынёс аж шэсць новых кніжачак. З большынёю іх аўтараў я не знаёмы. Што выходзіць велізарная колькасць кніжак маладых, мяне вельмі цешыць. Не важна, што яны ўсе не на тым узроўні, на якім хацелася б бачыць. Так было ва ўсе часы. Ёсць таленавітыя, ёсць вельмі таленавітыя, ёсць, дай Божа, геніі. І ёсць слабейшыя, але не безнадзейныя. Нешта карыснае могуць рабіць — хай робяць! Калі трапляецца зусім пустое графаманства — штож з гэтага, гэтак і сто гадоў таму было. Ну, добра, вось шэсць, дзесяць, сто кніжак. Але нават калі палавіна будзе вартая ўвагі — і тое дзякуй Богу. Так што памажы Божа. Канечне, вельмі мала магу я чытаць, а па радыё з той кагорты маладых, якую я хачу пачуць, дзяржрадыё нікога не перадае, а пускае якраз тых, якія мала даюць падстаў ганарыцца. Я вельмі ўзрадаваўся, калі пачуў, што пачалі вяртацца ў наш Саюз беларускіх пісьменнікаў некаторыя таленавітыя людзі. Што яны былі ў праўладным, я не асуджаю. У кожнага малыя дзеці, сям'я, а чым карміць, калі прыгразілі, што паляціш з працы? Што ж, можна змірыцца, але часова. Можна змірыцца, але нельга рабіць подласць, як некаторыя. Падтрымліваць, як Купала казаў, «ворагаў беларушчыны», тым больш заўзятых, лютых ворагаў. У мяне на маладых вялікая-вялікая надзея. Я некалі і верш напісаў «Кліч да беларускай моладзі» і заклікаў не падаць духам. «Не падайце духам, хлопцы, і гнеў не тапіце ў стопцы». Толькі так. Я пры гэтым разважаю, што не можа ўсё насельніцтва, увесь народ да такой ступені страціць розум, каб адмовіцца ад абароны сваёй Бацькаўшчыны. З ліку моладзі ўсё больш і больш тых, хто ўсё разумее. Таму і ходзяць і на курсы беларускай мовы, пішуць на роднай мове, і выдаюць, і чытаюць. Ну, і на мітынгі ідуць. Я надзей не трачу. Я веру. Калі я заклікаў «не падаць духам», дык ясна, што і сам не падаю. Вельмі бывае цяжкі настрой ад усёй брыдоты, якую бачыш, чуеш. Але, як у народзе кажуць, перажылі зіму, перажывём і лета...

Мяне заўсёды падтрымлівае веданне, як выстаялі народы еўрапейскія, не проста меншыя колькасна за Беларусь, а ў некалькі разоў меншыя. Славенцы квітнеюць. Чарнагорцы, македонцы, славакі, фіны. Нават чэхаў і балгараў менш, чым беларусаў. І трымаюцца, не скардзяцца Богу на свой лёс. Тут можна задушыцца ад крыўды: чаму беларусы нічога не бачаць і не разумеюць? Дзякуй Богу, моладзь пачала разумець, асабліва як стала ездзіць за мяжу.

Будзем аптымістамі, іншага не дадзена. Будзем верыць у нашу праўду, у нашу перамогу.

**Гутарыў Ціхан Чарнякевіч**

# Сваты



Міхась ЗІЗЮК

**Сюжэт апавядання пабудаваны на аснове рэальных падзей, якія мелі месца ў раённым горадзе N. у 2014 годзе.**

У кватэры Зяленскіх ужо некалькі дзён адчувалася нязвыклая ўзрушанасць, а часам, нават, і мітусня. Васіль Пятровіч — сціплы, ціхі, сярэдняга росту мужчынка з непрыкметным тварам пакорліва выконваў усе жончыны даручэнні, ездзіў па крамах і на мясцовы рынак, цягаў на свой чацвёрты паверх нейкія бясконцыя пакункі. Куды ж ты дзенешся ад гэтай мітрэнгі — усё павінна быць не горш, як у людзей. Тым болей, што сваты важныя, не абы хто. Па-першае, жывуць аж у Маскве; па-другое, сват, Аркадзь Сяргеевіч Данілаў — распаўнелы, гаваркі, упэўнены ў сабе чалавек — палкоўнік запасу; сваццця, Надзея Паўлаўна — у адрозненне ад мужа, худаватая, у акулярах — кандыдат нейкіх там навук. А хто ён, Васіль Пятровіч Зяленскі? Просты слесар, «рабацяга», як кажуць, дваццаць сёмы год трубіць на родным заводзе. Праўда, не без граху, іншы раз можа і добра закласці за каўнер. Бывала, што потым меў добрага прачуханцу ад жонкі, але ж на тое і баба ў хаце, каб парадак быў. Жонка яго, Тамара Іванаўна — мажная, разваротлівая, з кароткаю стрыжкаю — таксама невысокага звання, усяго прадавец у краме прамтавараў.

Вось выйшла неяк так, што Зяленскі, ціхмяны і небагаты чалавек, сватоў займеў — любы пазайздросціць. А ўсё пачалося з таго, што адзіная дачка Зяленскіх, Святлана, якая працавала тэхнолагам на малочным камбінаце, паехала на экскурсію ў Санкт-Пецярбург. І трэба ж было ёй там, у паўночнай сталіцы, сустрэцца з Аляксеем Данілавым, нейкім топ–менеджэрам буйнага камерцыйнага банку. Пасля той паездкі пачалася перапіска ў сеціве, званкі, і ўжо праз паўгода Света пераехала да закаханага ў яе Аляксея. Маладыя Данілаў меў сваю кватэру, прыгожую машыну і добры заробак. Васіль Пятровіч, як чалавек старой закваскі, хацеў было запярэчыць: распуста нейкая. Не пазнаёміліся толкам, не пажаніліся, а жывуць разам. Але жонка штурханула яго ў бок і загадала не лезці — не варт упускаць такога выгаднага жаніха. Тым болей, што ўсё склалася добра. Яшчэ праз паўгода згулялі вяселле ў Маскве. Як потым даведаўся Зяленскі, Данілавы–старэйшыя былі супраць шлюбу са Святланаю — яны жадалі для сына больш выгаднай партыі, але малодшы Данілаў упёрся рогам. Старэйшыя мусілі саступіць. Васіля Пятровіча агаломшыў размах і багацце застолля. У царкву маладыя ехалі на прыгожай карэце, запрэжанай белымі конямі, у загс суправаджала цэлая калона чорных «мерсэдэсаў», рэстаран забіваў раскошай. А ўжо што рабілася на стале — лепш не пераказваць. Зяленскі не ведаў і паловы з тых страў, што падавалі ў рэстаране.

А цяпер, як кажуць у народзе, «алаверды» — сваты едуць да іх у госці, у адведкі. У Зяленскіх простая трохпакаёвачка, з большменш прыстойным рамонтам, але ж не раўня чатырохпакаёвым харомам маскоўскага свата, дзе і ступаць боязна. Жонкі хутка знайшлі агульную мову, і Васіль Пятровіч даведаўся, што Аркадзь Сяргеевіч займаў у свой час «хлебную» пасаду ў аддзеле тылавога забеспячэння, таму і жыве, «як чалавек». Ды такой бяды, хай сабе жывуць, Зяленскім галоўнае не ўдарыць тварам перад дарагімі сватамі.

Так думаў Васіль Пятровіч, стоячы на вакзале. Вось-вось павінен прыбыць цягнік, на якім прыедуць сваты. Дачка з зяцем прыкацілі некалькі дзён таму на сваім аўтамабілі, пакруціліся дзень ці два, засумавалі ды вырашылі наведаць Нарач з кампаніяй моладзі, паабяцаўшы вярнуцца заўтра. Таму сёння сватоў прыйдзецца абхаджваць самому.

— Не стой, як слуп, — штурханула яго жонка ў бок, — вунь выходзяць з вагона...

Сваты паважна выйшлі на перон, углядаючыся ў сустракаючых. Тамара Іванаўна высвеціла на твары найвялікшую радасць і раскінула рукі для абдымкаў:

— Сваточкі, любыя, даражэнькія мае! Мы такія радыя, такія радыя! Як даехалі?

— Спасибо, нормально, только вот жарковато да грязно в наших поездах, — адазваўся сват незадаволеным голасам.

— Добра што прыехалі, мы такія радыя, такія радыя!

Сваццці расцалаваліся, Аркадзь Сяргеевіч стрымана падставіў шчаку для пацалалунку, а Васіль Пятровіч, нясмела пацісnуўшы руку свату, падхапіў у рукі дзве даволі габарытныя валізкі. Данілаў пакруціў галавою па баках:

— Что это вы, Василий Петрович, сами? Носильщика бы надо нанять.

— Ды што вы, сваток, хіба ж я ўломак які — сам данясу. Дый лішнюю капейчыну аддаваць за гэта?

Аркадзь Сяргеевіч гмыкнуў, але прамаўчаў. Хутка дайшлі да машыны, уладкаваліся, і старэнькая «Аўдзі» паімчала на родную Савецкую вуліцу.

— Праходзьце, калі ласка, праходзьце, — Тамара Іванаўна мітусілася, не ведаючы, як яшчэ запрасіць у кватэру дарагіх гасцей. — Распранайцеся, аглядайцеся, а я хуценька падагрэю стравы.

Потым аглянулася на мужа:

— Вася, не стой, як зачараваны, запрашай Аркадзя Сяргеевіча і Надзею Паўлаўну. Пакажы кватэру.

Схамянуўшыся, Зяленскі гукнуў:

— Праходзьце, сваточак, во сюды, у гэты пакой — тут мы для вас ложак паслалі. Ага, будзьце, як дома. У нас тут ціха, вуліца не самая ажыўленая, двор зялёны — не раўнуючы, як на дачы.

Сваты ўвахпнуліся ў невялічкую зашклёную лоджыю, ляніва слізганулі па рослых таполях ды вярнуліся ў кватэру.

— Вы, мужчины, поговорите здесь, а я помогу Тамаре Ивановне, — Надзея Паўлаўна падалася на кухню.

Данілаў прайшоўся па пакоі, заклаўшы рукі за спіну, і спытаўся:

— Как вы, Василий Петрович, здесь, в Белоруссии, поживаете?

І, не чакаючы адказу, сам загаварыў далей:



— Небогато, смотрю, но чисто везде. Правда, названия смешные какие-то попадаются, язык сломаешь от ваших слов.

Пасля гэтага ён самазадаволена засмяяўся.

— Яно так, сваток, — пагадзіўся Васіль Пятровіч, — небагата жывём, затое ціха — не было б горш. Ну, а мова нашая простая, канечне, але мы прывыклі. Праўда, мала хто цяпер гаворыць на чысцюткай, усё болей па-руску. Гэта некалі даўней, калі я ў вёсцы рос — вось там то трасянкі амаль не было.

— Это хорошо, что переходите на нормальную речь — я это одобряю, правильную линию гнёт ваш президент. Вон в Украине что творится. А всё эти националисты виноваты.

— Хіба разбярэшся, хто вінаваты, а хто не, — уздыхнуў Васіль Пятровіч.

— Ну ўсё, Аркадзь Сяргеевіч, просім да стала, просім, — у пакой увайшла Тамара Іванаўна, выціраючы рукі.

Пасля паўтарагадзіннага застолля твары ў гасцей і гаспадароў прыкметна паружавелі. Нават Тамара Іванаўна, якая амаль не ўжывала моцнага алкаголю, і тая выпіла некалькі кілішкаў гарэлкі. Васіль Пятровіч пажвавеў, пасмялеў і, з прыязнасцю гледзячы на свата, падтрымліваў ажыўленую гамонку за сталом. Спачатку выпілі за маладых, за іх будучае шчаслівае жыццё і за будучы унукаў, пасля размова перайшла на сёняшнія эканамічныя рэаліі і ўвогуле палітычную сітуацыю ў свеце.

— Нужно держать народ в узде — тогда и порядок будет. Вон Сталин не давал голову поднимать разным националистам, придушил всю нечисть и тихо было. Хорошо, что в России навели порядок, пора и этих бандеровцев в Украине прижать, — нахрапіста даводзіў Данілаў.

— Не скажыце, сват, — смела запярэчыў Васіль Пятровіч, — быў я там год таму ў іх — брат у мяне жыве ў Хмяльніцку. Не бачыў я там ніякіх бандэраўцаў, людзі як людзі — добрыя, гасцінныя.

— Ситуация меняется, — даводзіў Аркадзь Сяргеевіч, — а всё из-за того, что уходят они от нашего братства, в угоду дяде Сэму предают Россию, предают веками устоявшуюся дружбу. Ещё и хотят, чтобы русские там говорили на их тарабарском языке. Вот и ты, Вася, вместо того, чтобы говорить по-нормальному, употребляешь какие-то словечки, ну прямо чёрт-те что.

І Данілаў, падрабляючыся пад голас Васіля Пятровіча, перадражніў яго:

— Ажыў, цяпер, годзе. Тьфу ты, язык сломаешь.

— Не, сваток, не згодзен я, чаму вы лічыце, што гэта дрэнныя словы? Нармальныя словы, — зноў не пагадзіўся з ім ажыўлены Зяленскі, — я ж вырас на гэтым. Што ж, мне адмаўляцца ад роднага слова, ад роднай мовы?

— Да какие там слова — быдлячьи прямо. Мова, ну надо же, — скрывіўся Данілаў. — На русском надо говорить, это великий и могучий язык, как сказал классик, язык, признанный всем миром.

— Вы, сват, хочаце сказаць, што мы быдла? — Васіль Пятровіч шчыра абурыўся і грукнуў кулаком па стале.

— Супакойся ты, набраўся, дык будзь чалавекам, — зашыпела на яго жонка і кінула ўмольны позірк на Данілава:

— Прабачце яму, Аркадзь Сяргеевіч, выпіў лішняга.

Сват як не пачуў яе прабачэнняў. Ён нахіліўся да Васіля Пятровіча і ў запале махнуў рукою, нібыта выносячы прысуд:

— А разве нет? Да если бы не русский человек, не Россия — сидели бы вы, как партизаны, в своём вонючем болоте и дальше.

— Дык што, мы ўсе — быдла? — Васіль Пятровіч прыўзняўся.

Аркадзь Сяргеевіч выпіў падстаўлены Тамарай Іванаўнай кілішак і, не закусваючы, матлянуў галавою:

— Не горячись, Вася.

Потым ён устаў і, ляпнуўшы Зяленскага па плячы, заявіў:

— Вам давно пора по-настоящему приобщиться к нашей великой культуре, иначе так и останетесь бульбашами неотёсанными, партизанами, ха-ха-ха.

— Ах так?!

Відаць, пасля гэтых слоў нешта перакруцілася ў галаве ў Васіля Пятровіча — ён не на жарт раз'юшыўся:

— Вось табе за быдла.

І, схапіўшы сталовы нож, саўгануў ім Аркадзю Сяргеевічу ў бок. Надзея Паўлаўна дзіка завішчала, а Тамара Іванаўна, коратка ўскрыкнуўшы, адарвала мужа па руцэ. Нож упаў на плітку, глуха звякнуўшы. Данілаў збялеў і, вырачыўшы вочы, схапіўся за бок. Надзея Паўлаўна, зглядзеўшы кроў на мужавай кашулі, страціла прытомнасць — Зяленская ледзь паспела падхапіць яе. Тамара Іванаўна разгубілася, не ведаючы, каго ёй ратаваць. Пасля кароткай зніякавеласці Васіль Пятровіч сам ачомаўся і загаласіў:

— Сваточак, даражэнькі, прабачце, я ж не хацеў! Авой, што ж я нарабіў?!

— Скорую вызови, — прахрыпеў сват.

Васіль Пятровіч кінуўся да тэлефона, а Тамара Іванаўна, пырскаючы мінеральнай вадою ў твар Надзеі Паўлаўне, спрабавала прывесці яе да свядомасці. У хуткім часе ў двор уварваліся гукі сірэны.

Васіль Пятровіч сядзеў у крэсле і, схапіўшыся за галаву, мармытаў сабе пад нос:

— Што я нарабіў, што я нарабіў!?

— Алкаш няшчасны, каб на цябе немач, — усхліпвала Тамара Іванаўна, — гэта ж трэба — такая ганьба, такая ганьба! Божа ж мой, што цяпер будзе?

У суседнім пакоі ўрач аглядаў Данілава. Праз нейкі час ён выйшаў:

— Мы забіраем пацярпелага з сабою. Ён тут прапісаны?

— Не, — прашаптаў Васіль Пятровіч.

— А дзе яго пашпарт?

— Зараз, я спытаюся, — усхліпваючы і, на хаду выціраючы слёзы, падхапілася Тамара Іванаўна.

Урач сеў за стол пісаць нейкія паперы. Васіль Пятровіч на ватных нагах пайшоў за жонкаю ў суседні пакой. Надзея Паўлаўна паўзляжала на шырокім мяккім крэсле, прыклаўшы да галавы мокры ручнік. Аркадзь Сяргеевіч сядзеў на ложку з голым торсам, збоку ў яго, на брушыне, бялела свежая павязка.

— Сваток, прабачце дурня, не ведаю, што на мяне найшло, — зніякавелы Васіль Пятровіч, ледзьве дыхаючы, апусціў галаву. — Гарэлка, праклятая, вінаватая, гары яна гарам. Прабачце.

— Ладно, Вася, не клянчи — рана неглубокая. Хорошо, что нож тупой, ты мне только кожу рассадил. Доктор ваш пообещал заштопать так, что даже знака потом не останется, — Аркадзь Сяргеевіч, зморшчыўшыся ад болю, падняўся. — А ему я сказал, что порезался о разбитое стекло. Как не крути — родня мы теперь. Лучше помоги мне одеться.

Зяленскі расшпіліў чамадан, выцягнуў чыстую кашулю і дапамог свату апранууцца. Ужо потым Васіль Пятровіч, падтрымліваючы Аркадзя Сяргеевіча пад локаць і дапамагаючы спускацца па лесвіцы, усё шаптаў:

— Асцярожна, сваточак, асцярожна. Так, вось яшчэ адна прыступачка, яшчэ адна. Ах, каб мяне пярун, дурня недапечанага... Усё праклятая гарэлка даводзіць. Асцярожна, сваточак, асцярожна.



# Райскі сад



Валянціна АКСАК

### Чысцец

*Блакітныя зоркі*
*на срэбнай асноведзі неба —*
*хіба так выглядае мясціна,*
*куды нас пашле на правунак*
*справядлівы Ўладар?*
*Думаю, неяк інакш.*
*Не так далікатна*
*й не так міламжальна,*
*як гэтая любата*
*з аксамітнай лістотай*
*і ядвабнымі кветкамі,*
*якую чамусьці назвалі —*
*чысцец.*

### Тыл

*Прытулілася спінай*
*да бацькоўскае хаты —*
*адчула цяпло,*
*зразумела нарэшце*
*сэнс слова тыл*
*у той дзень,*
*як яго назаўжды*
*страціла.*

### Яшчэ

*Устаю на досвітку,*
*каб сустрэць сонейка,*
*кладуся а шарай гадзіне,*
*яго праведўшы.*
*З цемраю днець*
*мне яшчэ*
*наначуецца.*

### Лепей?

*Каханне здарылася.*
*Дзеці выгадаваліся.*
*Кніжкі надрукаваныя.*
*І мама жывая.*
*Хіба бывае лепей*
*на шляху*
*за шэсцьдзясят вёрстаў*
*ад зямлі да неба?*

### Дно

*Вывуджваю*
*з забруджанай душы*
*самых трывушчых*
*таўстаскурых чуццяў,*
*а далікатныя даўно згібелі,*
*ачмурэлі ад атруты*
*ці зашыліся на дно*
*ў спадзеве перасядзець,*
*покуль знойдзецца ў каго*
*чысцейшага*
*перасяліцца.*

### Споведзь

*Так.*
*Так.*
*Так…*
*На ўсе дзесяць пытанняў —*
*толькі сцвярджальны адказ.*
*Рахунак сумлення майго*
*перапоўнены.*
*Я ледзьве ўзнялася з каленяў,*
*знясіленая прызнаннямі.*
*У дзвярах капліцы*
*мільгануў жаночы цень.*
*Матушка.*
*А як жа яна*
*адказвае на споведзі*
*на ўсе пытанні*
*мужа-святара?*

### Прышэсце ўсмешкі

*Колькі заходаў*
*ты цешыўся*
*ў чужых ложках —*
*столькі світанкаў*
*плакалі*
*твае дзеці*
*ў забытых калысках.*
*Колькі імёнаў было*
*ў тваіх выляжанак —*
*столькі назваў хваробаў*
*знайшлося*
*ў тваіх унукаў.*
*Колькі зімаў*
*ты абыходзіў*
*родную хату —*
*столькі летаў*
*натолісся болем*
*на шпітальных пасцелях.*
*Карма? Кара? Кон?*
*Не пераймайсяназовам,*
*а папрасі лекара*
*згатаваць акавіту*
*з красак,*
*стаптаных з чужынкамі,*
*і слёзаў родных дзяцей*
*ды пі па тры кроплі*
*аж да прышэсця ўсмешкі*
*на каханы некалі твар.*

### Розныя сны

*Як зэкі,*
*спімо па чарзе,*
*і нам сняцца*
*розныя сны*
*пра адзін і той жа*
*ўтульны наш ложак.*

### Сем + я

*Сем у мяне сямейнікаў*
*па гэты бок*
*і сем па той.*
*А я між імі —*
*памочніцай гэтасветным*
*і плакальшчыцай па тых.*
*Хутка парушу раўнавагу,*
*і хто тады*
*замовіць слоўка*
*за здароўе тутэйшых*
*і за спакой тагасветных?*

### Цэнзура «Пана Тадэвуша»

*— Тэлемена ўвесь час*
*з насалодаю*
*смаліць піпку,*
*і гэта цяпер,*
*калі мы прапагандуем*
*здаровы лад жыцця.*
*Як, скажыце,*
*наглядзеўшыся на такую гераіню,*
*будуць верыць нам школьніцы?*
*А габрэй чаго варты?*
*Адпусціў такія даўгія пэйсы,*
*што хоць косы заплятай.*
*Вы што,*
*намякаеце на яго*
*нетрадыцыйную арыентацыю?*
*Хіба забыліся,*
*што ў нас грамадства*
*са спрадвечнымі праваслаўнымі*
*каштоўнасцямі сям'і і шлюбу?*
*Пра расейскага маёра то ўвогуле*
*аж гаварыць няёмка.*
*Ён жа непрыглядны да агіднасці!*
*І чаму ён так шмат у вас п'е?*
*Гэта што,*
*карыкатура на братні народ?*
*Ну а сваім чырвоным святлом*
*у белых арках*
*з кім падражніцца вам хочацца?*
*З намі?*
*Давайце дамовімся так:*
*мы гэтага не бачылі,*
*вы — не паказвалі.*
*І не пакажаце!*
*— Міцкевіча я перапісваць не буду!*
*І не перапісаў.*
*Усё засталося —*
*і піпка,*
*і пэйсы,*
*і п'янка.*
*Толькі з арачных вокнаў*
*кудысьці знікла*
*агністае святло.*
*Але гэта — нюансы,*
*пра якія ў Міцкевіча*
*нічога не напісана.*

### Муляе

*Прачынаюся*
*сярод ночы —*
*муляе*
*няўдалае*
*слова*
*вечара.*

### Сяброўкі

*Пазбягаю сустрэч*
*са старымі знаёмымі,*
*бо яны,*
*мяне не слухаючы,*
*безупынна апавядаюць*
*пра свае хваробы*
*і праблемы з дзецьмі,*
*пасля чаго нядужае*
*ўся мая радзіна.*
*Пазбаўляюся сябровак,*
*тых,*
*якія калісь слухалі*
*пра мае болькі*
*і радаваліся,*
*і тых,*
*якія не радаваліся,*
*але забіралі*
*маіх каханых.*
*Застаюся сама –*
*пры кветках,*
*якія слухаюць,*
*чуюць,*
*маўчаць,*
*і птушках,*
*якія ўсе мае беды*
*крыламі разводзяць.*

### Развітанне з садам

*Недацьвілую ружу*
*прыхопяць марозы*
*і пойдзе пад снег*
*скамянелая кроў,*
*красавіцкім дасвецдем*
*адцінак змарнелы*
*хтось зрэжа —*
*не ўбачу таго.*

### Куртаты швэдрык

*Павярнула на восень.*
*Час даставаць пруткі*
*і ніткі з воўны бухматай*
*ды мерыць іх даўжынёю*
*штораз карацейшыя ўзоры.*
*Да Калядаў*
*клубкі разаўюцца*
*ды выйдзе*
*швэдрык куртаты.*

### Восень

*Запозненая ружа —*
*згубленыя барвы,*
*перасмяглыя пялёсткі,*
*выснажаны водар —*
*сэрца збалелае маці.*

### Нельга

*Хочацца ўкленчыць,*
*а нельга —*
*Хрыстос уваскрос.*

# Ноч цмока

## Старонкі рамана



Валер ГАПЕЕЎ

Калі непрыемнасці пачынаюцца з раніцы — значыць, будуць вялікія непрыемнасці.

Палова на сёмую. Гарадок пусты. Я іду па праезнай частцы, бо на гэтай вуліцы, якая сцелецца ўздоўж высачэзнай сцяны-агароджы калоніі, няма тратуара. Цёмна-шэрая, амаль чорная ад вільгаці лента асфальту бяжыць уніз, да скрыжавання. Там цяпер міргае жоўтым святлафор. Ад святлафора прайсці паўсотні крокаў — і вось ён, светла-шэры будынак пракуратуры. А лента шашы перакульваецца цераз скрыжаванне і пачынае ўздымацца ўверх, зноў нырцуе ўніз і ўпіраецца ў сучасны будынак царквы з чорнымі купаламі.

Заўсёдны бомж ля трох смеццевых кантэйнераў педантычна перабірае іх змесціва. Яго я бачу заўсёды толькі са спіны, ён ніколі не паварочваецца на мае крокі. Робіць сваю справу бязгучна, нават шкляныя бутэлькі дастае і пакуе ў свае торбы без адзінага дзынькання шкла.

Адзін сапраўды жывы, хто трапляецца мне на шляху, — вартавы на вышцы ў куце агароджы, высока над зямлёй. Ён стаіць там, у драўляным акенцы, плечуком і галавой прыціснуўшыся да вушака. Расплюшчвае вочы на мае крокі, глядзіць лянотна і абыякава і зноў заплюшчвае іх — яму хочацца спаць...

Адзін дзень падобны да другога, ранкі не розняцца ад надвячоркаў, ночы без зорак. Мне здаецца, такое надвор'е — хмурнае, без дажджоў, іншым разам з мокрым пылам у паветры — было тут заўсёды і будзе заўсёды. Некалькі сонечных дзён, калі цвілі вішні, здаліся кароткімі і сарамлівымі, прамільгнулі, быццам іх і не было, нібыта школьніцы-выпускніцы прабеглі па тратуары, свецячы вакол сябе незагарэлай маладой скурай высока адкрытых цнатлівых ног.

Мне спадабаўся райцэнтр пасля тлумнага Мінска: варта выйсці на працу ўсяго на паўгадзіны раней — і табе ніхто не сустрэнецца наперадзе, ніхто не будзе даганяць ззаду. Нечакана для сябе я зрабіў адкрыццё: тут можна пабыць самотным без асаблівых высілкаў. Увесь горад жыве паводле аднаго вялізнага нябачнага будзільніка. Праз хвілін трыццаць-сорак з'явяцца першыя аўтамабілі, пасля — веласіпедысты, потым тратуары пачнуць запаўняцца мінакамі. А пакуль — цішыня, адно мае крокі. Вечарамі ў нейкі момант вуліцы імкліва пусцеюць, цішэюць, нешматлікія пары-тройкі моладзі ў пагусцелай шэрасці, якая глушыць гукі, брыдуць з аддаленых куткоў у цэнтр — там іх месцы тусоўкі, там некалькі ліхтароў і лавы ў ценю...

Яшчэ мяне прывабіў правінцыйны гарадок сваім адчуваннем прасторы. Вуліцы прыватнай забудовы ў райцэнтры шырокія, ад краю дарогі да хат — добры дзясятак метраў. Няма ў гарадку і сучасных вышэзных дамоў, вузкіх двароў. Тут самы высокі шматпавярховік — на пяць паверхаў, двары проста велічэзныя, у сталіцы на такой плошчы яшчэ б тры-чатыры гмахі ўціснулі. І таму тут прасторна. Нават аўтамабілям хапае месца. Праз самы кароткі час пасля мінскай таўкатні і даўкі да цябе вяртаецца адчуванне тваёй асабістай прасторы, амаль фізічнае адчуванне, і людзі вакол таксама заўважаюць яе. Тут усе быццам маюць асаблівы зрок, бачаць воблака твайго працягу вакол цябе. І нават калі да цябе падыходзяць на вуліцы, спыніўшы, — не парушаюць, не разрываюць гвалтам нябачную тваю абалонку і берагуць сваю. І ты таксама не лезеш нахабам у чужы свет, нават калі перад табой твой сябар.

Хаця, папраўдзе, сяброў у мяне тут пакуль няма. У пракуратуры я не толькі самы малады, але, бадай што, усім магу спадобіцца ў сыны па ўзросце. Хіба акрамя сакратаркі Ніначкі, трыццацітрохгадовай крэпенькай жанчыны невялікага росту з завялікімі для яе танкарысага твару пульхнымі шчакамі.

Тэлефон у кішэні ўздрыгвае, непрыемна, са штучнай бадзёрасцю гучыць у ранішняй застыласці электронная мелодыя. Трэба выбраць іншую...

Тамара! Хваляванне разганяе думкі: што здарылася? Ведаю я свае абавязкі, вось і іду раней... Няўжо надзвычайнае здарэнне? Не, не можа быць... Нават з прычыны забойства Тамара наўрад ці пачне турбаваць за паўтары гадзіны да пачатку работы. Бо куды спяшацца? Калі недзе труп — дык пачакае, не збяжыць жа...

Трупаў у нас год ад году па-рознаму. Калі не лічыць «нядапалкаў» — аматараў пакурыць п'янымі ў ложку, абгарэлыя косткі якіх пасля знаходзяць у тых жа ложках, — такіх да дзесяці за год бывае. А па крымінальнай частцы — тры-чатыры. П'яныя бойкі... І сын бацьку, і сужыцелька мужыка, і між сабой сябры-таварышы не падзеляць чаго, як перап'юць...

— Слухаю, Тамара Сяргееўна.

— Васіль, ты ідзеш? — хрыпата пытае пракурорка.

— Іду, Тамара Сяргееўна! — асцярожна адказваю я, імкнуся па тоне ўгадаць прычыну нечаканага званка. — Дзесяць хвілін — і буду.

— Ага, давай... Не пужайся, усё добра... Я тут сяджу, чакаю... заходзь да мяне адразу...

На душы лягчэе. Ну і выдатна. А чакае... ну, няхай пачакае. Галоўнае — голас спагадлівы і сказала, што ўсё добра. Наша Тамара не з тых начальнікаў, якія хаваюць камяні за пазухай. Калі што не па ёй, яна не будзе выбіраць час і месца, трымаць нешта на ўсякі выпадак... Сказала не пужацца — значыць, учарашняе застолле не нясе для мяне непрыемнасцей...

У пракуратуры адносіны былі дастаткова простымі і празрыстымі. Першую праверку на вашывасць я прайшоў ужо праз тыдзень: у маім кабінеце выпівалі, ужо не помню з якой нагоды, усім складам. Мне патлумачылі два простыя правілы: першае — выпіваць будуць заўсёды ў кабінеце самага маладога, другое — прыбіраць пасля выпіўкі дазволена толькі раніцай і толькі гаспадару кабінета. Калі першае было дастаткова зразумелым, то слушнасць другога я дапяў, калі назаўтра прыйшоў за гадзіну да пачатку работы, адчыніў фортку і стаў прыбіраць. Дарэмна было ўспамінаць, як і калі так атрымалася, але ж на факсе тэлефанаграмы ляжалі некалькі скрылікаў падсохлага сычужнага сыру. Учора б яны дакладна апынуліся разам з дакументам у сметніцы... Шукаў бы потым...

Заскочыў у свой кабінет, адчыніў фортку: смурод з сумесі тытунёвага дыму, гарэлкі, часночнай каўбасы (яе чамусьці вельмі паважаюць у пракуратуры) і яшчэ не разбяры чаго быў густым, хоць па сценках размазвай. Прымкнуў дзверы і пайшоў на другі паверх да Тамары. Як і думаў, яна сядзела за сваім сталом і курыла. Заўважыла мяне, махнула рукой — прычыні дзверы, нахілілася і дастала бутэльку.

— Кажуць, не станеш алкаголікам, пакуль не навучышся піць адзін, — казала яна, наліваючы ў тыя самыя шклянкі з узорам па краях. — Безумоўна, гэта глупства, але ж вось не магу адна. А апахмяліцца трэба... Старая стала зусім, колькі там учора выпіла, а галава як цэбар і ў роце страшна... Бяры!

Мы выпілі, Тамара пасунула мне попельніцу.

— Ты справу па трупеню-тапельцу закончыў?

Тое, што яна пачала размову са справы, падказала мне, што патэлефанавала яна не толькі з жадання апахмяліцца разам.

— Закончыў, — кіўнуў у адказ. — Заключэнне паправіць крыху...

— Паправіш... — Тамара паказала позіркам на бутэльку: — Давай яшчэ па адной... і больш не будзем. Выклікала вадзіцеля, паедзем зараз...

— Трупень?

— Ён самы... Ты так і жывеш без дзеўкі? — неспадзявана спыталася Тамара.

— Ды неяк часу на іх няма, — адмахнуўся я.

— Ну, вось і пазаймаешся, — без усмешкі пажартавала Тамара. — Каб не забыўся, як баба выглядае... Вясковую маладзіцу, 27 гадоў, знайшлі голай на ячменным полі. Як табе?

— Ого! — здзівіўся я. — Цікава... А дзе такія жарсці?

— Ляўдок... Ведаеш?

— Не давялося пакуль пабыць...

— Дваццаць кіламетраў па трасе, крыху ўбок. Была вёска сярод лесу, засталося пяць хат жывых... Але ж гадоў восем таму нехта першы аблюбаваў сабе хатку пад дачу. Ну і панеслася...

Завібрыраваў тэлефон на стале, Тамара зірнула, цiснула кнопку і коратка адказала: «Чакай».

Сама наліла яшчэ па колькі ў чаркі.

— Вадзіцель...

Праз паўгадзіны мы ўязджалі роўнай лясной дарогай у вёсачку Ляўдок. Нас сустрэў ля першай хаты ўчастковы, мужчына гадоў сарака, з вялікім пукатым жыватом, мажны, амаль лысы. Фуражку ён трымаў у руцэ, не стаў яе надзяваць, калі мы прыпыніліся. Лысіна ягоная была ў дробных кропельках, хоць дажджу не было, роўнае шэрае неба ўзнялося вышэй.

— Добрай раніцы, Тамара Сяргееўна, — павітаўся ён.

— Здароў, Тумар, — адказала пракурорка. — Добрыя ты нам раніцы падганяеш... Гэта мой следчы...

— Ведаем, ведаем, — участковы моцна пацiснуў мне руку, і яго далонь, насуперак майму прадчуванню, аказалася сухой і шурпатай. — Забітая — мясцовая, з вёскі, — казаў, гучна заглытваючы паветра, участковы. — Жыла з бацькам, той зусім стары, даглядала. Не замужам, 27 гадоў. Працавала санітаркай у бальніцы. Нідзе не была заўважана, ціхая, нават дзікая. Ды яны з бацькам жылі... асобна ад усіх. Труп заўважыла суседка, старая баба. Выйшла да ветру за хлеў — ляжыць...

Спыніліся.

Тры аператыўнікі стаялі, як мне падалося, у крыху разгубленым чаканні, на мяжы ячменнага поля. Бліжэй да нашай мяжы, метраў за дзесяць ад яе, сярод невысокіх тонкіх парасткаў ячменю на жываце ляжала жанчына. Левая рука выкінутая далёка наперад, правая сагнутая ў локці, адведзеная крыху назад. Правая нага сагнутая ў калене, левая — выцягнутая. Твару не відаць, галава павернутая на левую руку. Чорныя валасы, кароткая стрыжка. Маладое, дужае цела быццам раптоўна застыла ў кароткім перадыху.

— Не дапаўзла, — услых агучыла маю думку Тамара. — А што здарылася яшчэ, чаго стаіце, не працуеце?

— Ды вось... — кіўнуў на труп начальнік крымінальнага вышуку. — Слядоў няма... Учора бабця паскародзіла ячмень...

І ўжо разам з намі, невядома ў каторы раз некалькі пар вачэй пільна ўглядваліся ў ляжачую жанчыну і лапік зямлі вакол яе. Да яе і назад ішоў толькі адзін след — аднаго з аператыўнікаў. А больш — нідзе не слядочка. Пабаранаванае поле з парасткамі было роўненькім, як кантрольна-следавая паласа на дзяржаўнай мяжы.

— Ну не з неба ж яна ўпала, — раздражнёна сказала Тамара — яна заўсёды раздражнялася, калі нечаму не магла знайсці тлумачэння, — і пачала абыходзіць труп па коле на вялікай, у некалькі метраў, адлегласці.

— Няма слядоў... — ужо без здзіўлення і раздражнення канстатавала яна, калі вярнулася на месца. — Што скажа мой малады геній сыску? — спытала без усмешкі.

— Трэба... вынесці труп на мяжу... пасля фатаграфавання, — прапанаваў я. — Са слядамі потым разбярэмся...

Нават калі вельмі доўга хадзіць па крузе, вынікам стане толькі вытаптаная сцежка.

З адным аператыўнікам мы хадзілі вакол трупа па спіралі, усё пашыраючы кола, і ўважліва ўглядаліся сабе пад ногі. Роўная зямля з характэрнымі бароздкамі пасля баранавання. Нідзе не тое што следу, а нават намёку на тое, што тут нехта хадзіў...

— Ну што? — узняла на мяне вочы Тамара, калі падышоў да яе пасля таго, як наша спіраль дайшла да ўтравелага ўзмежжа.

— Д'ябальшчына нейкая, — шчыра прызнаўся я ў сваёй няздольнасці хоць нешта патлумачыць. — Слядоў аніякіх. Нішто не паказвае на тое, што сляды, калі яны былі, нехта пасля заграбаў... Труп з'явіўся на ўжо пабаранаваным полі, — сказаў, каб нешта яшчэ сказаць, бо мне і самому падалася дурной думка пра тое, што нехта здзейсніў злачынства, пакінуў труп на полі, а сам стаў тое поле спакойна баранаваць.

— Будзем лічыць, што з неба ўпала, — спакойна рэзюмавала Тамара, дастала цыгарэты. — А голая таму, бо якраз на мятле ляцела, як тая... як яе, Маргарыта, так?

Я цішком глянуў на Тамару — жартуе яна ці што? Як яе разумець?

— Тады мятлу знайсці трэба...

— Усё лухта... Адкуль яна ішла? Вось пытанне, дзе ўсе адказы. Шукай...

— Ды разумею, — павініўся я.

Кажуць, калі чалавек памірае на руках, дык момант смерці вельмі проста вызначыць: цела яго раптоўна становіцца больш важкім. Не было ў мяне выпадку праверыць тое на практыцы, ведаю адно: мярцвяк заўсёды цяжкі. Смерць напаткала гэтую жанчыну зусім нядаўна: яшчэ ніколькі не спруцянелі мышцы яе рук і ног, яны лёгка разагнуліся, калі мы перавярнулі труп на спіну.

Стан дзяўчыны быў бездакорны. Праўда, нехта мог бы сказаць, што яна залішне тоўстая для свайго ўзросту, але менавіта такіх прыгажунь, кажучы сённяшняй моваю, рэкламаваў Кустодзіеў: паўнацелых, здаровых ва ўсіх сэнсах, калі і сцёгны — каб дзяцей нараджаць без страху, і грудзі — каб малака хапіла на тройню... Адно што валасы каротка падстрыжаныя.

І спакойны твар. Заплюшчаныя вочы, сціснутыя вусны. Далібог, так паміраюць у сне, без болю і тугі...

— Вось дык маеш...— прысвіснуў старшы з аператыўнікаў. — Тамара Сяргееўна, рана скразная... Уваход з правага боку, а выхад — вось, — аператыўнік пацягнуў труп за руку і павярнуў цела на правы бок.

Другая невялікая рана была амаль без слядоў крыві, але дастаткова выразнай, каб казаць пра тое, што яна звязана з ранай на правым баку.

— І што такое можа быць? — Тамара амаль не выказала свайго здзіўлення, памацала рану пальцам. — Нешта не надта вострае, атрымліваецца, скуру быццам парвала, а не разрэзала...

— Ды вось першае, што ў галаву прыйшло, — шомпал, — адказаў аператыўнік.

— Тады хутчэй нейкі самаробны шампур... Насадзілі яе, як кавалак мяса, — не згадзілася Тамара. — Уваходная адтуліна

велікаватая для шомпала. Дакладна эксперт скажа... Прыкрыйце чым яе... — нечакана папрасіла Тамара. — Занадта яна... жывая.

Пракурорка павярнулася да мяне з працягнутымі рукамі, я дастаў з кішэні пачак вільготных сурвэтак і выцягнуў дзве — сабе і Тамары.

Калі труп загрузілі ў машыну аператыўнікаў, Тамара прысела на вялікі шэры камень, які відавочна выцягнулі на ўзмежжа з поля, і коратка прапанавала:

— Выказваемся...

— Маем труп голай бабы, няйначай ведзьмы, — скрывіўся ў спробе ўсміхнуцца адзін з аператыўнікаў.

— Ну, яна не ведзьма, — нечакана ўмяшаўся ўчастковы Тумар. Ён працёр сваю вільготную лысіну. — Ва ўсякім разе, людзі нічога такога не казалі пра яе. А вось бацька — так.

— Што — так? — папрасіла ўдакладніць Тамара.

— Бацька яе — у мінулым вядомы вядзьмак, лячыў людзей, а больш — скаціну. Дзяцей ад спалоху адшэптваў. Казалі, мог і зелле для жанчын прыгатаваць, каб мужыка ўтрымаць ля сябе, — нехаця распавёў Тумар. — Ды што вы на мяне так глядзіце? Вядзьмак — ён і ў нас вядзьмак, і ў Афрыцы. Сам у яго гадоў колькі таму з жыватом быў...

– Так, давайце бліжэй да справы... Вядзьмак не ўцячэ ад нас. Адна-адзіноткая рана, ніякіх сінякоў, драпінаў... Голая... З'явілася ноччу... Значыць, шукаем мужчыну. І думаем, чым маглі такім ударыць... Давай, Тумар, кажы найперш пра яе каханка...

— Не скажу, — паморшчыўся Тумар бы ад кіслага. — Не было ў яе каханка.

— Такая жанчына вабная — і каб кавалера не было?

— Ды яна мужык мужыкам была! — адчайна выгукнуў Тумар прызнанне, быццам сам быў вінаваты. — На косы яе гляньце — пад хлопца падстрыжаная. Яна такой і хадзіла, цалкам як мужык апраналася...

— Трэба шукаць сяброўку...

— І сябровак не было ў яе, — цяпер ужо са шкадаваннем паведаміў Тумар. — Цураліся яе. Хоць вось са мной яна была вельмі паважнай... Разумніца...

— Трэба капаць сярод знаёмых...

— Не спадзявайцеся на прастатў, — Тамара ўзнялася, абтрэсла-абцягнула вузкую спадніцу. — Працуйце, ведаеце самі, што рабіць. Мне праз гадзіну ў турму, на разбіральніцтва скаргаў. Будзеце анатаміраваць, запрасіце загадчыцу гінекалагічнага аддзялення нашай бальніцы Раісу Ананьеўну. Бацьку распытайце асабліва...

— Ужо як атрымаецца, — уздыхнуў Тумар. — Слабы зусім. Амаль і не гаворыць. А што там з яго галавой і чаму верыць...

Мы заехалі ў сельвыканкам, я папрасіў сакратара, каб падрыхтавалі і да вечара перадалі звесткі пра ўсіх жыхароў вёскі. Папярэднія размовы з мясцовымі і з бацькам забітай будуць весці аператыўнікі. Мяне чакаў кабінет: папяровая работа, трэба было тэрмінова заканчваць заключэнне па тапельцу, а найперш прыбрацца. Хоць сонца і не было відаць, у паветры адчувальна пацяплела. Жах падумаць, што за водары ў кабінеце...

Але, на здзіўленне, пах у кабінеце быў амаль нармальным: выцягнула ўсё праз фортку. На навядзенне парадку патраціў хвілін дваццаць, нават бутэлькі паспеў вынесці, балазе вялікі кантэйнер для смецця стаяў непадалёку ад будынка пракуратуры. Яшчэ з гадзіну выпраўляў-дадрукоўваў паперы. Невядома, як цяпер закруцяцца справы з забойствам...

Папярэдне дамовіўшыся з галоўурачом Віктарам Паўлавічам пра сустрэчу, бліжэй да абеду я прыехаў у раённую бальніцу. Віктар Паўлавіч сустрэў мяне ў сваім кабінеце з прынесенай ужо на яго загад асабістай справай. Яшчэ калі я тэлефанаваў яму, ён ужо ведаў пра смерць сваёй работніцы. І цяпер выглядаў вельмі засмучаным.

— Грыцук Насця... Вельмі шкада, шчыра кажу. Моцная маладая жанчына, не грэблівая. Угаварылі працаваць у хірургічным аддзяленні, там і моц у руках трэба, і самі разумееце, якія бываюць людзі пасля аперацыі, — пасля пацiскання рукі і прапановы мне сесці сказаў галоўурач і пасунуў да мяне тонкую папку — асабістую справу. — Там усё чыста...

— Віктар Паўлавіч, мне, самі разумееце, пакуль трэба як мага больш даведацца пра... вашу былую работніцу.

— Асабіста магу сказаць толькі станоўчае: старанная, выключная выканаўца, ніякіх заўваг па рабоце, ніякіх эксцэсаў з хворымі. Працуе... працавала пяць гадоў. Сустракаўся з ёй я часта, бо мой профіль — хірургічны. Маўклівая, няўсмешлівая, але ветлівая. Вы б хацелі пагаварыць з усім персаналам, як я разумею? Магу ўступіць вам свой кабінет, тут не перашкодзяць.

— Дзякуй вам, Віктар Паўлавіч, напачатку я хацеў бы пагаварыць са старшай медсястрой...

— Я запрасіў і яе, і загадчыцу аддзялення. Яны ўжо павінны падысці... — галоўурач пацягнуўся да кнопкі апарата: — Андрэеўна, калі ласка, запрасіце да мяне старшую медсястру хірургічнага аддзялення. І загадчыцу адразу, — аддаў ён распараджэнне сакратарцы.

У расчыненых дзвярах з'явілася жанчына гадоў сарака ў белай шырокай куртцы і такіх жа белых шырокіх штанах.

— Ганна Антонаўна, вы, думаю, здагадваецеся, з якой прычыны ў нас такія... госці і чаму я вас паклікаў. Мне вас пакінуць сам-насам? — зірнуў на мяне Віктар Паўлавіч.

— Не, дзякуй, не трэба. Тут не допыт, хачу папярэдне пагутарыць. Праўда, фармальнасці нейкія трэба выканаць, таму прашу вас, — звярнуўся я да жанчыны, — ваша прозвішча, дзе жывяце, пасада...

Ведаю, наколькі такі вось момант напружвае і часам нервуе чалавека — калі ты пачынаеш уносіць у ліст апытання біяграфічныя дадзеныя. Мне і самому не падабаецца, але трэба...

— Ганна Антонаўна, Віктар Паўлавіч коратка, але дастаткова змястоўна выказаўся наконт Насці Грыцук. Што вы можаце сказаць пра яе як работніка, як чалавека?

— Ды добрая работніца... была, — уздыхнула з усхліпам зусім па-бабску медсястра. — Ніяк не верыцца... Адказная. Ніколі не трэба было падганяць. Зноў жа, як да хворых, дык не заўважалася, каб адным увага, а другім абы зрабіць. Для яе ўсе роўныя былі — што малады хлопец з грыжай, што стары дзед з гемароем. Дужая, сама амаль заўсёды спраўлялася, калі пад цяжкім кім прасціны памяняць ці самога памыць. Не, не магу нічога дрэннага сказаць.



— А які яна была чалавек? Як у калектыве?

— Ну што... звычайна... Не канфліктавала. Ну... папраўдзе, яна ні з кім асабліва не сябравала. Убаку ад усіх, хоць калі які стол агульны на свята, дык не цуралася. Трошкі дзікаватая як быццам. Але не скваплівая. Не гаваркая, але ж і не маўчун які, бяседу падтрымае. Такая вось... ціхая, спакойная. Можа, занадта спакойная. Надта не пасмяецца, але і раздражнёнай яе не бачылі. Усё больш у сабе хавала, відаць, былі ў яе нейкія іншыя цікавасці. Сярод санітарак толькі яна ў такім узросце, астатнія — амаль пенсіянеры. Ну, а з медсёстрамі... У нас, ведаеце, ёсць трошкі такая... ведаеце, прафесійнае. Калі медсёстры больш між сабой, малодшы персанал — між сабой...

— Зразумела, дзякуй... А як жанчына? Яна не была замужам... А жанчына ж статная, на твар — прыгожая. Характар, як вы кажаце, роўны, спакойны. Чаму яна не была замужам? У яе быў мужчына, не ведаеце? Прыходзіў да яе хто?

— Ой... тут і не ведаю, што казаць, — замарудзіла з адказам медсястра.

— Кажыце, як ёсць, — супакоіў-падахвоціў я. — Для нас самая нязначная дробязь можа стаць важным фактам. Кажыце, як думаеце, калі не ведаеце.

— Дык не было ў яе мужчыны, дакладна, — з уздыхам, асцярожна пачала Ганна Антонаўна. — Як прыйшла была пяць гадоў таму, то пыталіся ў яе часам, жартавалі: давай табе хлопца знойдзем. А потым... не ведаю, ці казаць... Заўважыла я аднойчы, выпадкам, як яна глядзела на адну медсястру, калі пераапраналіся, на змену прыйшоўшы.

— Як глядзела?

— Ды так вось... Як мужчыны глядзяць, — зноў уздыхнула жанчына. — А пасля і нашы ўсе пагаворваць сталі, што... ну, цікавіцца Насця жанчынамі. Дык з ёй трошкі асобна сталі трымацца. Бо дзіка ж. Пасля прывыклі, ды яна і не прыставала ні да кога... з нашых, не заўважалі. Але вось як пераапранацца, дык з ёй неяк і саромеліся. Адна яна заставалася.

Жаночы голас праз селектар перапыніў нашу размову:

— Віктар Паўлавіч, тут Святлана Мікалаеўна чакае...

Галоўурач запытальна павярнуўся ў мой бок, і я паспешліва кіўнуў:

— Запрасіце...

Святлана Мікалаеўна — як я зразумеў, загадчыца аддзялення — зайшла ў кабінет. Глыбока пасаджаныя вочы і выразныя цёмныя кругі з адвіслымі складкамі пад вачыма надавалі яе твару стомлены, нават непрыгожы выгляд. Больш за тое, мільганула думка, што жанчына толькі выйшла з запою. Але пастава яе, тое, як яна прысела на крэсла — упэўнена, але не з нахабнай самаўпэўненасцю, — а больш яе ўважлівы, прафесійна-допытлівы позірк падказвалі мне, што паўкружжы пад вачыма — ад захворвання, магчыма, нешта з ныркамі. Ці сапраўды, ад стомы. Пасля таго, як я запісаў дадзеныя, асцярожна спытаў наконт цікавасці Насці Грыцук да жанчын.

— Так, я ў курсе яе сэксуальнай арыентацыі. Але Насця выключна сціплая ў гэтым плане. Яна — дастаткова разумная маладая жанчына.

— Была, — папраўіў нехаця галоўурач.

— Так, была, — нечакана ціха пагадзілася загадчыца аддзялення і зірнула на мяне: — У Насці Грыцук не было ворагаў, я дакладна ведаю. Сяброў блізкіх не было таксама, але і ворагаў, хто б пайшоў на смертазабойства, не было. А што яе знайшлі, як тут кажуць, цалкам аголенай на полі — гэта ўвогуле з вобласці ірэальнага.

— На жаль, рэальнасць, — папраўіў я доктарку. — Мне трэба будзе паразмаўляць з кожным работнікам вашага аддзялення. Няўжо ў вашай санітаркі не было хоць якой сяброўкі, якой бы яна больш-менш давярала, з кім дзялілася сваім набалелым?

— Яе сяброўкі — у інтэрнэце, — упэўнена адказала Святлана Мікалаеўна. — Некалькі разоў я бачыла, як яна там бавіла час, карыстаючыся сваім тэлефонам. Звярнула ўвагу: у яе быў самы сучасны тэлефон. Яна мне пра тое сама казала, калі я пацікавілася. Шукайце там яе сяброў...

Мабыць, сакратаркі не было на месцы, бо дзверы асцярожна прыадчыніліся, галоўурач зірнуў на іх і тут жа запрасіў:

— Заходзьце, Раіса Ананьеўна...

Загадчыца гінекалагічнага аддзялення, невысокая жанчына перадпенсійнага веку, зайшла і разгублена агледзела прысутных, затрымаўшы позірк на мне.

— Следчы пракуратуры, — патлумачыў ёй галоўурач.

— Я тады скажу, усё адно яму даложаць, — нібыта сама сабе прамовіла жанчына, быццам набіралася смеласці, бо разумела, што выдае тайну. І хоць усе мы тут, у кабінеце, ведалі, што тайна ўсё роўна будзе парушаная, але вось зараз адбудзецца яўнае прафесійнае парушэнне. Аднак у навіне, якую прынесла ўрач, было нешта вельмі істотнае для яе самой, для кіраўніцтва і калектыву бальніцы, што здавалася больш важкім, чым правілы невыдавання тайны.

Яна не стала сядаць і пасля кароткай паўзы прамовіла:

— Мяне выклікалі... Анатаміравалі нашу санітарачку. Дык вось... Насця Грыцук нарадзіла за трое-чацвёра сутак да сённяшняга дня. Маса маткі больш за 600 грамаў, невялікія разрывы яшчэ не зацягнуліся...

Яна абвяла позіркам усіх прысутных у кабінеце, і ў ім чыталіся выразныя асуджэнне і абвінавачанне.

Войкнула, не ўтрымаўшыся, старшая медсястра. Галоўурач нечакана густа пачырванеў, устаў і ціха спытаў, і было бачна, што спакойныя словы даюцца яму з цяжкасцю:

— Святлана Мікалаеўна, як так магло здарыцца? Я падпісваў паўтара месяцы таму яе заяву на два тыдні адпачынку без утрымання — у яе вельмі слабы бацька, так Насця патлумачыла ў заяве. А пасля ў яе быў планавы адпачынак... Цяжарнасць... Яна павінна б была стаяць на ўліку ды і... Як не заўважылі?

Я назіраў за тварам загадчыцы аддзялення, на якім акрамя ўвагі да субяседніка нічога не адбілася. Яна адказала спакойна і ўпэўнена:

— Віктар Паўлавіч, калі жанчына пажадае, ёй няцяжка схаваць сваю цяжарнасць ад непатрэбных вачэй. Тым больш такой жанчыне, як наша Насця. У яе буйныя формы цела, пэўнае павелічэнне аб'ёму жывата лёгка прыкрыць адзеннем. Яна насіла касцюм, які даваў практычна поўную гарантыю трымаць цяжарнасць у тайне. Да пэўных тэрмінаў, зразумела, хоць ведаю выпадкі, калі жанчыны прыхоўвалі свой стан да апошняга тыдня. Трэба ўлічыць, што дзеля спецыфічных адносін да Насці ў жаночым калектыве яна, наколькі я ведаю, пераапраналася без сведкаў. Таму я не здзіўляюся факту ўтойвання цяжарнасці. Здзіўляюся таму, што яна зацяжарыла... улічваючы не відавочныя лесбійскія схільнасці...

І ў той момант быццам нехта нябачны збоку нашаптаў мне прама ў галаву: калі б Насця Грыцук не нарадзіла, яна б засталася жыць.

# Малітва сляпога лунатыка



Канстанты Ільдэфанс ГАЛЧЫНЬСКІ

### Вуліца Таварная

*Грае на мандалінах хлопцаў начная варта.*
*Фарбаваныя стужкі ветрам паўсюль развесіла.*
*Зоркі нібы парэчкі. І асабліва весела*
*Ў небе ўзыходзіць месяц, проста з-за кінатэатра.*

*З фабрык ідуць дзяўчаты, пралетарскія гурыі,*
*вусны — у газіроўцы, а ў вачах — па сапфіры,*
*лузгаюць чорныя семкі, голас крыху пракураны,*
*сонцу паказваюць грудзі, круглыя, быццам ліры...*

*А калі змоўклі струны з іх песнямі-танцамі,*
*месяц-кінамеханік знік за электрастанцыяй*
*і на Таварнай вуліцы — змрок, а ў ім алкаголь*
*гусцее, як боль.*

### Вуліца шарлатанаў

*Хто палюбіць шарлатана*
*Ў свеце чэрствым?*
*Толькі зоркі недасяжным*
*Падарункам.*
*У таемных сутарэннях*
*Горкім трункам*
*Цешаць сэрцы — і шаманствам,*
*І блюзнерствам.*

*Іх рэлігія — смарагды*
*І рубіны.*
*Кроў нявінніц — толькі тэма*
*Для сатыры.*
*Вераць лічбам: 18,*
*3 й 4,*
*А з Еговы ды Ісуса*
*Строяць кпіны.*

*Шарлатаны Ватыкану*
*Шлюць праклёны.*
*Шарлатаны пагражаюць*
*Папам рымскім.*
*Плачуць зоркі над блюзнерствам*
*Іх няўрымсным.*
*І смяецца з іх пагрозаў*
*Змій зялёны.*

*Кожнай ноччу з неба месяц*
*Непадробны*
*Назірае штучны рай іх,*
*Поўны шклянак,*
*А пад ранак — звон фальшывых*
*Абяцанак*
*І вандроўных шарлатанаў*
*Плач вантробны.*

*Зранку сэрцы кроіць болем*
*Несціханым*
*Звон касцельны, безнадзейны*
*І прыгожы...*
*Выбач грэшным шарлатанам,*
*Пане Божа, —*
*Ты, што быў і ёсць таксама*
*Шарлатанам!*

### Малітва сляпога лунатыка

*Ты водар даў кветкам, а дзецям – усмешкі,*
*і сонца, і зорак касмічныя сцежкі, –*
*мне вочы вярні, дай святла ім, замглёным,*
*апаленым поўняй, шалёным, зялёным.*

### Прамова над матыльком, раструшчаным грузавіком

*Ты лайдачыў і жыў, як дзіця,*
*ты не бачыў задачаў жыцця –*
*і памёр бездзейна... Хаця*
*колькі колераў, марна змятых!*
*Мой ты вексаль без пакрыцця,*
*мой маленькі Нібэніміатлік!*

### Смерць паэта

*Не ўратавалі прыпаркі,*
*ані лаўры Петраркі,*
*ані булён з адварам.*
*Доктар пачухаў бачкі:*
*«Смерць ад белай гарачкі».*
*І сышоў з ганарарам.*

*Радасць цэламу дому:*
*«Вось і канец садому,*
*здырдзіўся алкаголік!*
*Больш не возьмеш ні чаркі,*
*перарэзалі паркі*
*нітку табе, саколік!»*
*Жонка пляскала ў ладкі:*
*«Скончаны лёс вар'яткі,*
*досыць п'янай нірваны!»*
*Сваякі панабеглі:*
*«Хутка згарыць у пекле*
*клоўн праспіртаваны!»*

*Абступілі суседкі,*
*і журналіст з газеткі*
*выступіў вельмі строга:*
*«Хто быў гэты пісака?*
*Жыў жыццё, як сабака,*
*здох — туды і дарога!*

*Хто ніводнай спадніцы*
*не прапускаў ні ў сталіцы,*
*ні ў яе наваколлі?*
*Хто спакушаў нявінных?*
*Хто ні піўных, ні вінных*
*не абмінаў ніколі?*

*Хто, калі йшоў «на каву»,*
*спойваў усю Варшаву?*
*Ён не быў херувімам!*
*А «творчы шлях удалы» —*
*ці не тыя скандалы*
*у кавярнях з Тувімам?*

*Хто ўчыняў нам дэбошы,*
*хто пазычаў у нас грошы*
*для сябрукоў-гарэзаў?*
*Вершы чытаў пра буры,*
*а пасля — у цэнзуры*
*тэксты нашыя рэзаў!*

*Прэч жа ў пекла, падсвінак,*
*ты заслужыў гэткі вынік —*
*алкагольны дзліры́й!*
*Каб жа такія каналы*
*толькі так і каналі...»*
*...Раптам — райскія ліры!*

*Раптам — нябесныя сілы*
*на анёльскія крылы*
*падхапілі блюзнерца*
*і панеслі ў вышыні,*
*у эфірныя сіні*
*нецвярозае сэрца.*

### Мелодыя

*Паказала на смочкі пальцам,*
*што ў пярсцёнку, нібы ў кароне,*
*каб зрабіў іх вершам і вальсам,*
*чыстай музыкаю сутоння.*

*І крануўся, кранаючы клавіш,*
*тваіх рук я, і вуснаў, і веек,*
*услаўляючы ўсё, што не ўславіш*
*без нябесных ліп і жалеек.*

*І спяваў тваё хараство я,*
*і нябёсы маімі сталі —*
*дзеля пальцаў з пахам павою,*
*дзеля веек начной Наталлі.*

### Ноч у Вільні

*Сэрца ные, а ў паветры млосць.*
*На Зарэччы дождж таксама плача.*
*Вецер, нібы хворы тыфам госць,*
*трызніць Вільняй, мокрай і гарачай.*

*У шынку співаецца жандар.*
*У імгле хаваецца фіякр.*
*Самагубцы не хаваюць твар:*
*гэта проста — з моста кінуць якар.*



*На плакатах — крызіс і адчай.*
*Б'юць вазніцу, п'янага ў сасіску.*
*І Вялейка, звадлівы ручай,*
*плача горка, цёмна, па-расійску.*

### Вясёлы мост

*Стаяў ён сціпла над Вялейкай,*
*не ведаючы, што з ім стане...*
*Па ім хадзіў спадар Дамейка*
*і бомамі звінелі сані.*

*На мосце, не заўжды ціхутка,*
*спяваў дзядуля крываносы.*
*Звычайны мост. А побач будка,*
*дзе прадавалі папяросы.*

*А ў тую ноч — званы ўгары,*
*бо ты ішла, а следам — зоры,*
*і ўсе чатыры ліхтары,*
*нібы чатыры мушкецёры.*

*І ўсё запахла — даль і блізь,*
*віном і палыном, і ладанам,*
*і, як Міцкевічу калісь,*
*рамансы пахлі і балады нам.*

*І мост зрабіўся ўвесь пунсовы,*
*блакітны, срэбны, залаты —*
*і так застаўся, вечна новы,*
*як ты.*

### Вільня, Нямецкая вуліца

*Вільня, Нямецкая вуліца:*
*злодзей да злодзея туліцца.*
*Хацеў мандарынкі ў рынку,*
*а прададуць — мандалінку.*
*Скажуць, дэфекты дыкцыі.*
*Не разбярэш без паліцыі.*
*Бо гэтай вуліцай найчасцей*
*хрысціянскіх пужаюць дзяцей.*

*На шыльдзе з футра́ным таварам*
*шчэрыцца тыгр шчарбата.*
*Вар'ят брыдзе з самаварам,*
*у самавары гарбата.*
*Канкурэнт абылгаў, што з клапамі гарбата —*
*не сталі гарбату купляць у вар'ята.*
*На Нямецкай вуліцы ў Вільні*
*роспачы, як у магільні.*

*Бо на Нямецкай, дзе з даўняй пары*
*селяцца скурнікі й кушняры,*
*сёння дзеяцца страшныя сцэны.*
*Шыльды крычаць: «Найлепшыя цэны!»*
*«Зніжкі на футры і паліто!»*
*Ды не купляе — ніхто.*
*«Што прадаваць мем? Аблокі з месяцам?»*
*Госпадзе, лепей павесіцца!*

*Вар'ят з самаварам скача казой.*
*Крызіс крочыць, як смерць з касой,*
*праз Нямецкую вуліцу, дзе*
*роспачы, нібы рыбы ў вадзе.*

*Вільня. Нямецкая вуліца.*
*Найбяднейшыя норы.*
*Хворы Зыскінд сутуліцца*
*ля старэнькай меноры.*

*Страўнік баліць. Дыярэя.*
*Пятніца. Вечарэе.*
*Горкае шчасце яўрэя.*
*Зыскінд падкруціць кнот.*

*Над шыльдай з тыгровай скураю*
*неба навісла хмурае —*
*сем нябёс, як сем нот.*

*Вільня. Нямецкая вуліца.*
*Найлепшы більярд у Шульца.*

### Сон жаўнера

*Плыве зялёная лодка...*
*Так блізка, дастаць рукой,*
*шчасце маё салодкае.*
*Дом. Калыска з дачкой.*

*Будуць на падваконні*
*зноў чырванець герані...*
*Жонка ў акенца гляне,*
*жонка пляснe ў далоні,*

*жонка вылеціць птушкай*
*да мяне на дарогу.*
*Слёзы. Цішэй. Дачушка*
*спіць яшчэ. Дзякуй Богу!*

*— Як матуля? — Здаровая.*
*Да калыскі схілюся.*
*Што было, прамінула.*
*Дзякуй за ўсё, Ісусе!*

*— Хочаш есці? — Не трэба.*
*— Хочаш гарбаты? — Не.*
*Дай на цябе з дачкою*
*паглядзець. Хоць у сне.*

**1939. Напісана ў няволі**

### Божая Маці Палонных

*Лістападаўскі вецер дыхаў цяплом і скрухай,*
*рэхам спаленых стужак, а за калючым дротам —*
*жаліўся лісцю букаў, нібы апошнім нотам...*
*Выйшла з-за букаў да вязня і сказала: Паслухай!*

*Я ўскладаю на галаў рукі табе, а ў далонях*
*міласэрнасць і мужнасць — чалавекам застацца.*
*Я начэй тваіх стома, дзён бясконцая праца,*
*барацьба і малітва — Божая Маці Палонных.*

*Ведаю страх і роспач моцнага і слабога,*
*адзінокія ночы і лісты на дасвецці,*
*нібы кветкі, сплятаю — і ў адзіным букеце*
*ўсё пакладу ля трона Сына майго і Бога.*

*Госпад зірне з нябёсаў і, ўсяму даўшы рады,*
*так памяняе імёны болесцям і патрэбам,*
*што яны ператворацца ў дыяменты й смарагды,*
*і найстрашнейшае гора стане зялёным дрэвам.*

*Я застануся з вамі, да канца з вашым болем,*
*буду цвісці вярбою ўсім, хто гіне ад сцюжы,*
*песняю над адчаем, сонцам над мінным полем,*
*грэючы вашы сэрцы, як замерзлыя ружы.*

*Да сустрэчы. Сыходжу да жанчын і дзяўчатак,*
*аднясу ў іх баракі добрыя сны з навінамі —*
*пра незабітых хлопцаў, пра мужоў, немаўлятак...*
*А памерлых ад ранаў калыхацьму рабінамі.*

**Лагер Альтэнграбаў, лістапад 1944**

* * *

*На могілках — там, дзе не будзе адчаю,*
*ні крыўды, ні слёз у журбе, —*
*ёсць надпіс пра сэрца маё, дарагая:*
*«Білася дзеля цябе...»*

*У кожным порце, на кожным вакзале,*
*у кожнай браме, штодня...*
*А іншае, што б табе тут ні казалі, —*
*хлусня, памятай, хлусня.*

**Пераклаў з польскай Андрэй Хадановіч**

# Лета ў Рандэнэ

Саўлцэрытэ ВІЕСЭ

Саўлцэрытэ Віесэ (2.8.1932–24.9.2004) — празаік, літаратуразнаўца. Пасля заканчэння вучобы ў Латвійскім універсітэце доўгі час працавала ў Музеі гісторыі, літаратуры і мастацтва імя Яніса Райніса.

Гэты твор пераклала з латышскай мовы Ніна Янсанэ. Нарадзілася Ніна, дачка Сцяпана Панізьніка, 21.11.1933 года на хутары Бабышкі. Пасля заканчэння сямігодкі ў м. Лявонпаль Мёрскага раёна Віцебскай вобласці з 1951 г. жыла, вучылася і працавала ў Рызе. З 1998 г. грамадзянка Латвіі. Жыве ў Юрмале.

У апавяданні «Лета ў Рандэнэ» галоўны герой Жаныньш — хатняе імя Яна, будучага народнага паэта Латвіі Яніса Райніса, 150-гадовы юбілей якога адзначаўся 11 верасня гэтага года. З дзяцінства ён ведаў мову і народныя песні латгальскіх беларусаў. У 1921 г. пры яго падтрымцы быў створаны Беларускі аддзел пры Міністэрстве асветы. Абараняў у Сойме інтарэсы беларусаў Латвіі. Садзейнічаў адкрыццю беларускіх гімназій у Даўгаўпілсе і Лудзэ. Мама Жаныньша — Дарта Пліекшанэ з роду Грыкоўскіх. «Па паданні продкі маці з вольнае Літвы баяры», — пісаў Райніс. Пахавана на Стара-Сямёнаўскіх могілках у Віцебску.

Гуды, пра якіх гаворыцца ў аповедзе, — майстры, умельцы. Так на латвійска-літоўскім памежжы называлі даўней і беларусаў.

Удзяцей успамінаў не бывае. Шостая вясна іх жыцця такая ж непасрэдная, як і першая. Памклівая істота нібы з крыніцы зачараванай наталяецца празрыстасцю раніцы, сонечнасцю дня, вечаровай насычанасцю колераў. Навакольны сусвет імкнецца насустрач яму з раскрыленым рукамі. Узірайся і дзівіся! Заглядай і выяўляй! Вунь пад лесвіцай валюхаюцца пісклівыя, пушыстыя кураняты. А з закуцця высоўваюць галовы цяляты з выпачанымі цемнаватымі вачыма. Чаромхавы куст спазаранку ўпрыгожыўся белымі ўквечаным падвескамі.

— І куды імчышся, саколік?

— На раку, на мурог! На лужок-беражок!

Жаныньш з разбегу кульнуўся ў зялёны мурог поймы. Калівы зёлкі-палявіцы ўжо дастаюць яму да носа, шчакочуць ноздры, а пыльца аж у вочы лезе. Хлопчык распачаў даўнюю дзіцячую гульню, у якую гуляюць сябрынай, а можна і аднаму. Заплюснуўшы вочы, хапаюцца за палявіцу і, скруціўшы ў далоньках мяцёлку, запытваюць:

— Пеўнічак ці куранятка?

— Пеўнічак! — Упэўнена гучыць у адказ.

Вось тады адкрываюць вачаняты…

У Жаныньша з пучка мяцёлкі ніводная сцяблінка не агалілася.

— Куранятка… — ацішэла прамаўляе хлопчык і нахіляецца над чарговай палявіцай. Але на ёй бачыць божую кароўку, якая паўзе ўверх па гнуткай сцяблiне. Укленчыў і стаў назіраць за яе рухам. Надта ж танюсенькія ножкі — напэўна іх з дзясятак — акуратна пераступаючы рухаюцца наперад. Вышэй… Яшчэ вышэй і вышэй… Пад казюлькай у палявіцы затрапятала грыўка: узбегла нарэшце босенькая казурка. Павярцелася ў мятлушцы, пагайдалася, развінула шоўкавыя крылцы. Малюсенькія, празрыстыя. І адляцела.

Жаныньш сваімі лапаткамі торгаецца, лежачы на траве дагары носам. Як здорава! Каля самай шчакі, палыхаючы водарам, лагодзяцца дзятлавінкі. Над галавой схіліўся святаяннік. Мацярдушкі звіліся расточкамі і ляноціна хістаюцца пад ветрам. Чуць далей густа пераплёўся суквеццямі цэлы ахапак чабору. Высока над галавой нібыта тыя кроны бярозаў выглядаюць у неба палявіцы і баркуны. Некаторыя вострымі, а некаторыя шырокімі і мяккімі мяцёлкамі. У мяцёлках стаіліся амаль непрыкметныя званочкі кветак. Хлопчык спрабуе захапіць мяцёлку ў жменю і выгледзець, а што ў яе пасярэдку. Нават язычкі ёсць у тых званочкаў, падумаць толькі…

А неба блакітнае, блакітнае. На ўсю глыбіню. Стамляюцца вочы ўзірацца ў гэтую сінечу і бязмежжа. І вось тады з-за палявіцы вынырнула белая галава аблачыны. Павольна яна рухаецца наперад і запаўняе неба. Заслонена сонца. Цёплая засень набягае на ўсю пойму. Аблачына ж не можа вытрываць сонечную спякоту. Яна растае, збываецца, як снег, які занеслі ў вітальню. Сонца зноў вылучае плынь святла на луг і на Жаныньша. Хлопчык уздымае галаву — няўжо аблачына паддалася?

Абняякавела яна. Але наступае нешта больш цёмнае і агромністае. Чорная зашлёпка закрывае шчаку сонца. Прыцемак на прахалоднай мураве гусцее. У кветках нікне зыркота. Шугануў халодны выдых вятрыска. Палявіцы, прыгінаючыся, засланяюць лежачок Жаныньша. Хлопчык у здзіўленні пазнае, што ў кожнага воблака — свой цень. Раней ён гэтага не заўважаў.

Жаныньш абхапіў сцяблiны палявіц і звязаў іх над сабой. Ого, ён ляжыць цяпер нібыта ў шалашы ці гроце. Зноў прарэзалася сонца. Праз рабрыстую ім створаную стрэшку промні перасылаюць сотні зыркіх зайчыкаў. Кожная зёлачка, кажнае суквецце вылучаюць свой колер і водар.

Каля самага Жаныньша зямлю ўзрушыў крот. З горбіка высунулася чорная пысачка і, адчуўшы небяспеку, зараз жа знікае. Загудзеў чмель. Ці не за кратовым горбікам прыхаваная яго вуза з мёдам. Але Жаныньш не варушыцца і не шукае. Па голым прадплеччы сноўдаецца руды мураш. Жаныньш не скідвае яго долу. Ён ніякавее ад незвычайнага сонца, якое ўсутыч з Рандэнскім домам, людзьмі і іх працай наталяецца сваёй самавітасцю ў бясконцым побыце.

Жыццё не агромністае, і ўсё ж насычанае і бязмежнае. Ціхуткае, але напоўненае гулам, жужуканнем, шчабятаннем. Супакойнае, і ўсё ж несупынна-бурлівае, ахвочае, мітуслівае.

Калісьці мама распавядала Жаныньшу казку пра малойчыка, які ў пушчы некаторы час наталяўся песнямі птушак, назіраў за буяннем кветак. І вось калі павярнуўся дадому, сам малойца анікога не пазнаў, і яго таксама ніхто не прызнаў, не ўзгадаў. Толькі дзядулі распавядалі пазней пра тое, што калісьці, даўным-даўно адправіўся ў пушчу маладзён і адтуль ужо ніколі не вярнуўся.

Хлопчык не мог зразумець, чаму якраз цяпер узгадалася яму тая маміна казка. Ён аж уздрыгнуў, нібы апрытомнены. А як доўга яму давялося праляжаць на гэтай пойме?

— І дзе гэта мой кудзель лёну прытаіўся? — кліча мама, шукаючы Жаныньша.

— Я тут, я тут! — азываецца ён, уздымаючы галаву над кветкамі. Не, ён не праляжаў сто гадоў. Мама вунь спынілася пасярод сцяжыны, і яна ніколькі не пастарэла. Дом выглядае такім самым, як і раней. І ўсё ж ён быў дзесьці далёка-далёка, адсутнічаў доўга-доўга.

Жаныньша ўздымае хваля радасці. Знянацку нешта прабубнеўшы, ён падлятае да мамы і як растапыр верціцца каля яе.

—Што з табой? — здзіўляецца мама.

—Жыў у траве-мураве! — прамаўляе Жаныньш, і яму ўяўляецца, што яго ўсе разумеюць.

Часта сцяжынка Жаныньша кіруецца ў бок Даўгавы. У яе рэчышча былі ўплецены ўсе патугі гаспадаркі: на Даўгаву ранічкою бегалі вочы прамыць, а вечарам пот сцерці. У Даўгаве замочвалі для карыстання кублы і цэбры, паласкалі бялізну. У Даўгаве расстаўлялі сеткі, нераты, бучы. Па асаблівасцях плыні Даўгавы (вясной па ўзроўні вады) вызначалі пачатак сяўбы, прадказвалі засушлівае або мокрае лета. Паданні і небыліцы вандравалі каля ракі. Калыхаліся ў імгле душы спачылых. Часам з віроў паказвалася выява Вадзяніцы — і тады ёй, каб задобрыць, кідалі кветкі.

У плыні ракі ні на хвіліну не заціхаў плёскат жыцця. Пасля ўсполу, як толькі ападала паводка, паказваліся цугі плытоў і стругаў. Залоўленыя быстраком, яны праносіліся, нібыта стрэлы. Паветра напаўнялася галасамі стырнавых:

— На-пра-ва! На-ле-ва! Ра-зам!

У непарыўнай звязцы плыты-ганкі слізгацелі па плыні ракі. Ого як ахвотна Жаныньш разам з плытагонамі адправіўся б у далёкі шлях! Накірунак быў добра знаёмы з расповядаў таткі. Побач Яблычнага вострава. Каля сасняковых крэслаў-парогаў. Міма Крыжовай затокі, куды не перакціўшыся і ўтыкнуцца нельга. Пад вечна слязлівым Стабурагам і сярдзітым Кегумскім вадаспадам — у Рыгу. Рызе патрэбны былі лес, лён, зерне, бульба. З Рыгі везлі цукровыя бублікі, найноўшыя плугі, шоўкавыя хусткі, чысленнікі-каляндары. І розныя чуткі-плёткі пра Рыжскае паньства, пра дарожныя прыгоды — такія забаўныя, што, заслухаўшыся тату, часам забываўся і пра надкусаны пернік у руцэ.

Плытагоны ўяўляліся Жаныньшу самымі шчаслівымі людзьмі на свеце. Цэлымі днямі яны гойдаліся ў зірку плыні. Ніхто не бачыў, ці мокрыя ў іх ногі. Ніхто не прыклікаў іх раней часу дадому. Нібыта запевак песні гучаў кліч:

— На-пра-ва! Га-ні!

З паніжэннем узроўню вады прыціхае разгон плытоў. Вечарам на беразе ўспыхвае агеньчык плытагона. Калі аснасчы спыняліся на начлег непадалёку ад Рандэнэ, да іх прытуляўся гуд Нядзвецкі.

Нядзвецкі быў дзядзькам незвычайным. Спакойны і задумлівы. Знаўцы мовілі, што на радзімнай старонцы пан выкраў яго жонку, пакінутыя дзеці памерлі з голаду. У гаспадзе Нядзвецкі амаль што не з'яўляўся. Трэба было ці не трэба, ён заўсёды апекаваўся коньмі. Чорны жарабок — гонар Пліекшанаў — ахвоціўся ўслед за гудам з ціхім іржаннем, размахваючы пышным хвастом. Белая кабылка, калі пасвілася, асцярожна ўскладвала галаву на плячо дзядзькі і мяккімі губамі хапалася за яго шчокі. Нядзвецкі начамі часцяком спаў у канюшні, раскінуўшы рэзгіны саломы.

А тут, злавіўшы між плытагонаў беларускае маўленне, супакойны чалавек памкнуўся да людзей, як хмель за шастом. Высокі, але чуць сутулены яго карак выглядаў яшчэ больш угарбеўшым, калі ён абыходзіў вогнішча, нібыта некага вышукваючы. Жаныньш пільнаваўся за ім. Мужчыны спакойна сядзелі вакол цяпельцаў. На асмужаныя абліччы полымя накідвала бронзава-чырвоныя пасмы. Нядзвецкі з прысутнымі зачынаў гаворку на мове гудаў. Па тварах прабягаў зыркі водбліск полымя. Круг седакоў рассоўваецца, даючы месца Нядзвецкаму, а Жаныньшу — прытулак ля вогнішча. Паволі, нібы перакладаючы цяжкое каменне, гуд пачынае гутарку са сваімі суайчыннікамі. Гэтак жа паволі, нібы перакладаючы цяжкое каменне, адказвалі яму мужыкі. Між гаворкі час ад часу наступала цішыня, і тады можна было чуць, як у прыбярэжным кустоўі сваю песню ладзіў салавей. Час ад часу Нядзвецкі тлумачыў Жаныньшу, пра што ідзе бяседа:

— Там, у вярхоўі ракі, зараз вялікае няшчасце. Было сухое лета. Так, горка цяпер, хлопча, у нашай старонцы…

Аснач выбірае з торбачкі чорную, зачарсцвелую буханку хлеба. Паважна разразае яе на аднолькавыя ссохлыя скібачкі. Нядзвецкі узяў адну з іх пакаштаваць, пакруціў галавой і перадаў акрайчык хлопчыку:

— Хлеб бедных людзей…

Мякінны ломцік — горкі, як альховая кара — ці не захрас у горле Жаныньша. Хацелася яго выплюнуць, але ж было сорамна — плытагоны скібачкі пасыпалі соллю, не даючы і крошцы ўпасці.

Нядзвецкі ўскочыў і памкнуўся дадому. Вярнуўся ён з кошыкам бульбы і вялізнай квартай сыраваткі. Мужыкі падбадзёрыліся, сталі грамчэй гаварыць, бульбу засыпалі вуголлем. Калі яна спяклася, аснасчы асцярожна здзьмухвалі з кожнай бульбіны попел і елі не аблупленую, папіваючы з кварты, ласкава пагледваючы на Нядзвецкага і Жаныньша.

Села сонца. Вада пасярэдку ракі яшчэ паблісквала светлай сінечай, але каля самага берага цені былі колеру дзёгця. На тоўстых хвалях пакалыхваліся зеленаватыя і ружовыя водбліскі вячэрняй зары. Пах чаромхі стаў мацнейшым, голас салаўя грамчэйшым. Дзядзька гуд развязаў у кайстры шнурок і дастаў невялікі скураны мех з трубкамі на канцах. Мужыкі праз сапель пачалі ўдзімаць у пузыр паветра, аж пакуль ён не прыняў патрэбны памер. Тады дзядзька прыткнуў мех пад паху і губамі сашчаміў жалейку. Загучала жаласлівая мелодыя, якую суправаджалі рознымі перагудамі астатнія трубкі-гукі.

— Гэта мая дуда, — прашаптаў Нядзвецкі.

Слухачы застылі, як тыя камяні на беразе ракі. Мелодыя віласа, узвышалася вышэй і вышэй, устрапянулася і раптам асеклася, нібыта ў задыху. Малады аснач з высмаленымі сонцам валасамі заспяваў нізкім, шырокім голасам. Жаныньш сам пераўтварыўся ў слых. Больш дагадваўся, чым разумеў, пра што распявае песня. А голас напачатку гучаў нібыта праз стогн, потым больш імклівa, але маркотна:

*Былі ў бацькі тры сыны,*
*І ўсе яны Васілі.*
*Адзін коні пасець,*
*Другі лапці пляцець.*

З прырэчных лугоў уздымаўся белы, густы туман. Салавей прыціх. Ад чаромхі пайшоў яшчэ гарчэйшы пах. А песня ляцела над вадой і туманам, адзінокая і павольная, нібыта птушка з прытомленымі крыламі.

*Трэці сядзіць на камені,*
*Дзяржыць дуду на рамені.*
*Ой ты, дудка мая,*
*Весялушка мая…*

Пасівела вуголле спарахнелага вогнішча. Мама гукала Жаныньша дадому. Падняўшыся, яны абое з Нядзвецкім паволі тупалі ўсё далей ад берага. Плытагоны, паслаўшы на мурог свае транты, клаліся спаць.

— А чаму яны ўсе Васількі?— развітваючыся з гудам, спытаў Жаныньш.

— Бедныя людзі. У бедных людзей нават імёнаў мала. Бацька Васіль, сыны Васілі, дачка Васіліна…

У Жаныньша сціснулася сэрца. Нібыта цяжар зямлі лёг на грудзі. А гуд усё тлумачыў і тлумачыў:

— Усё падмінае пад сябе пан-баярын. Ураджай забірае, скаціну. Дзяўчат чужых валачэ. Ох, давядуць аснасчы свае плыты да Рыгі, баярын зноў падмане. Добра, калі хоць палову зарobку выдасць. Корчмы на кожным скрыжаванні, зноў не без баярына пастаўлены. Пакуль які-небудзь стырнавы трапіць дадому — кішэні пустыя.

Выпрастаўшыся ў ложку, Жаныньш доўга ўглядаўся ў цемень. У радасную прастору сусвету нехта расхінуў непрыкрытыя дзверы. Насустрач нібыта з-пад скляпенняў навальвалася гушчэча прахалоды.

Зранку Жаныньш прыбег на лугавіну ракі. Але каля прыберага ўжо нікога не было. Сонца гарцавала над зыркай чысцінёй ракі.

— На-пра-ва! Пра-ма! — раздаваліся каманды стырнавых, гулкія, нібыта са званіцы. Кукавала зязюля. Ёй на супрацьлеглым беразе азывалася другая. Як быццам зусім не было вечара, азоранага, упоўніцу налітага шчымлівай песняй. Як і таго расповеду пра Васількоў з радзімы гудаў. Толькі вось на месцы агнішча чарнеў ад галавешак прыбярэжны пясок.

**Пераклад з латышскай мовы Ніны Янсанэ**
**Падрыхтаваў Сяргей Панізьнік, кавалер ордэна Трох Зорак Латвійскай Рэспублікі**

# Зорная ноч



Марыя БЯЛЬКОВІЧ

Нарадзілася ў 1991 годзе ў Мінску. Скончыла Ліцэй БДУ, Гуманітарны факультэт БДУ і ФППК МДЛУ па спецыяльнасці перакладчык-рэферэнт. Акторка аматарскага тэатру. Грамадская актывістка.



### Калі ты, нарэшце, запомніш

Апятай раніцы — і грукат маіх абцасаў разбурае цішыню плошчы. Варта ісці дадому, але не адпускае ірацыянальная неабходнасць знайсці гэты канкрэтны будынак і канкрэтна цяпер. Да таго ж, ты — горад світання, з табой прахалода. Цяпер увесь шэра-блакітны — гэта твой колер. Другі — барвова-чырвоны.

Я абыходжу плошчу і збочваю на адну з вуліц — твае вуліцы водзяць коламі — дзе заўважаю групу мясцовых хлопцаў, якіх ужо бачыла сёння.

Шэра-блакітны перамешваецца з попельным золакам, адбіваецца ад шкла тваіх будынкаў.

Я адчуваю сябе вельмі смелай…

За будынкам вакзала амаль адразу пачынаецца сумна вядомы раён «Москачка».

Я не распальваю, але камунікацыя з раёнам наладжана дрэнна: людзі туды не ходзяць, і адтуль — не асабліва. Гэтая твая, горад, частка з рускім паходжаннем для мяне самая таямнічая.

Напэўна, я пераканаўча прашу, бо мы ўсё ж моўчкі едзем туды — пад гул матацыкла не паразмаўляеш — і моўчкі ходзім па веласіпедна-пешаходнай, бяспечнай прырэчнай мяжы. Моўчкі сядаем, і ты пачынаеш распавядаць — трошкі пра паходжанні, але, з большага, усё ж пра воды, якія яднаюць свет, — гледзячы перад сабой на халодную блакітную роўнядзь.

А я гляджу ўбок, на выспы спальнага раёна — і бачу Серабранку.

…Больш за тысячу кіламетраў. А вось там наш порт. Увогуле, Даўгава… — Дзвіна. — Даўгава! Неверагодна шырокая. — Ты ад самай гэтай кропкі можаш даплыць да мяне. Ну, амаль што, яшчэ якіх 300 км па сушы… — Маракі па сушы не ходзяць!

Я ўедліва дыхаю вільгаццю твайго паветра, табе вельмі пашанцавала дзяліць сваю жыццёвую прастору з вадой, мецъ яе ў тваіх шэра-блакітных венах, у тваіх шэра-блакітных вачах. Мне паўсюдна бачацца плыні, і я думаю пра лёс і лёсаванне, а потым пра тое, што, калі б я малявала сістэму жыццёвых каардынат, ты са сваёй тысячагадовай гісторыяй быў бы воссю часу, ты са сваім марацкім «кругаглядам» — воссю прасторы, а мяне не было б нідзе.

Ты не магла б абняць мяне, калі ласка? — Абняць цябе?.. — Абняць мяне. Калі ласка. — … — Дзякуй. Што цябе здзіўляе? Сама ведаеш, мне гэта трэба, каб не страціць самаадчуванне ў гэтым свеце. — … — Ды што?! — У мяне засталося трохі экзістэнцыйнага марозіва, хочаш?

Я працягваю руку, каб закрыць палаючае сонца, і вяртаюся да размовы на брайлі з тваімі пальцамі і тваім горадам. Такія явы, як вы, такія явы, як ты, знішчаюць здольнасць ясна мысліць і апальваюць спёкай — толькі вылезі з-за камянёў. Яны зноўку гарачыя, усё гарачае — настолькі, што шкляныя кавалкі майго атачэння трымцяць, як рачныя хвалі. А ты пакідаеш за сабой права мець схованкі, што ўзніклі па асабістых дамовах з тутэйшым паветрам — толькі халодным і толькі ў цені.

А гэта… — Ведаю, «Тры Браты». — Ім больш за палову тысячагоддзя. Як ты там казала? Класічны прыклад ушчыльнення гарадской забудовы. — Я з'язджаю паслязаўтра. — … а там ёсць «Тры Сястры».

Я іду па вялікім, амаль хайтэкавым мосце глыбокай ноччу, валіць дождж, а вецер пырскае ў твар, быццам слінай.

Калі людзі зусім апантана крычаць, яны мімаволі плююць на цябе.

Як і ў дажджлівых мастах, у гэтым няма нічога асабліва рамантычнага…

Уся прыгажосць гэтага горада і таго, што ў ім, — за шклом майго вакна.

Я адчуваю яго на кончыках пальцаў, я магу дакрануцца да дахаў гэтых дамоў і адчуць яшчэ не састылую спёку чарапіц і смяротны холад камянёў усіх старых будынкаў.

Я магу адчуць кожны градус з 36 і шасці твайго цела, усю тваю састылую спёку і ўвесь твой холад.

Я бачу ўсе гэтыя вулачкі, так я магу бачыць іх праз экран свайго кампутара ці праз свае ж стомленыя вочы і аб'ектыў фотакамеры.

Я бачу цябе так, як гэта паказваюць у фільмах — пакат плячэй, матацыклетную куртку, замок, які ты будзеш торгаць туды-сюды, і ўсмешку.

Калі ты прыйдзеш, я не дакрануся да цябе, калі ты прыйдзеш, я зацалую цябе да паўсмерці.

Калі ты прыйдзеш, ты застанешся на маіх кончыках пальцаў, і ніякія чарапіцы не зменяць гэтага.

Паміж мной і гэтым горадам — шкло, паміж мной і табой — толькі маё ўяўленне, а яно, здаецца, самае значнае, інакш як кожная дэталь гэтага зашклёнага свету магла скласціся ў аднаго нешклянога цябе?

Ну што, сядай. — Давай заедзем на цэнтральны рынак? — Толькі калі ты, нарэшце, запомніш, што гэта ангары для дырыжабляў?

### Зорная ноч

Цёмны, брудны вецер. Я на скрыжаванні — справа, у вулічным абкуродымленым святле цьмяна відаць рагатку вуліц, злева не відаць нічога. Справа можна разгледзець дамы паабапал дарогі, паабапал бардзюраў, паабапал бетонных слупкоў, што абмяжоўваюць бардзюр. Цьмяныя цагляныя дамы з застылымі вачыма-вокнамі. Я ніколі не заўважаў іх раней, я ніколі не адчуваў сябе на скрыжаванні, а мне нават жудасна нармальна агледзецца — агледзецца з усіх бакоў.

Я тут не так даўно, магчыма, ты проста спазняешся. І, хаця ты ніколі не спазняўся раней, я пачакаю.

Вецер гуляе з ценямі і ўласным смеццем, б'ецца, бяззуба абсмоктвае ўсё, што яшчэ не раскідаў. Святло віруе, падстаўляе сябе ветру, і я бачу раптам, як яно выпрасталася, выраўнялася і раптам зараўло: дзесьці ў аддаленні машына (я ўжо магу разгледзець два белыя бязлітасныя вокі). Яны набліжаюцца, пакрысе прабіваючыся скрозь пыльную цьмянасць, запаўняюць сабой вуліцу, праглынаюць дамы, бардзюры і бетонныя слупкі. Яны хочуць праглынуць і мяне, я наступны. Такое белае, яркае святло, непазбежна яркае — так свецяць ліхтары ў шпіталі, калі ўсё, што ты бачыш, — ліхтары, а тулава — прыкаванае, галасы — у аддаленні, але таксама непазбежныя. Не такія, аднак, як святло. Яно бяздушнае, абсалютнае. Халоднае, апякаючае холадам святло.

Зусім непадобнае да таго, што дорыш мне ты. Ты прыносіш з сабой асалоду, падобную да той, якую адчуваеш, запусціўшы замерзлыя рукі ў гарачую ваду — боль, змяшаны з чыстым кайфам. Мой балючы, гарачы, светлы чалавек. Я спрабую адчуць цябе зараз — і ў венах пячэ. Сэрца надзьмулася і цісне лёгкія, лёгка… лёгкага паветра не стае, я напаўняюся плаўленым металам, ногі мае дранцвеюць. Я чую, што задушыўшы ўскрык на самым яго пачатку, можна развітацца з гравітацыяй. На хвіліну расплавіцца, растаць у тым, хто ў табе яго прыдушыць. Так, як ты робіш гэта са мною. Так, як спрабуе прыдушыць мяне гэтае бязлітаснае святло. Калі б толькі дачакацца…

Машына праехала, а я ўсё стаю тут і прадзіраюся праз апёкі на рагавіцы — у цемру. Яе чарнільная матавасць падаецца ледзьве не выратавальнай. Магчыма, цяпер можна зірнуць улева?

Але ўвагу маю адцягваюць дробныя рухі. З пад'езда выбягае кот, амаль незаўважны. З усіх закуткоў за ім цягнуцца іншыя — лянотна, павольна, так што мне ажно зводзіць зубы. Некаторыя пачынаюць нізка падвываць — папярэджваць. Трывожны, нізкі рык. Каты кідаюцца, б'юцца, па-вар'яцку згрызаючыся адзін з адным, выючы — зусім, зусім як людзі. Святло больш не палохае: я спадзяюся на яго, на ўцёкі ад гэтага наслання гукаў, мітусні маленькіх рэзкіх жывёлаў, што ўгрызаюцца, драпаюцца, кідаюцца і равуць, равуць, равуць…

І тады толькі я заўважаю Цень.

Ён расце амаль насупраць. Амаль насустрач. Расце з-за бетоннага слупка і рухаецца гэтак жа павольна, крадучыся, падступаючы… Звярыны цень, ён паказвае зубы, іклы — драпежныя — нізка, дрыготка рычыць. Я магу разгледзець гэтыя іклы: яны няроўныя, я скурай адчуваю іх смурод і бачу, як на іх збіраецца вар'яцкая сліна, павольна, крадучыся, сцякае па іклах, фармуецца ў тлустую, вязкую кроплю, што вісіць, хістаецца… трутная сліна капае на брукаванку, і цішыня ўзрываецца істэрычным звонам, які рве мой слых і мае нервы. П'янага мужчыну ледзь не збіла чарговая машына: кіроўца спыніўся ў самы апошні момант, з жарсцю бразнуўшы па клаксону, аднак няшчаснага п'яніцу ўсё роўна штурхнула ўбок — цяпер ён падымаецца, жудасна лаючыся, на што ў адказ атрымоўвае яшчэ адзін працяглы-працяглы віск, для мяне падобны да ляманту баньшы.

Я заплюшчваю вочы і спрабую супакоіцца — такі віск павінен быў спудзіць драпежны цень. Такі віск каго заўгодна павінен быў спудзіць. Трэба прымусіць сябе адкрыць вочы — я толькі заплюшчваю іх мацней. Трэба паглядзець туды, праверыць — так, я зусім безабаронны. Калі ён усё яшчэ там, то павінен быў ужо выйсці на дарогу. Я чую і не чую ягоны поступ…

Ад удару капялюш падае, а я расплюшчваю вочы — мой атакоўца трымаецца за плячо і вые ад болю. Амаль па-жывёльнаму, але гэта не мой цень — усяго толькі паранены п'янчуга. Ён скручваецца і падае на калені — смярдзючая лужына (аказваецца, пада мною лужына) разлятаецца вакол яго, кроплі трапляюць на мае нагавіцы, але я не варушуся. Мужчына, падвываючы, паўзе ўлева. Улева ад мяне. І ўсё зноўку сціхае.

Я азіраюся: няма ні ценю, ні холаду, ні святла, ні цябе. Хаця ты ніколі не прымушаў так чакаць. Альбо я не звяртаў увагі. Але ў тыя секунды, калі адсутнасць твая была заўважная, я дранцвеў, я памятаю. Халодны пот — ліпкая, клейкая вільгаць, што нараджаецца пад шыяй і павольна сцякае. Аднойчы мне сказалі: «Балюча не будзе — будзе непрыемна». Змрок і атрутная, салодкая прахалода паступова мяне акурваюць…

Я спрабую скінуць з сябе насланнё золкага трызнення і разглядзець што-небудзь там, дзе святло яшчэ пэцкае муры і вокны. Далей, глыбей, угледаюся паміж дамамі. Чырвоныя, цёмна-чырвоныя муры, пустыя чорныя вокны, далей. Далей — цёмна-брудныя муры, брудна-цёмныя вокны, глыбей. Глыбей — цемра.

Непразрыстая, пустая. Абсалютная. Я больш не бачу ні ценяў, ні святла, ні гукаў. Не бачу цеплыні і холаду. Цемра вязкая, як зыбучы пясок. Мяккая — як мякаць губкі, што, закінутая, гніе ў вільготным куце. Убірае ў сябе, без разбору, без літасці.

Я спрабую варухнуцца, дрыгануцца — вырвацца. Узгадаць штосьці, што трымала мяне. Закрычаць, знайсці свае рукі, знайсці твае рукі — прыдушыць сябе. І не знаходжу. Я раблюся губкай, мякішам, я гнію, але больш нічога не адчуваю: ні ліпкасці, ні холаду. На нейкім ускрайку сваёй свядомасці, што адыходзіць у лімба, я паспяваю зразумець, чаго так баяўся — не дачакацца і стаць цемрай. Быць цемрай. Гэтыя пякельныя крыкі і лямант, атрутная вар'яцкая сліна, бязлітасны абсалют — без цябе — я частка іх, а яны — частка мяне. Ніколі не сысці адсюль — мая жудасць.

Я ніколі адсюль не сыйду.

***

Стары ліхтаршчык прачнуўся, калі золак пачаў расплывацца вязкім туманам. Сівое святло прабівалася праз мутныя вокны і вымалёўвала контуры пакоя, якія пахлі вільгаццю і цвіллю. Ліхтаршчык сабраў нешматлікія прылады і выправіўся на галоўную пешаходную вуліцу, што асвятлялася газавымі ліхтарамі. Хутка зусім развіднее, дарэмна толькі марнаваць газу.

Ён паступова крочыў ад аднаго да другога — ліхтар за ліхтаром — пакуль не дайшоў да апошняга. Той стаяў на перакрыжаванні і асвятляў дзве вуліцы, што рагаткай выходзілі на ўзбярэжжа масляністай глейкай ракі. Звычайна асвятляў, аднак цяпер стаяў патухлы, металічная накрыўка валялася побач. Ліхтаршчык прыставіў лесвіцу і прыглядзеўся: з левага боку ветрам разбіла шкло, якое разанула кнот — залішне каротка, давядзецца замяняць гарэлку. Стары асцярожна выкляў аскепкі, дастаў прыладу і завярнуў у брудную карычневую анучу. Ануча пахла так, быццам сваім смуродам магла парэзаць. Асцярожна трымаючы гарэлку, ліхтаршчык рушыў да бліжэйшай сметніцы.

# Адзін дзень у Менску



Ала ПЕТРУШКЕВІЧ

**А больш і не трэба: аднаго дня цалкам дастаткова, каб зрабіць тое, дзеля чаго з'явілася, каб нікому не надакучыць, каб у недарэчна вялікім як для Беларусі горадзе засумаваць па сваім, што стаўся не проста месцам сталага жыцця, а праўдзівым каханнем, без якога тое жыццё — не жыццё.**

Але — Мінск. Цягнік прыходзіць ранкам. Рэчы аднаго дня здадзены на захаванне, бо кабета можа мець у руках толькі маленькую тарэпку, каб кабетаю пачувацца. Метро. Заўсёды любіла мінскае метро. Памятаю першую паездку, праўдзівую экскурсію, якую наладзіў для мяне мой дзядзька, што амаль усё жыццё пражыў у гэтым горадзе і любіў яго ўсім сэрцам. На ягоных вачох горад рос, будаваўся.

У метро мы выходзілі на кожнай станцыі, і мой мілы, мой незвычайна прыгожы дзядзька расказваў мне ўсё, што ведаў сам, паказваў, якія прыгожа яны аздоблены. А пасля мы вярнуліся з канечнае станцыі на першую не выходзячы, а ён імкнуўся перадаць мне сваё здзіўленне і захапленне: «Ты падумай толькі: за нейкія 12 (лічбу не памятаю, дрэнна ў мяне з лічбамі) хвілінаў мы праляцім праз увесь праспект!»

З тае першае паездкі люблю мінскае метро.

Ці можна тут, у людскім ранішнім тлуме, кагосьці сустрэць? Калі дзень пачынаецца шчасліва, можна. І не проста кагосьці, а людзей, якіх ведаеш вельмі блізка, бо амаль кожны дзень іх сустракаеш. У той жа вагон, у тыя ж дзверы крыху раней яны якраз і зайшлі. Маладая паэтка. І не толькі паэтка, колькі ў яе іпастасяў — не злічыць: тэлевядучая, выкладчыца, перакладчыца (няўжо не перакладае?), падарожніца (і цяпер з вялізнай валізай). Дзеўка-паэт-неба — лепей не скажаш! І хто гэта так прыдумаў? Добра прыдумаў. А вось «свецкая львіца», як «НН» напісала пра яе, зусім недарэчна. Не пра нашых прыгожых кабетаў такое... Не таму, што не львіцы. І не таму, што не свецкія. А таму, што штамп гэты проста непрыгожы. Таму, што штамп. А яна яшчэ і гатавіць геніяльна ўмее. І чорным па белым намаляваць, а мо і наадварот. А калі бывае дрэнна, з'едзе ў Парыж, прыручыць яго і... купіць там сукенку. А пасля і таго, хто стане самым-самым, прыручыць...

Але галоўнае, яна — асоба, скіраваная на пазітыў. Карацей, сустрэць такую ў пачатку дня — замовіць дзень на шчаслівыя сустрэчы да ягонага канца.

Не адна яна была ў тым вагоне. З тым, хто яе радзіна. Праз самага роднага, праз самага каханага. Хто таксама Парыж ведае. Ды так глыбока, што даўно стомлены тым Парыжам. Але ніколі не стомлены родным Давыд-Гарадком. Аўтар шырока вядомае «Полькі беларускае», якую напісаў у падарунак маме да яе нараджэння, бо мама вельмі той танец любіла. На жаль, мала вядомыя сёння ягоныя іншыя вершы, што спяваюцца, як і тыя, што не спяваюцца. Да болю мала, як усё сапраўднае, беларускае.

Размова ні пра што. Але галоўнае: рада Вас бачыць. І спадзяюся, тое ўзаемна. І — да сустрэчаў!

З тым і выйшла на сваёй станцыі.

Мая — тая, якая была маёю тры гады. Тры гады аспіранцкага жыцця, што праляцелі як адно імгненне. Станцыя, пра якую мой дзядзька сказаў калісьці: «А тут акадэмікі, таму і змрачнавата». Гэта проста ў параўнанні з іншымі ў першае лініі, дзе пераважаюць вясёлыя колеры і матывы. Не было мне тут змрочна ніколі. І сёння тым болей.

І ніякага дажджу! Як добра, што сіноптыкі часам памыляюцца.

Мае вочы, што не бачаць далёка, кветкі не згледзець не могуць. Канваліі. Ніколі не праходжу паўз гэты сціплы цуд. Пані з канваліямі. Не пані з камеліямі.

Навуковая імпрэза, форум — успрымаю такія падзеі як свята жыцця. І таму, што імкнуся пачуць шаноўных калегаў, якім ёсць што сказаць. І таму, што незвычайнаю энергетыкай поўніцца такое месца, дзе столькі Асобаў. У адным часе, у адной прасторы. Сёння тут навукоўцы з многіх краінаў. Не буду пералічваць: інфармацыі ў нэце даволі. Згадаю толькі тых, каго ведаю даўно. З кім хоць словам перамовілася. Прафесара з Лондана, вялікага сябра беларускае літаратуры, чалавека невысокага росту, ды высокага палёту. Таго, хто ў сваёй велізарнай кнізе назваў нашу літаратуру «Пісьменства ў халодным клімаце». І правільна. Бо клімат наш ніколі не быў спрыяльным для тых, хто слову служыць. Але не баіцца яго, гэтага клімату неспрыяльнага, прыгожая пані з Нямеччыны, з Альдэнбургскага ўніверсітэта, якая часта бывае ў нашай краіне, а мова яе беларуская вельмі мілая, крыху рафінаваная. Сустракаліся з ёю неаднойчы ў Гомелі. Яе даклад быў самым цікавым на пленарным паседжанні.

Даўно ўжо не ходзіць па Гародні паэт, літаратуразнаўца, мой даўні калега і сусед у часе нашага пралетарскага перыяду. З'ехаў у Мінск. Заўсёды рада яго бачыць. Падышоў да нас адзін са старэйшых літаратуразнаўцаў, знаны фалькларыст, мастацтвазнаўца. Чытала ягоныя артыкулы-ўспаміны ў «НЧ». З тых, на каго гляджу знізу ўверх. Мой гарадзенскі знаёмы вырашыў нас пазнаёміць, на што паспрабавала запратэставаць: «Маё імя нічога не скажа шаноўнаму...» А той у адказ: «Кажа. Шмат чаго Вашага чытаў». Так, нашы аксакалы з тых, хто чытае не толькі сябе. Гэта маладзейшыя на тэксты іншых часу не маюць.

Пазнаёмілася з тым, каго добра ведаю, бо дзе толькі не сустракаю ягоныя тэксты: і ў «Дзеяслове», і ў «Верасні»; і ў «ЛБ». «Уладзевы гісторыі» ніколі не прамінула.

Думала, што адна тут з Гародні. Аказалася, не. Два гісторыкі, два дактары навук. Адзін з'явіўся сюды ажно з Далёкага Усходу, але і мову нашую вывучыў, і гісторыкам нашым, беларускім, стаў. Другі з тых, хто ў першых шэрагах з ГрДУ мусіў сысці.

Але вось усміхаецца мне мой знаёмы, літаратуразнаўца, што хіба палову ўсяе працы свае аддае аднаму Караткевічу. Калі б былі ў мяне сябры рэальныя, яго б адным з першых назвала.

Не пра ўсё скажу. І не таму, што ніякі фармат не вытрымае. Не буду ж казаць, што першы выступ рыторыкаю сваёю хацеў перанесці аўдыторыю ў мінулае. Немагчыма гэта. Як не скажу, што зала — змрочная, няўтульная, крэслы старыя, многія паламаныя, паўпустая (буду сёння аптымісткаю — напалову поўная). Што фінансаванне такога форуму — як фінансаванне ўсіх даследаванняў гуманітарных.

Абед. Выходзячы з залы, сустрэлася з даўняю знаёмай, яшчэ з часоў «Першацвета», перамовіліся прыязна пра ягонага заснавальніка, апекуна літаратурнае моладзі. Згадала яе артыкул аб прысвячэнні Багдановічавага верша «Глянь, як зорка у цемні ляцідь...» Гэта яна дакапалася ўрэшце, што першапачаткова твор быў прысвечаны Надсану.

Канваліі перадаць вырашыла прыгожай жанчыне, маёй зямлячцы з Гарадзеншчыны, з якою не сустрэлася гэтым разам, але якую заўсёды сустракаю з прыемнасцю.

І дзе ў той абед падзецца? Ажно дзве гадзіны. Усе разбегліся. Гэта Мінск. Згадваецца ў такім выпадку жарт мае слаўнае каляжанкі з Мазыра, колішняй загадчыцы кафедры беларускай літаратуры, якая навучала сваіх супрацоўнікаў, калі канферэнцыі ладзіла: «Людзей трэба прыняць. Гэта вам не Мінск». Не пра мяне асабіста йдзецца. Наогул. Пра таго ж прафесара з Лондана, што запыняў усіх запар, дапытваючыся, як да пошты дайсці, бо нейкую пільную справу меў.

Але той дзень быў запраграмаваным на шчасце. Калі ўжо не ведала, куды сябе падзець, падбегла да мяне невысокая дзяўчынка: «Я Ваша студэнтка!» Так, гэта тая незвычайная выдатніца, што вывучыла калісьці на памяць «Страцім-лебедзь». Сёння ўжо доктарскую піша. А побач з ёю яшчэ адна невядомая дагэтуль ужывую фэйсбукаўка, што пяць гадоў у Кіеве адпрацавала. Аднаіменніцы.

З імі і правяла абед, які праляцеў так хутка, што на тэматычныя блокі спазніліся. Зусім крыху. Тым больш не на свае, нашы пазней пачыналіся. Міла паправеНАДЗІлі мы па Батанічным садзе, дзе не была некалькі гадоў. І дзе бывала вельмі часта ў свой шчаслівы аспіранцкі перыяд.

Час квітнення бэзу. Хто не быў у Батанічным у гэтым часе, схадзеце: ад красы такое вачэй не адвесці, водарам тым не надыхацца.

Столькі ў нас пра бэз напісана, але найлепей у аўтаркі «Сармацкага альбому»:

*Бэз каляровы, ліловыя*
*вогнішчы бэзу,*
*Срэбныя футры,*
*драбнюткія флянсікі кветак.*
*Хтосьці самотны, напэўна,*
*прыдумаў імпрэзу:*
*Гэта фарцісіма траўня,*
*прэлюдыя лета.*

Яна — знаны навукоўца, адна з арганізатарак кангрэсу, якая, дарэчы, мяне і запрасіла.

Досыць паўзы лірычнае. Вяртаемся да тэматычных блокаў. Ці ж нецікава паслухаць даклад «Асэнсаванне гісторыі беларускай літаратуры канца XX ст. і актуальная літаратурная працэсу ў сучасным беларускім літаратуразнаўстве» маладое выкладчыцы, таленавітае, з новае генерацыі айчынных навукоўцаў? Яшчэ як цікава! Заўсёды не толькі слухаю яе ўважліва, але і захапляюся ўпэўненасцю, смеласцю.

Шаноўны мадэратар гэтага блоку працаваў вельмі старанна. Сам агучыў даклад адсутнае ўдзельніцы, бо даследаванне сапраўды цікавае, бо хто калі даследаваў механізмы канструявання літаратурнага канона?

А яшчэ трэці раз у жыцці сустрэла каляжанку з МДЛУ, якой нагадала пра тыя нашы, параскіданыя ў часе, сустрэчы. У 1980-ым у БДУ, куды прыязджала на студэнцкую навуковую канферэнцыю. Быў такі праект-абмен для малады навукоўцаў. Мінчане, адпаведна, у Гародню прыязджалі. Падаецца мне, мы падобныя. Нават знешне. Праўда, валасы ў яе — карацей не бывае. Працуе, чытае курс «Беларуская літаратура пачатку XX стагоддзя». Мой улюбёны курс! Другая наша сустрэча адбылася ў 2000-ым на канферэнцыі ў БДУ да трох стагадовых юбілеяў: Кузьмы Чорнага, Уладзіміра Дубоўкі, Улазіміра Жылкі. Памятала яе заўсёды. Бо асоба цікавая, жанчына вельмі прыгожая і разумная. І такое бывае. Зрэшты, на нашых сустрэчах навуковых такое суладдзе — спрэс. Мая мілая каляжанка з Беластока-Бельска, зеленавокая прыгажуня, разумніца, пані прафесар. Яна стварыла праўдзівы мост між Гароднян і тым крыўдна далёкім, што зусім жа побач, замежжам. Выдае гадавік «Białorutenistyka Białostocka» і «Тэрмапіламі» апякуецца не меней, чым рэдактар. Сто справаў робіць і ўсе на выдатна.

Шкада толькі, што ніхто з маіх мінскіх каляжанак на вячэру сяброўскую чамусьці не прыйшоў. Гэта Мінск.

У мяне наперадзе быў доўгі самотны вечар на вакзале. Заўсёды маю на такі выпадак кнігу. Але ж дзень гэты быў незвычайны. «Куды ты зараз?» — аклікнула каляжанка з Польшчы, вядомы гісторык, мастацтвазнаўца. Даведаўшыся, што на вакзал і што да цягніка — мора часу, заявіла: «І я з табою. Хоць пагуляем там. А то што будзеш рабіць так доўга?» Была гэтай нечаканай прапанове шчыра рада. Бо самота ў чужым горадзе — вельмі нядобрая рэч.

Не, незвычайнае ў гэтым дні не закончылася. У той жа вагон, у тыя ж дзверы зайшла тая, думаючы пра якую, заўсёды згадваю юную Людвіку Сівіцкую, цененкую і моцную, гнуткую і нязломную. Бо яна яе сыграла. У тым фільме, які здымалі ў Гародні. Гэтай прыгажуні Неба падаравала незвычайны талент — голас. Даведаўшыся, што едзем мы на вакзал чакаць цягніка, міла і настойліва запрасіла туды, куды сама запрошаная была. Давяла, што наша з'яўленне не будзе непрыемнай неспадзеўкай, у што мы з задавальненнем паверылі. Патэлефанавала, папярэдзіла, што з сабою два падарункі прывядзе. Не ведала, што яна і «Паланэз» спявае. Ніколі не чула. «Праспяваю сёння абавязкова», — паабяцала.

Гаспадар таго, не ведаю якога па ліку, але вельмі высокага неба, куды ўзняліся, — Мастак. Заўсёды бачыла яго здалёку. Толькі здалёку. На мітынгах, у Доме літаратара.

У майстэрнях мастакоў незвычайная аўра. Няшмат такіх месцаў наведваць давялося. Мо таму і ўспрымаю гэтую сустрэчу як Падзею. Праляцела імгненна. Спявачка нагадала: «А, не чула «Паланэз». Праспяваю!» Як яна спявала гэтым разам! Як ніколі. І як заўсёды — цудоўна.

На развітанне Мастак падараваў сваю паэтычную кнігу (талент вялікім даецца не адзін).

А яшчэ быў у тым маім дні вядомы Паэт, з шасцідзясятнікаў, аўтар знакавага «Чалавечага знаку», з якім пазнаёмілася калісьці на «Бабіным лецеў Белаазёрску». Які, як аказалася, памятаў мяне. Нечакана патэлефанаваў на гарадскі тэлефон, прачытаўшы ў «ЛБ» маю «Шчаслівую». Не, не бачыла яго гэтым разам, толькі голас праз тэлефон пачула.

Зусім мімаходзь, але ўсё ж сустрэлася з дарагою мне юнаю асобай, якая носіць не толькі маё прозвішча радзіннае, але і імя мае матулі.

Нам з тою, што Людвіку юную нагадвае, давялося ледзьве не бегма да цягніка бегчы. Ледзьве, бо абутак у мяне на абцасах. Упершыню ў новым мільці мяне з Мінска праводзілі да самага вагона. Дзякую Вам, мілая!

Калі хто гэты тэкст прачытаў уважліва (спадзяюся, такія знайшліся), пазналі тых, каго згадала ці сустрэла ў той незвычайны дзень. Але аўтарка мусіць назваць іх імёны, тым больш, што не ўсе асобы вядомыя. Калі ласка: Віктар Бандарык, Валярына Кустава, Леанід Дранько-Майсюк, Арнольд Макмілін, Гун-Брыт Колер, Юрась Пацюпа, Арсен Ліс, Уладзімір Сіўчыкаў, Дзмітрый Караў, Алесь Смалянчук, Анатоль Верабей, Юлія Масарэнка, Алена Манкевіч, Надзея Шакун, Надзея Старавойтава, Ірына Багдановіч, Аксана Бязлепкіна, Павел Навуменка, Галіна Тварановіч, Ірына Бурдзялёва, Генадзь Цыхун, Апанас Цыхун, Алена Глагоўская, Тацяна Грыневіч, Аляксей Марачкін, Пятро Марціноўскі, Анатоль Вярцінскі, Валянціна Барэйка.

**Травень, 2015 г.**



# Артур Клінаў: «Трэба асэнсаваць новую рэальнасць»

**5 верасня споўнілася 50 гадоў пісьменніку, мастаку, рэдактару часопіса «pARTisan» Артуру Клінаву. Прэс-служба Саюза беларускіх пісьменнікаў пагутарыла з літаратарам у час яго юбілею.**

***— Некалі, абмяркоўваючы ў часопісе «Дзеяслоў» «Малую падарожную кніжыцу па Горадзе Сонца», Валянцін Акудовіч параўноўваў яе з аднайменным творам утапіста Кампанэлы, падкрэсліваючы, што мы маем справу з «архітэктурным праектам». Як выпускнік архітэктурнага факультэта вы, мусіць, павінны ведаць, дзе пачынаецца Менск і дзе ён заканчваецца.***

— Адно з магчымых вытлумачэнняў назвы Менск паходзіць ад слова змяняцца. Гэта горад, якому не пашчасціла вырасці ў цэльнае дрэва з магутнымі каранямі і неабдымным камлём. Заўсёды нехта гэты камель падпілоўваў ды спрабаваў прывіць неўласцівыя для яго пароды галіны. Таму не існуе нейкіх аб'ектыўных межаў Менска. Дрэва вырасла занадта экзатычнае ды эклектычнае, што дае права кожнаму вельмі суб'ектыўна вызначаць яго межы, адпаведна свайму густу і ўяўленню аб каштоўнасцях. Мае ж суб'ектыўныя межы Менску вымяраюцца ўспамінамі майго дзяцінства. А яны звязаны з дзвюма іпастасямі горада, з «Горадам Сонца» і Нямігай, то бок з тым нябачным падземным старым Менскам.

А ўвогуле сакральнае цела горада, а значыць і яго межы, фармуе літаратура. Тэкст горада і яго межы толькі пачынаюць складацца.

***— Яшчэ да выхаду вашага рамана «Шалом» выбухнула незвычайная, вельмі гучная рэкламная кампанія «Шалом у кожны дом!». Разам з тым, адчувалася, што гэта нешта большае, чым проста піяр і раскрутка. Наколькі апраўдала сябе падобная тактыка і ці паўплывала на продажы кнігі?***

— Кампанія «Шалом у кожны дом!» ад самага пачатку задумвалася як абсурдысцкая мастацкая акцыя. Пад яе былі створаны адмысловы сайт, на якім штодня мусілі з'яўляцца фэйкавыя абсурдысцкія навіны з усяго свету. Пачатак кампаніі якраз супаў з татальным абсурдам у нашым грамадстве, які настаў пасля выбараў 2010 года, што толькі дадало кампаніі каларыту. Праўда, многія не ўспрынялі гэтую акцыю як татальны інфармацыйны перформанс, а паставіліся да яго занадта сур'ёзна, убачылі ў ім толькі спробу самапіяру. Што ж тычыцца ўплыву кампаніі на продажы «Шалома», то беларуская літаратура — не тая сфера, на якой можна зарабіць грошы. Прынамсі, продажы аўтарскай часткі накладу рамана нават не пакрылі выдаткі на промакампанію, хаця кніжка стала даволі вядомай. У тым сэнсе, што многія яе не чыталі, але нешта чулі.

***— Усе вашы кнігі зусім розныя — змяняецца герой, час, структура. «Шклатара», ўганараваная II прэміяй Ежы Гедройца, раздвойвалася фактычна на дзве кнігі, але гэтыя дзве сюжэтныя лініі — інсургенцкую і сучасную — аб'ядноўвае гнятлівая нервовая атмасфера. Што яе спарадзіла?***

— Раман «Шклатара» напісаны на падставе рэальных падзеяў канца 2010 — пачатку 2011 года, якія я ўспрыняў вельмі балюча, успрыняў як драму Беларусі. Мы ў чарговы раз страцілі шанец вырвацца з зачараванага кола. Дзве лініі ў рамане, якія ўплятаюцца адна ў другую, мусілі падкрэсліць, што трагедыя Беларусі ўзнікла не сёння і не пры цяперашняй уладзе. Яна цягнецца ўжо колькі стагоддзяў, у якіх мы блукаем, спрабуючы знайсці выйсце. І кожны раз, калі, як нам здаецца, мы набліжаемся да яго, сцены лабірынту раптам змыкаюцца, і мы зноў адпраўляемся па тым жа зачараваным коле. Баршчэўскі — аўтар, які адзін з першых паспрабаваў асэнсаваць трагедыю Беларусі ў літаратуры. Усе аповеды «Шляхціца Завальні» — не проста жахі ці чорны фальклор, а прытчы, расповед пра драму Беларусі/Рэчы Паспалітай. І ў гэтых блуканнях мы не самотныя. Зірніце на Украіну. Здаецца, ёй амаль удалося, але мы бачым, наколькі гэта балюча — вырвацца з лабірынту.

***— Чатырнаццаты год існуе альманах сучаснага беларускага мастацтва «pARTisan». Цяпер, калі мінула даволі шмат часу, якім бачыцца вам пакліканне «pARTisan'a» і наколькі яго з'яўленне паўплывала на беларускую мастацкую супольнасць?***

— Калі мы пачыналі праект «pARTisan», то зыходзілі з тэзы, што беларуская культура павінна прайсці сур'ёзны апгрэйд, то бок зрабіцца культурай сучаснай, высокатэхналагічнай, перадавой. Бо толькі тады ў яе ёсць шанец на будучыню, а значыць ёсць шанец на будучыню і ў народа. У пэўным сэнсе гэта была адраджэнская пазіцыя. Толькі класічныя адраджэнцы ішлі ад каранёў і да каранёў. Гэта і слушна і трэба, але недастаткова дзеля выжывання нацыі ў сучасным свеце. Бо свет ужо рушыў далёка наперад, і нам край як патрэбны інтэлектуальны прарыў у найноўшыя культурныя тэхналогіі.

***— Дзяржаўныя мастацкія ўстановы даволі насцярожана ставяцца да сучаснага мастацтва. Ствараецца ўражанне, што на прэзентацыю мастацтва вылучаецца паўтары капейкі, якіх ледзь-ледзь хапае, каб выдрукаваць серыю паштовак ці маленечкі альбомчык Івана Хруцкага. На гэтым фоне серыя мастацкіх альбомаў, якую выдае «pARTisan» і якую вы курыруеце, бачыцца спробай альтэрнатыўнай прэзентацыі мастацтва.***

— У «pARTisan'a» няма задачы ўзяць на сябе ролю альтэрнатыўнага Міністэрства культуры. Хай наша Міністэрства культуры і надалей займаецца сваёй таямнічай справай, фінансуе фільмы, якія ніхто не бачыць, друкуе пісьменнікаў, якіх ніхто не чытае. Наша ж стратэгія — выбудаваць у беларускай культуры сваю сістэму каардынат, ствараць свой пантэон з культурных герояў, аўтараў, якіх мы лічым важнымі для беларускай культуры. Праект «Калекцыя pARTisan» накіраваны менавіта на гэта. На сёння мы выпусцілі ўжо 12 альбомаў, у планах яшчэ колькі дзясяткаў. Але і гэтага будзе замала, каб ахапіць усіх мастакоў, сапраўды вартых увагі. Увогуле, сучасная беларуская культура трымаецца на культурным героі. Калі дзяржава інвестуе ў састарэлую постсавецкую культурную мадэль, а альтэрнатыўная індустрыя культуры яшчэ не паўстала, застаецца толькі аўтар, які мусіць весці свой асабісты партызанскі рэйд у вельмі суровых умовах, з усведамленнем таго, што разлічваць можна толькі на сябе і грошай на творчасці ён не зробіць. Аднак калі чалавек свядома гэты выклік прымае, схіляю перад ім галаву.

***— Пасля выдання «Шклатары» прайшло колькі часу, але ў інтэрнэце часцей з'яўляюцца фота з мастацкіх пленэраў, чым весткі пра новы раман. Мастак пакуль што перамагае літаратара, але, можа, інфармацыя засакрэчаная і новы раман ужо ляжыць на стале?***

— Безумоўна, планы працягваць літаратурную дзейнасць ёсць. Проста пакуль я ўзяў невялікі тайм-аўт. Бо свет за апошнія два гады настолькі змяніўся, што тэмы ды кнігі, якія хацелася напісаць, раптам падаліся смешнымі і неактуальнымі ў час, калі побач ідзе вайна. Значыць, трэба памаўчаць, асэнсаваць новую рэальнасць ды знайсці пад яе новыя словы.

**Гутарыў Ціхан Чарнякевіч, для lit-bel.org**

# Ён жыць не ўмеў без дарог

## Алесь Пісьмянкоў на старонках «Магілёўскай праўды»

**У савецкі час надрукавацца на старонках абласной ці рэспубліканскай газеты — гэта было для пачаткоўца-літаратара вялікай падзеяй.**

Не так шмат тады было выданняў, каб вынесці на суд чытачоў свае, напрыклад, юнацкія вершы. Не заўважыць талент Алеся Пісьмянкова ў тыя ўжо далёкія 1970-я гады было проста немагчыма. Ён пачаў пісаць і друкавацца са школы ў «Бярозцы», «Піянеры Беларусі», у сваёй роднай касцюковіцкай раённай газеце «Сцяг камунізму».

Пасля школы Алеся Пісьмянкова ўзялі на працу ў раёнку. Ён пачаў асвойваць першыя азы журналістыкі. Адначасова рыхтаваўся для паступлення на філфак БДУ. Шмат пісаў вершаў. А 21 снежня 1974 года абласная газета «Магілёўская праўда» апублікавала першыя вершы юнага паэта з вёскі Бялынкавічы Касцюковіцкага раёна. Гэта была шчырая, светлая падборка з сямі вершаў. Разам з імі абласная газета змясціла здымак Алеся і невялікую прадмоўку да іх — «Будзьце знаёмы: Алесь Пісьмянкоў». Прадмову пісаў паэт Аляксей Пысін, хаця яго прозвішча пад тэкстам не стаіць. Але менавіта тады Аляксей Пысін кіраваў літаб'яднаннем пры «Магілёўскай праўдзе» і штомесяц рыхтаваў літаратурныя выпускі «Прыдняпроўе». У прадмове паведамлялася: «Вершы Алеся Пісьмянкова вызначаюцца шчырасцю і юнацкай непасрэднасцю. У паэтычных радках, якія з'яўляюцца першай спробай пяра, шмат святла і дабрыні, яны прасякнуты любоўю да людзей і роднага краю. Знаёмячыся з вершамі Алеся Пісьмянкова, жадаем маладому аўтару добрага шляху».

Сярод першых паэтычных радкоў на старонках абласной газеты адразу запомнілася гэтае чатырохрадкоўе:

*Ты кажаш, добра шчасце знаеш,*
*Жывеш без ветраў, без дарог...*
*А я спакою не жадаю,*
*Я жыць не ўмею без дарог.*

У 1975-м «Магілёўская праўда» вельмі часта друкуе вершы паэта з Касцюковіцкага раёна. У траўні з'яўляюцца яго вершы «Вясна аблашчыла бярозы...», «У мінулага зноў я ў палоне...», «Казала маці, што нярэдка...», «Вечар помніцца весні...». Публікуюцца яго творы ў жніўні, верасні, кастрычніку. Верш «У вагоне» з'яўляецца нібы пацвярджэннем таго, што паэт, сапраўды, жыць не ўмеў без дарог, скуль яго заўсёды цягнула ў родную вёску.

Плённым для маладога паэта быў 1976 год. Ён ужо вучыўся ва ўніверсітэце, але прыязджаў дамоў, дасылаў свае вершы ў газету. 29 студзеня на старонцы «Магілёўскай праўды» з'явілася яго вядомы верш «Тупаціць па вёсцы ранак...», прысвечаны малодшаму брату Міколу. Гэты верш увайшоў і ў яговы першы паэтычны зборнік «Белы камень» (1983).

Пяць вершаў друкуюцца ў траўні. Адзін з іх называецца «Раніца». Добры верш, але чамусьці аўтар яго не ўключыў у свае першыя паэтычныя зборнікі.

Вершы Алеся Пісьмянкова багатыя на белы колер. Наогул, гэта асобная тэма — «Белы колер у паэзіі Пісьмянкова». І першы зборнік «Белы камень» «пафарбаваны» беллю, чысцінёй, святлом: «ты вынесла белыя косы і чысты пагляд», «пагодліва й марозна у роднай старане, заснежаны сосны і музыка саней», «свяцілеюць пад сонцам сады...» і г.д.

Чатырохрадкоўе «Эцюд» было апублікавана ў «Магілёўскай праўдзе» 30 чэрвеня 1976 года:

*На ганкі выйду заінелыя,*
*Замру, як жаўручок малы:*
*Нібы маланак пасмы белыя,*
*Бяроз імклівыя ствалы.*

У 1976 годзе абласная газета яшчэ апублікавала некалькі вершаў паэта. Многія з іх чамусьці так і не ўвайшлі ў яговыя паэтычныя зборнікі, хаця вершы заслугоўваюць увагі, вельмі пяшчотныя, лірычныя, канцэнтруюць у сабе юнацкую глыбокадумнасць, разважлівасць, неардынарнасць у падыходзе да праяў жыцця, святасці асобы і вернасці караням сваёй Айчыны. Шмат вершаў пра каханне, якія спалучаюць вобразы каханай з вобразамі сваёй маленькай радзімы. 16 верасня 1976 года газета апублікавала яшчэ тры вершы свайго земляка. Сярод іх быў і гэты:

*Як пад небам, небам сінім,*
*Па світальнаму слядку*
*Ранкам крочыла дзяўчына*
*Па халодную ваду.*
*Я з акна глядзеў употай:*
*Прыгажосць майго сяла*
*Міма хаты, міма плота*
*Белым лебедзем плыла.*

У 1977 годзе «Магілёўская праўда» надрукавала толькі два вершы Алеся Пісьмянкова. У іх, як і ў ранейшых творах, апяваецца вернасць Радзіме, харство роднай прыроды, чысціня кахання. Для творчай манеры Алеся Пісьмянкова былі характэрныя прачулы лірызм, непасрэднасць і шчырасць паэтычнай інтанацыі. Тады ён ужо быў студэнтам БДУ, жыў у Мінску, і яго творы актыўна друкаваліся на старонках іншых рэспубліканскіх газет і часопісаў.

Даўно пара сабраць усе ранія вершы гэтага таленавітага паэта, у тым ліку і з «Магілёўскай праўды», і выдаць асобнай кніжкай. Яны вартыя нашага часу.

**Сяргей Чыгрын**

# «Вызначэнне мастацтва»

**Літаратурнае лета выдалася спакойным і прыдатным для адпачынку.**

Толькі адзін спадар-крытык Новікаў на сайце «litkritika», можна сказаць, яшчэ ўсё ўлягае «не пакладаючы рук». І, паверце, зрэдзьчасу ў яго там трапляецца што пачытаць. Прынамсі можна пашырыць свой літаратурны кругагляд за межамі СБП і незалежнай прэсы. Калі ў нас — адносная ціш, дык там (з тых ці іншых прычын, а ўсё ж) — дым-агонь, бітва за страчаны гонар... Ва ўсёй красе выпісваецца партрэт Чаргінца і яго набліжаных, наводмаш даецца ацэнка мастацкім публікацыям холдынга, і, што радуе, расейскай агрэсіі ва Украіне... На першы погляд, неверагодна. Але ёсць і другі погляд — заценены... Той, хто з глуздамі, зразумее...

Чытаючы «Дзеяслоў» сыходзячага лета, думалася, а пра натуральнае пакутнае жыццё ў літаратуры большасці таленавітых творцаў. Выбітныя мастацкія адкрыцці даюцца не толькі з боскай ласкі, але найперш з карпатлівай самаадданай працы. Помніцца, маці казала: «Не трудзі дарма галавы, сынок, па-новаму свет не скажаш». Мабыць, так. Але пожад не адпускае — і *чалавек сябе піша...*

У гэтым нумары, па вялікім рахунку, мяне *зачапілі* такія мастацкія рэчы: апавесць **Алеся Усені** «Дырэктар могілак, альбо Тры дні на тым свеце», нізка аповедаў **Віктара Казько** «На кручку» і апавяданне **Сяргея Абламейкі** «Тастамент», нізка вершаў **Арцёма Сітнікава** «Дабравешчанне Волі» і два тэксты, блізкія да мастацкіх — «Мая Украіна» **Славаміра Адамовіча** ды «Саркафагі страху» **Міхася Скоблы.** З непадробнай цікавасцю прачытаўся і творчы партрэт Міколы Арочкі, напісаны **Сяргеем Чыгрынам.**

Таму, выбачыўшыся перад іншымі аўтарамі, усё ж паспрабую даць суб'ектыўную і больш шырокую характарыстыку менавіта гэтым творам.

Што А. Усеня цікавы празаік, не выпадала сумнявацца, прачытаўшы яго папярэдні раман «Грэх». Таму і за гэтую яго містычную апавесць я браўся без асцярогі натыкнуцца на дрэнны ці вульгарны аўтарскі густ. Шчыры, просты, да канца вытрыманы даверліва-іранічны стыль з самага зачыну падкупляе і ўцягвае чытача ў сюжэтную калізію аповеда. Калі коратка: самейны мужчына-лавелас выпраўляецца на адпачынак ва ўкраінскі Крым і ўжо ў цягніку юрліва заляцаецца да упадабанай маладзіцы, дзеля яе прыхамаці сыходзіць на кароткім прыпынку адной са станцый, каб купіць бутэльку шампанскага, — і ў спешцы патрапляе пад колы аўто... Словам, клінічная смерць, і чалавек адпраўляецца на той свет... Вось на тым шляху і пачынаецца ўсе мітрэнгі і маральна-духоўныя выпрабаванні зямнога грэшніка Міхася Піліпчука, вяскоўца па нараджэнні, даўно ўжо менчука, уласніка пахавальнай фірмачкі... І ўсё тое, што здарылася з ім, напісана аўтарам настолькі трапна, ненавязліва і завабна, без ментарства і павучання, што ты змушаны затоена ісці ўслед за героем ажно да фіналу гісторыі... да яго рэінкарнацыі, можна сказаць, уваскрашэння... каб жа зноў не той самы, мабыць, невыпадковы зігзаг лёсу... Суплёт грэшнага і святога ў адным чалавеку. У кожным з нас. Дарэчы, у аповесці, апроч містыкі, ёсць і добра прадуманы прыгодніцкі аспект. Прысутны і карнявы нацыянальны чыннік, фрагмент якога я працытую:




*«Доктар ужо гаманіў па-беларуску не запінаючыся, і было відавочна, што гэта прыносіць яму асалоду. Можа, таму ён зноўку паспрабаваў вярнуцца да сацыяльнага статуса пацыента:*

*— Вы мне так і не сказалі, чаму беларускай моваю карыстаецеся...*

*Піліпчук сумеўся:*

*— Можаце мне не паверыць, доктар, але я і сам нічога не разумею. (...)*

*— Во як?! — здзівіўся-разгубіўся доктар. — Цікава, цікава... І вы сапраўды свядома загаварылі па-беларуску толькі цяпер, нечакана для самога сябе?!*

*— Менавіта так.*

У Віктара Казько — свой выпрацаваны фірмовы стыль, які выпрабоўвае чытача на вартасць, вытрымку і адданасць. Цыкл апавяданняў напісаны якраз у жанры, што разглядаецца ў гэтым нумары шырока і асобна: нон-фікшн. Апроч рыбацкіх прыгод на прасторах і рэках былога СССР пісьменнік распавядае пра натуру і прыроду самога чалавека. Мяне асабліва ўразіла «Сумная гісторыя пра майго самотнага сома»... Хэмінгуэй пісаў, што *«океан заслуживает, чтобы о нём писали так же, как о человеке».* А наш Казько напісаў больш разгорнута і філасофічней: *«Вада, нашы пракаветныя балоты і гаці, гаі, бары і дубровы — куды мы ні ступім нагой, ні паткнёмся вокам — не толькі магільшчыкі мінулага, але і яго засцерагальнікі, абярэгі. А яшчэ маўклівыя летапісы і летапісцы. Каму казачнікі, баюны-быліншчыкі і назаўжды непадманныя сведкі нашай існасці. Трывалая, хоць і нябачная засова хлусні, неабыганая і нязгаджаная кладоўка памяці славутасці нашых бацькоў. Перадатачны ланцужок нашчадкам ад пакаленняў і пакаленняў палешукоў, што калісь светла смяяліся тут і горка плакалі. Не, у дрэве, вадзе і зямлі — нават сырой, магільнай, няпроста ж так на Беларусі могілкі яшчэ і кладамі завуць — не назаўжды пахаваная нашая сіла, слава і моц. Яна ўзрастае і памнажаецца намі. Яна ў зямлі і ад зямлі, адкуль і перадаецца нам яе запаведнасці. А чаго-чаго, гэтай запаведнасці ў нас мо ўжо і занадта».*

У апавяданні «Тастамент» Сяргей Аламейка зрабіў даволі ўдалую спробу вызначэння літаратурнай творчасці як жыццёвага сэнсу пісьменніка і адносін самога аўтара да значнасці і дробнасці ім напісанага. Герой апавядання васьмідзесяцігадовы пісьменнік і літаратуразнаўца кажа свайму ўнуку Паўлу, студэнту рэжысёрскага факультэта Акадэміі мастацтваў: *«Класіка патрэбная кожнаму пакаленню. Ніхто не пазбегне чалавечых памылак, чалавечых хібаў і чалавечых вяршыняў духу. Ты сам кажаш пра грунт, на якім трэба расці, і тут жа яго пляжыш.*

*— Ну я больш пра форму, чым пра змест. Наш час патрабуе новых формаў, старыя для нас — неактуальныя, грувасткія і непрадукцыйныя. Хто цяпер будзе чытаць даўжэзныя раманы Маркеса?*

*— А ведаеш, як на лаціне будзе прыгажосць?*

*— Як?*

*— Forma. Гэта адзін з лацінскіх сінонімаў прыгажосці. Фармальныя пошукі ў гісторыі мастацтва вельмі часта прыводзілі да адшукання новага зместу. Думаю, гэта адбудзецца і з тваім пакаленнем. Галоўнае, не забывацца, што ўсё новае, як казаў Эклезіяст, ужо калісьці было, пра яго проста забыліся».*

Яшчэ адзін тэкст у жанры нон-фікшн называецца «Мая Украіна». Аўтар — паэт Славамір Адамовіч. Безумоўна, тэма на сёння актуальная, як кажуць, на злобу дня. Але ў гэтага таленавітага творцы, як і заўжды, эсэістыка данельга шчырая і прыцягальная сваёй не заўсёды прывабнай фактурай. Можна разглядаць гэты неаднародны, але цесна спарадкаваны тэкст — як тэст на творчую сумленнасць. Паэт распавядае пра свае чыста родавыя (сваяцкія), грамадскія і літаратурныя стасункі і дачыненні з усім, што было, ёсць і будзе ва Украіне. Вера яго мацнейшая за дадзенасць.

Міхась Скобла — вядомы мастак-партрэтыст з рознаколернай палітрай родных слоў. Яго тэксты вобразна-метафарычныя, заснаваныя на фундаменце рэчаіснай фактуры і дакументальнай пасведчанасці. Пра каго б ні пісаў Міхась, якую б асобу не ўзводзіў на пастамент славы ці «нізводзіў» адтуль, ён праўдзівы і ўпэўнены ў сваіх перакананнях і сцверджаннях. У гэтым нумары ён піша пра адышоўшых з нашага свету беларусаў У. Дамашэвіча, І. Лепешава, З. Сідаровіча, В. Навадворскую, пра сённяшнія і заўтрашнія вуліцы і помнікі Віцебска, пра вяртанне Статута ВКЛ і пра любімую жыхарамі Беларусі трасянку... Усе друкаваныя ў часопісе тэксты М. Скоблы неўзабаве павінны скласціся пад адной вокладкай і пабачыць свет асобнай кнігай.

Вельмі ўдзячліва і спагадна паставіўся да літаратурнай спадчыны свайго земляка, паэта і літаратуразнаўцы М. Арочкі слонімскі крытык Сяргей Чыгрын. Апроч грунтоўнай прадмовы да жыцця і творчасці паэта ён прапануе чытацкай увазе яго апошнія паэтычныя набыткі. Сярод якіх і такія, нам адрасаваныя, радкі:

*Абмацаў касцямі я жвірысты дол,*
*О, брацкі наш дол у свінцовай пакуце!*
*Будуеце зноў беларускі наш Дом?*
*Пакуль вы будуеце — мы не памром!*
*Будуйце!*

Пра такіх сваіх таленавітых і пакутных творцаў і асоб нягожа забывацца годнаму народу. Спадзяюся, што памятацьмем. Дзякуючы і такім рупліўцам, як С. Чыгрын.

Вершы Арцёма Сітнікава *— ураджэнца расейскай Пензеншчыны —* ускалыхнулі маю прытомленую душу і ўнеслі прасвятленне ў песімістычны нацыянальны настрой... Гэта даволі яркі, адораны і самабытны паэт. Магчыма, на эмоцыях я і перабіраю, але агульнае непадманнае вычуванне ад прачытанага менавіта такое: захапленне і ўзрадаванасць, што такая арыгінальная паэтычная з'ява ў нашай — *беларускай* — літаратуры ёсць.

*павук павольна павучыць,*
*тчэ сваю сцежку з нітаў —*
*вучыць*
*нібыта*
*як злучыць*
*неба*
*з*
*нябытам...*

Заўжды пазнавальныя сваёй арыгінальнай версіфікацыяй вершы **Юркі Голуба** (нізка вершаў, выснаваная з вандроўкі ў Швецыю, «Готландскі нататнік»). **Святлана Раманава** скарыстала для эпіграфа ў сваёй вершаванай публікацыі («Вызначэнне мастацтва») цытацыю з М. Лужаніна: *«Здаецца абы што, а натуй. Не цябе будуць чытаць некалі, а па табе прачытаюць твой час».* Гэтыя словы характарызуюць і выдрукаваныя тэксты самой паэткі. Мастацкія эцюды пра непазбежнасць смерці для жывых людзей падае ў сваёй публікацыі **Адам Глобус,** пісьменік глыбока філасафічны ў сваёй стылістычнай прастаце адлюстравання рэальнага зямнога свету. Самабытны і ясны ў сваіх метафарычных выяўленнях паэт з берасцейшчыны **Алесь Каско,** які стаіць вартай на памежжы жыцця і смерці, скрушна-нервова разважаючы, у якое імгненне і куды неадольная вышняя сіла хісне яго самога...

Жаночае псіхалагічнае апавяданне **Алены Брава** «Мёд Чорнага Месяца» пра сексуальнае, маральнае і ўвогуле гендэрнае пытанне нашага часу. Магія і дэтэктыўная інтрыга зацягваюць чытача ў нявыблытны нерат аўтарскай гісторыі...

**Мікіта Найдзёнаў** неабыдзены паэтычным дарам. Праўда, пераважная бальшыня яго вершаў практычна-наватарскага плану. З аскепкаў сваіх хаатычных творчых перажыванняў ён спрабуе скласці карціну агульначалавечай гармоніі... Армейскі дзённік **Уладзіміра Сцяпана** падаўся мне аднастайным і раздражняльным... Ёсць цікавыя моманты, але па сутнасці яны незварушныя, статычныя — не адмаўляюцца назад і не рухаюцца наперад — застылыя ў сваім ракурсе, своеасаблівы стоп-кадр.

Друкуюцца вершы **Рагнеда Малахоўскага,** напісаныя ў звычна-традыцыйным беларускім стылі (цыкл «Рамантык гіне»). Праставатая і палітызаваная фантасмагорыя дэбютанта прозы **Зміцера Копаця** (аповед «Слоік Свабоды»). У перакладах С. Прылуцкага прапануецца чытачу паэзія класіка польскай літаратуры **Тадэвуша Ружэвіча.** Апублікавана заканчэнне «Апошняга сумоўя» С. Шапрана з **Генадзем Бураўкіным.** Працягваецца «Незавершаная аўтабіяграфія» У. Някляева пад прыглядам і рэдакцыяй таго ж няўтомнага **Сяргея Шапрана.** Завяршаецца публікацыя цікавага артыкула «пра атрыбуцыю і фальклярызацыю» **Юры Пацюпы** і **Вячаслава Мартысюка.** Падаецца арыгінальная *справаздача з круглага стала на тэму* **«Непрыдуманая літаратура/літаратура нон-фікшн у Беларусі — што гэта?»** з удзелам двух дзясяткаў сучасных літаратараў. На завяршэнні доследны артыкул вядомага крытыка **Ірыны Шаўляковай** «Любіць Зеўса: сацыялогія літаратуры як «прываротная сіла» і развагі **Леаніда Галубовіча** над кніжкай Тацяны Барысік «Жанчына і леапард». Ну і традыцыйны **«Дзеяпіс»** — анатацыі новых кніг, што выйшлі ў недзяржаўных выдавецтвах.

Хочаце ачомацца ад жнівеньскай спёкі — засланіцеся цвяроза-прахалоднымі старонкамі свежага часопіса «Дзеяслоў»...

**ЛеГАЛ**

# Прэмія Брытаніі

**Малады бангладэшскі пісьменнік стаў уладальнікам самай значнай брытанскай літаратурнай узнагароды за свой дэбютны раман.**

Зія Хайдэр Рахман цяпер па праве ўвайшоў у ганаровы спіс сусветных літаратурных імёнаў, такіх, як Лоўрэнс, Грэм Грын, Картэр і Мак'юэн, атрымаўшы ў гэтым годзе



прэмію Джэймса Тэйт Блэка, якая прысуджаецца Эдынбургскім універсітэтам з 1919 года.

Акрамя прызнання, пераможца атрымаў грашовы прыз у памеры 10 000 фунтаў стэрлінгаў, пра што было ўрачыста абвешчана на Міжнародным кніжным фестывалі ў Эдынбургу.

Раман, напісаны ў стылі нонфікшн, называецца «У святле таго, што мы ведаем». Ён выйшаў яшчэ вясной 2014 года і неўзабаве апынуўся ў цэнтры пільнай увагі англамоўных крытыкаў і літаратуразнаўцаў ды атрымаў высокую ацэнку ўплывовых крытыкаў.

Аўтар рамана нарадзіўся ў адной з вёсак Бангладэш, а адукацыю атрымліваў у некалькіх навучальных установах Вялікабрытаніі і Нямеччыны.

Старшыня журы прэміі Джэймса Тэйт Блэка прафесар Рэндал Стывенсан з Універсітэта Эдынбурга пракаментаваў перамогу маладога бангладэшца: «Зія Хайдэр Рахман падымае цэлы шэраг праблемаў: вайна ў Афганістане, эскалацыя мусульманскага фундаменталізму і нават эканамічны крызіс. Акрамя таго, ён даследуе праблемныя сферы палітыкі і фінансаў, што нячаста сустракаецца на старонках мастацкіх твораў. Але ён робіць гэта захапляльна і даступна».

# Краматорск і Астроўскі

**У Краматорску мясцовыя ўлады прапанавалі знесці помнік савецкаму пісьменніку-чэкісту Мікалаю Астроўскаму.**



Помнік усталяваны на аднайменнай вуліцы ў старой частцы горада. Заняцца гэтым павінны спецыялісты камунальнага прадпрыемства. Яны павінны дэмантаваць помнік і даставіць яго да месца часовага захоўвання.

Іншым сваім рашэннем дэпутаты збіраюцца ініцыяваць усталяванне ў горадзе помніка ахвярам і ліквідатарам Чарнобыльскай катастрофы. Абодва рашэнні не прадугледжваюць выдаткаў бюджэтных сродкаў. Помнік М. Астроўскаму — апошні помнік камуністычнай эпохі ў Краматорску.

# Невядомыя п'есы «каралевы дэтэктыва»

**Дзесяць невядомых і забытых чытачамі твораў Агаты Крысці будуць выдадзены ў Вялікабрытаніі.**



Аб унікальнай знаходцы паведаміў Джуліус Грын. Вядомы тэатральны прадзюсар атрымаў доступ да раней не даследаваных прыватных архіваў. Сярод знойдзеных матэрыялаў апынуліся пяць завершаных п'есаў, некалькі драм у адно дзеянне і рукапісныя лісты пісьменніцы. Як і меркавалі літаратуразнаўцы, у больш чым палове знойдзеных твораў здзейснены загадкавыя забойствы.

Знойдзеная драматургія ад Агаты Крысці — гэта ўнікальны шанец для яе прыхільнікаў патрапіць у свет дэтэктыўных гісторый, складаных характараў і захапляльных інтрыг. Эксперты мяркуюць, што пасля вывучэння знойдзеныя п'есы будуць уключаны ў літаратурную скарбніцу Вялікабрытаніі.

У сямейным архіве спадчыннікаў А. Крысці таксама былі знойдзены асабістыя лісты пісьменніцы з падрабязнымі характарыстыкамі акцёраў тых часоў, у прыватнасці Ральфа Рычардсана. Усе знойдзеныя матэрыялы будуць выдадзены асобнай кнігай у верасні.

# Прэмія «Х'юга»

**Упершыню ў гісторыі літаратурнай прэміі «Х'юга» яе ўладальнікам стаў азіяцкі пісьменнік Лю Цысінь.**

Фантаст з Паднябеснай Лю Цысінь ганараваўся адной з самых прэстыжных прэмій у літаратурнай фантастыцы «Х'юга» за раман з трох кніг «Задача трох целаў».

Сапраўдная фантастычная эпапея, якая апавядае пра вайну чалавецтва з іншапланетнымі ворагамі, выдавалася на радзіме Лю Цысіня чатыры гады. Першая кніга трылогіі пабачыла свет у 2006-м. У мінулым годзе фантастычны твор кітайскага пісьменніка быў апублікаваны на англійскай мове. Раман адразу ж заняў высокія пазіцыі ў жанравым рэйтынгу і быў станоўча ацэнены літаратурнымі крытыкамі.

У наступным годзе ў Кітаі збіраюцца экранізаваць раман Лю Цысіня.

# Прах Маркеса

**Прах Габрыэля Гарсіі Маркеса адправяць у Калумбію. Такое рашэнне з'яўляецца вынікам пагаднення, да якога прыйшлі калумбійскія ўлады і родныя Маркеса.**

Парэшткі пасля крэмацыі цела лаўрэата Нобелеўскай прэміі калумбійскага пісьменніка Габрыэля Гарсія Маркеса, які памёр у 2014 годзе, будуць вернутыя на радзіму і са снежня будуць выстаўлены ў манастыры горада Картахены.

У Картахене пачалася пісьменніцкая кар'ера Маркеса, лічыцца, што гэты горад паслужыў правобразам месца дзеяння аднаго з яго самых вядомых твораў — «Любові падчас халеры».

Раней многія думалі, што прах Маркеса застанецца ў Мексіцы (Мехіка), дзе пісьменнік жыў некалькі дзесяцігоддзяў да сваёй смерці ад ныручнай недастатковасці.

На цырымоніі развітання з пісьменнікам тысячы мексіканцаў запусцілі ў неба папяровых матылькоў.



# Чытанне кніг развівае розум

**Вядомы амерыканскі вучоны ў галіне псіхалогіі Дэвід Кід распавёў пра высновы свайго даследавання. Мастацкая літаратура робіць шчаслівымі, а хэпі-энды — небяспечныя для чытача.**

Больш за 10 гадоў выдаткаваў псіхолаг на вывучэнне ўплыву кніг на свядомасць і сацыяльныя навыкі сучаснага чалавека. Падштурхнула на шматгадовы эксперымент з чытачамі амерыканца руская класіка. Менавіта любоў да творчасці Чэхава і Булгакава стала падставай да вывучэння рэакцыі свядомасці на кнігі. Ужо пасля 15–20 хвілінаў вывучэння такога роду твораў чалавек пачынае лепш адчуваць навакольных, разумець грамадства. А пасля шматгадовай прыхільнасці да «разумных» кніг на падсвядомым узроўні фармуюцца ўяўленні пра эмоцыі іншых людзей.

У той жа час Дэвід Кід сцвярджае, што хэпі-энды негатыўна ўплываюць на тэорыю розуму. Менавіта адсутнасць рэальнасці і складаных супярэчлівых эмоцый спараджаюць праблемы ў сацыялізацыі аматараў такога роду кніг. Таму творы з больш трагічнымі або адкрытымі канцоўкамі больш карысныя для нашага розуму.

**Старонка падрыхтавана паводле матэрыялаў Gazeta.ua, The Bookseller, Zaxid.net, The New York Times, The Guardian, Associated Press, vsiknygy.net, prostokniga.com.ua, novostiliteratury.ru і Newsru.ua.**

# Свечкі з водарам бібліятэкі

У ЗША стварылі серыю свечак, водар якіх пераносіць сапраўдных кнігалюбаў у атмасферу старажытнай бібліятэкі ці букіністычнай крамы.

Такія свечкі з'явіліся ў мястэчку Мініапаліс. У асартыменце — «Старыя кнігі», «Кніжны падвал», «Оксфардская бібліятэка», «Чытанне ў кафэ» і іншыя.

Для аматараў канкрэтных кніг і літаратурных персанажаў створаны водары «Кабінет Шэрлака», «Асабняк Гэтсбі» і іншыя.

Рыхтуецца да вытворчасці новы водар для тых, хто аддае перавагу навуковай фантастыцы.

# Рэкорд «Дзяўчыны ў цягніку»

**Вострасюжэтны раман Полы Хокінс «Дзяўчына ў цягніку» пабіў рэкорд продажаў у Вялікабрытаніі.**




Раней рэкардсменам 6 гадоў быў дэтэктыў Дэна Браўна «Страчаны сімвал». У 2009 годзе кніга Д. Браўна пратрымалася на першым радку рэйтынгу цэлых 19 тыдняў — з таго часу ні адной кнізе не ўдавалася наблізіцца да гэтай адзнакі, нават папулярнай «Выпадковай вакансіі» Джоан Роўлінг. Аднак раман былой журналісткі П. Хокінс узначальвае спіс бэстсэлераў ужо 20 тыдняў. З моманту выхаду рамана ў выдавецтве «Transworld» у студзені было прададзена 800 000 асобнікаў. Па словах прадстаўніка кніжнай сеткі «Waterstones» Джозэфа Ноббса, кампаніі не давялося запускаць гучныя прамакампаніі, каб прыцягнуць увагу да кнігі. Яна стала папулярнай проста таму, што таленавіта напісана.

У «Дзяўчыне ў цягніку» распавядаецца пра беспрацоўную Рэйчэл, якая злоўжывае алкаголем і не можа змірыцца з тым, што яе былы муж завёў новую сям'ю. Кожны дзень гераіня садзіцца ў цягнік, які вязе яе ў Лондан і назад, з акна вагона яна пастаянна бачыць дом, дзе жыве шчаслівая пара. У нейкі момант дзяўчына даведваецца, што жанчына з гэтага дома знікла, а галоўным падазраваным у яе знікненні становіцца яе былы муж…

Літаратурная Беларусь
Кіраўнік праекта «ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» Алесь ПАШКЕВІЧ. Рэдактар Барыс САЧАНКА.
Тэлефон для даведак: (8-017) 200-80-91. Адрас электроннай пошты: sbp@tut.by

TV

## 2 КАСТРЫЧНІКА, ПЯТНІЦА

**Беларусь 1**

**06.00** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00** Навіны.
**07.05** Навіны эканомікі.
**07.10** Зона Х. Крымінальная хроніка.
**07.20** Добрай раніцы, Беларусь!
**08.00** Навіны.
**08.05** Навіны эканомікі.
**08.10** Зона Х. Крымінальная хроніка.
**08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**09.00** Навіны.
**09.10** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**11.05** Дэтэктыўная меладрама «Бацька Мацвей» (Расія).
**12.00** Навіны.
**12.10** Серыял «Сямейныя меладрамы - 5» (Украіна).
**13.10** Дзень у вялікім горадзе.
**14.05** Камедыйны серыял «Думай як жанчына» (Расія).
**15.00** Навіны.
**15.15** Навіны рэгіёну.
**15.25** Прыгодніцкая меладрама «Вікторыя» (Расія). 2-я серыя.
**16.35** Серыял «Сямейныя меладрамы - 5» (Украіна).
**17.45** Зроблена ў Беларусі.
**18.00** Terra incognita. Беларусь невядомая.
**18.40** Навіны рэгіёну.
**19.00** Навіны.
**19.20** Зона Х. Вынікі тыдня.
**20.00** Дэтэктыўная меладрама «Бацька Мацвей» (Расія).
**21.00** Панарама.
**21.45** Беларусь XXI.
**22.30** Зроблена ў Беларусі.
**22.50** Меладрама «Пяць гадоў і адзін дзень» (Украіна).



**00.40** Навіны.
**01.00** Дзень спорту.
**01.10** Прыгодніцкая меладрама «Вікторыя» (Расія). 2-я серыя.

**НТВ**

**06.00, 08.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Жыць здарова!».
**10.25** «Кантрольная закупка».
**11.00** Нашы навіны.
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Фазэнда».
**11.50** «Модны прысуд».
**13.00** Нашы навіны.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Мужчынскае / Жаночае».
**14.05** «Вучыцца жыць».
**16.00** Нашы навіны.
**16.10** Навіны спорту.
**16.20** Мастацкі фільм «Зімовы вечар у Гаграх».
**18.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** Чакай мяне Беларусь.
**18.55** «Поле цудаў».
**20.00** Час.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Здабытак Рэспублікі.
**22.50** Што? Дзе? Калі? ў Беларусі.
**00.10** Легенды Live.
**00.50** Трылер «Ператварэнне».
**02.20** Начныя навіны.

**СТВ**

**06.00** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.30** «24 гадзіны».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**08.30** Дакументальны праект.
**09.30** Участак лейтэнанта Качуры.
**10.30** «24 гадзіны».
**10.40** «Салдаты 10». Серыял.
**11.30** «Сямейныя драмы».
**12.30** «Не хлусі мне!».
**13.30** «24 гадзіны».
**13.50** «Ежа багоў».
**14.45** «Водблiскі». Серыял.
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Добры дзень, доктар!».
**17.25** «Міншчына».
**17.35** «Званая вячэра».
**18.35** Дакументальны праект.
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** Дакументальны праект.
**21.20** Участак лейтэнанта Качуры.
**22.10** «Глядзець усім!».
**22.30** «24 гадзіны».
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Водблiскі». Серыял.
**23.50** «Вялікая гульня». Покер.
**00.35** «Нікі, Д'ябал-малодшы».



**Беларусь 2**

**07.00** Тэлераніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** «Арол і рэшка. На краі свету». Пазнавальна-забаўляльнае шоў (Украіна).
**10.00** «Экстрасэнсы-дэтэктывы». Дакументальны цыкл расследаванняў (Украіна).
**11.05** «Зразумець і абясшкодзіць».
**11.35** Капейка ў капейку.
**12.10** Прыгодніцкі серыял «Бафі - знішчальніца вампіраў» (ЗША).
**13.05** Дэтэктыўны серыял «Косці» (ЗША).
**14.00** Меладраматычны серыял «Не нарадзіся прыгожай» (Расія).
**15.50** «Арол і рэшка. На краі свету». Пазнавальна-забаўляльнае шоў (Украіна).
**16.45** «Пін_код». Інтэрактыўны моладзевы праект.
**17.55** Адкрытае пытанне.
**19.05** Меладраматычны серыял «Не нарадзіся прыгожай» (Расія).
**21.05** Тэлебарометр.
**21.10** Бітва экстрасэнсаў.
**22.00** Спортлато 6 з 49, КЕНА.
**00.20** Рэпарцёр.
**01.05** Камедыйны серыял «Як я сустрэў вашу маму» (ЗША).

**Беларусь 3**

**07.20** «Дабраранак».
**07.50** «Калейдаскоп».
**08.00** «Васіль Буслаеў». Фільм-казка (СССР, 1982 г.).
**09.20** «Няскончаная аповесць». Драма (СССР, 1955 г.).
**10.55** «Сіла веры».
**11.20** «Рымскі-Корсакаў». Біяграфічны фільм (СССР, 1953 г.).
**13.10** «Вакальны вечар». Васіль Герэла і Дзяржаўны рускі канцэртны аркестр Санкт-Пецярбурга.
**14.30** «Банкавы білет у мільён фунтаў стэрлінгаў». Раматычная камедыя (Вялікабрытанія, 1953 г.).
**16.00** «Дзень добры, сталіца!» Меладрама (Расія, 2003 г.).
**17.45** «Славянскі базар-2011». Мікалай Баскаў.
**19.15** «Калейдаскоп».
**19.30** «Мая марачка». Музычная камедыя (СССР, 1990 г.).
**20.45** «Калыханка».
**21.05** «Камертон». Кампазітар Эдуард Ханок.
**21.30** Міжнародны музычны фестываль «Залаты шлягер-2015» у Магілёве. Урачыстае адкрыццё.
**23.00** «Арланда». Драма (Вялікабрытанія, Расія, Італія, Францыя, 1992 г.).
**00.35** «Калейдаскоп».

**Беларусь 5**

**07.40** Спорт-мікс.
**08.05** Хакей. КХЛ. «Югра» (Ханты-Мансійск) - «Дынама-Мінск».
**10.00** Тэніс. Турнір ВТА. Ухань.
**12.00** Гандбол. Ліга чэмпіёнаў.
**13.30** Тэніс. Турнір ВТА. Ухань.
**15.30** Валейбол. Чэмпіянат Еўропы. Жанчыны.
**17.35** Футбол. Ліга Еўропы УЕФА. Дынама - Рапід.
**19.25** Піт-стоп.
**19.55** PRO спорт. Навіны.
**20.00** Свет Англійскай прэм'ер-лігі.
**20.30** Футбол. Ліга Еўропы УЕФА. Агляд тура.
**23.15** Еўрапейскі покерны тур.
**21.25** Тэніс. Турнір ВТА. Ухань.
**23.30** PRO спорт. Навіны.
**23.40** Еўрапейскі покерны тур.

**БЕЛСАТ tv**

**07.00** Студыя «Белсат».
**07.30** Выбары-2015.
**09.30** Студыя «Белсат».
**10.10** Рэпартэр (публіцыстычная праграма).
**10.40** Відзьмо-невідзьмо (інфармацыйна-забаўляльны агляд).
**11.05** Востраў канібалаў, д/ф.
**12.05** Невядомая Беларусь: Прайграная гісторыя. Вяртанне ў Бішофсвэрду, дакументальны фільм.
**12.50** Студыя «Белсат».
**13.20** Выбары-2015.
**15.20** Студыя «Белсат».
**16.00** Рэпартэр (публіцыстычная праграма).
**16.25** Сіроты Тыбету, д/ф.
**17.15** Невядомая Беларусь: Прайграная гісторыя. Вяртанне ў Бішофсвэрду, д/ф.
**18.00** Чорным па белым (культурніцкая праграма): Альтэрнатыўная школа ў Беларусі, ці ёсць яна?
**18.30** Студыя «Белсат».
**18.55** Маю права (юрыдычная праграма).
**19.20** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Крыжакі.
**19.30** Студыя «Белсат».
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.40** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**22.20** Труба, д/ф, 2013 г., Нямеччына – Чэхія – Расія.
**00.20** Вандроўныя міны, м/ф.
**02.10** Студыя «Белсат».
**03.50** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).

## 3 КАСТРЫЧНІКА, СУБОТА

**Беларусь 1**

**06.55** Існасць.
**07.20** Меладрама «Чацвёрты пасажыр» (Расія).
**09.00** Навіны.
**09.10** Буйным планам.
**09.40** Камедыйны серыял «Як выйсці замуж за мільянера - 2» (Расія).
**10.45** «50 рэцэптаў першага». Кулінарнае шоў.
**11.25** Дача.
**12.00** Навіны.
**12.10** «Здароўе». Ток-шоў.
**12.55** Terra incognita. Беларусь невядомая.
**13.30** Выхад ёсць.
**14.05** Меладрама «Час збіраць» (Расія).
**15.00** Навіны.
**15.15** Краіна.
**17.00** Тэледэбаты кандыдатаў у Прэзідэнты Рэспублікі Беларусь.
**18.00** Меладрама «Не было б шчасця...». (Расія). 1-я - 4-я серыі.
**21.00** Панарама.
**21.40** Беларусь XXI.
**23.10** Меладрама «Не было б шчасця - 2» (Расія). 1-я - 4-я серыі.



**02.20** Дзень спорту.

**НТВ**

**07.00** АНТ прадстаўляе. «Суботняя раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** Смяшарыкі.
**09.25** Здароўе.
**10.30** Ідэальны рамонт.
**11.30** Разумніцы і разумнікі.
**13.05** Мастацкі фільм «Ліст чакання».
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** Мастацкі фільм «Іншыя людзі».
**16.40** Армэн Джыгарханян.
**17.40** Цюцелька ў цюцельку.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Мы разам. Канцэрт.
**23.20** Сёння вечарам.
**00.55** Мастацкі фільм «Амерыканская дачка».

**СТВ**

**06.15** «На дне».
**07.50** Анфас.
**08.05** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман».
**09.00** «Сакрэтныя тэрыторыі».
**10.00** Іншая краіна.
**11.00** «Мінск і мінчане».
**11.40** «Салдаты 5». Серыял.
**13.30** «24 гадзіны».
**13.40** Ля парараднага пад'езду.
**14.15** «Вазьму твой боль».
**15.15** «Вадзіць па-руску».
**15.50** «Вялікі горад».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.40** «Наша справа».
**16.55** Канцэрт Міхаіла Задорнава.
**17.35** «Смяротная зброя 3».
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «СТБ-спорт».
**20.10** «Крабат, вучань ведзьмака».
**22.15** Зорны рынг.
**23.30** Тэрыторыя памылак.
**01.20** «Масква. Дзень і ноч».

**Беларусь 2**

**07.05** Серыял «Сябры анёлаў».
**07.55** Серыял «Мая цудоўная няня» (Расія).
**10.05** Азбука густу.
**10.35** Тэлебарометр.
**10.45** «Бітва экстрасэнсаў. Трэцяя сусветная». Містычнае рэаліці-шоў (Украіна).
**12.55** Капейка ў капейку.
**12.35** Камедыйны серыял «Шчаслівыя разам» (Расія).
**16.40** «Арол і рэшка. Шопінг». Пазнавальнае стайл-шоў (Украіна).
**17.45** Мастацкі фільм «Сацыяльная сетка».



**19.50** Панаехалі.
**21.05** Тэлебарометр.
**21.10** Мастацкі фільм «Штурм Белага дома».
**22.00** Спортлато 6 з 49, КЕНА.
**23.40** Прыгодніцкі серыял «Бафі - знішчальніца вампіраў» (ЗША).

**Беларусь 3**

**08.00** «Калейдаскоп».
**08.10** «Мая марачка». Музычная камедыя (СССР, 1990 г.).
**09.30** «Размаўляем па-беларуску». Тэлевіктарына.
**10.00** Міжнародны музычны фестываль «Залаты шлягер-2015» у Магілёве. Урачыстае адкрыццё.
**11.30** «Яны сышлі з нябёсаў». Драма (СССР, 1986 г.).
**12.45** «Падполле. Вайна знутры вайны». Фільм першы «Жаночы твар вайны». Дак. фільм.
**13.15** «У небе «начныя ведзьмы». Ваенная драма (СССР, 1981 г.).
**14.30** «Падполле. Вайна знутры вайны». Фільм першы «Жаночы твар вайны». Дакументальны фільм.
**14.55** «Калейдаскоп».
**15.10** «Дзень добры, я ваша цётка!» Камедыя (СССР, 1975 г.).
**16.50** «Калейдаскоп».
**17.00** «Ганна Снегіна». Музычна-паэтычная кампазіцыя.
**18.05** «Шклянка вады». Меладраматычная камедыя. 1-я і 2-я серыі (СССР, 1979 г.).
**20.20** «Вандроўка з «Бяседай». Віцебская вобласць.
**20.45** «Калыханка».
**21.05** «Камертон». Спявак і кампазітар Глеб Матвейчук.
**21.35** Міжнародны музычны фестываль «Залаты шлягер-2015» у Магілёве. «Асенняе лісце». Канцэрт зорак сусветнага і айчыннага джазу.
**23.05** «Праз цьмянае шкло». Драма (Швецыя, 1961 г.).
**00.30** «Калейдаскоп».

**Беларусь 5**

**07.35** Спорт-мікс.
**07.55** Тэніс. Турнір ВТА. Ухань.
**12.00** Футбол. Ліга Еўропы УЕФА. Манака - Тотэнхэм.
**13.35** Футбол. Ліга Еўропы УЕФА. Агляд тура.
**14.30** Плаванне. Кубак свету Сінгапур.
**16.40** Авертайм. КХЛ.
**16.55** Хакей. КХЛ. Дынама - Авангард.
**19.25** Валейбол. Чэмпіянат Еўропы. Жанчыны.
**21.25** Футбол. Чэмпіянат Англіі. «Чэлсі» - «Саўтгэмптан».
**23.20** PRO спорт. Навіны.
**23.30** Еўрапейскі покерны тур.
**00.20** Валейбол. Чэмпіянат Еўропы. Жанчыны.

**БЕЛСАТ tv**

**07.00** Студыя «Белсат».
**07.25** Маю права (юрыдычная праграма).
**07.50** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Крыжакі.
**08.00** Студыя «Белсат».
**10.10** Прыгоды і паходы, спазнаваўчы мультсерыял: Грыбы.
**10.20** Цюхця, што ты за стварэнне?!, мультсерыял.
**10.30** Між намі, буслымі, анімацыйны серыял для дзяцей.
**10.50** Дзяўчына з мокрай галавою, серыял.
**11.25** Два на два (тэледыскусія): Валер Булгакаў і Сяргей Дубавец: Ці ўдалася ўладам «мяккая беларусізацыя»?
**11.55** Асабісты капітал (эканамічная праграма).
**12.15** Вандроўныя міны, м/ф.
**14.10** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**14.45** Труба, д/ф.
**16.45** Рэпартэр (публіцыстычная праграма).
**17.10** Над Нёмнам (тэлечасопіс).
**17.30** Mad Men. Утрапёныя IV, серыял.
**18.15** Ратаўнікі, серыял.
**19.00** Загадкі беларускай гісторыі: Жыццё і смерць Рамана Скірмунта.
**19.10** Апошнія сакрэты Трэцяга Райху, дак. серыял: Жанчыны Гітлера.
**20.05** Зона «Свабоды» (аналітычная праграма).
**20.40** Мова нанова: Матацыклы.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.10** Людскія справы: Выбарчае выданне.
**21.45** Невядомая Беларусь: Даволі! Да Волі..., д/ф.
**22.40** Самота ў сеціве, драма, 2006 г., Польшча: ч. 1.
**00.05** Відзьмо-невідзьмо (інфармацыйна-забаўляльны агляд).
**00.25** Рэмарка (культурніцкая праграма).
**00.50** Студыя «Белсат».
**01.10** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**01.45** Труба, д/ф.

TV

## 4 КАСТРЫЧНІКА, НЯДЗЕЛЯ

### Беларусь 1

**07.20** Меладрама «Час збіраць» (Расія).
**09.00** Навіны.
**09.10** «Арсенал». Праграма пра армію.
**09.40** Камедыйны серыял «Як выйсці замуж за мільянера - 2» (Расія).
**10.45** «50 рэцэптаў першага». Кулінарнае шоў.
**11.25** XXL WOMAN TV. Жаночы часопіс.
**12.00** Навіны.
**12.10** Навіны. Цэнтральны рэгіён.
**12.35** Зона Х. Вынікі тыдня.
**13.05** Спецыяльны рэпартаж.
**13.40** Каробка перадач.
**14.15** Вакол планеты.
**15.00** Навіны.
**15.15** Твой горад.
**15.30** Меладрама «Чацвёрты пасажыр» (Расія).
**17.25** Меладрама «Я ўсё адолею» (Расія). 1-я і 2-я серыі.
**21.00** Галоўны эфір.
**22.15** Клуб рэдактараў.
**22.55** Навіны надвор'я.
**23.15** Вострасюжэтная меладрама «Каханне па раскладзе» (Расія).
**01.00** Камедыйны серыял «Як выйсці замуж за мільянера - 2» (Расія).

### АНТ

**07.00** АНТ прадстаўляе. «Нядзельная раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** Нядзельная пропаведзь (з субтытрамі).
**09.20** Смяшарыкі.
**09.35** Шалапутныя нататкі.
**09.55** Пакуль усе дома.
**10.40** «Фазэнда».
**11.15** Брэйн-рынг.
**12.25** 1812.
**14.30** Тэорыя змовы.
**15.30** Шматсерыйны фільм «Ясенін».
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** Шматсерыйны фільм «Ясенін».
**20.00** Контуры.
**21.05** Голас.
**23.20** Што? Дзе? Калі?
**00.30** Мастацкі фільм «Чалавек з ніадкуль».

### СТВ

**06.20** «Афрамасквіч». Камедыйны серыял.
**07.10** «Сардэчна паскардзіцца».
**07.30** Аўтапанарама.
**08.15** «Крабат, вучань ведзьмака».
**10.15** «Чыстая праца».
**11.00** «Вялікі сняданак».
**11.40** Культурная сталіца.
**12.10** Добры дзень, доктар!
**12.35** «Салдаты 5». Серыял.
**12.55** Зялёны агурок.
**13.30** «24 гадзіны».
**13.40** Ля парадняга пад'езду.
**14.10** «Дажывём да панядзелка».
**15.35** Вадзіць па-руску.
**16.00** «Цэнтральны рэгіён».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** Аўтапанарама.
**17.20** «Ваенная таямніца».
**19.30** «Тыдзень». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**20.25** «Жанчына і мужчыны».
**22.40** «Званая вячэра».
**00.30** «Дажывём да панядзелка».
**02.15** «Масква. Дзень і ноч».

### Беларусь 2

**06.55** Серыял «Сябры анёлаў».
**08.10** Камедыйны серыял «Шчаслівыя разам» (Расія).
**10.30** Вось дык так!
**11.05** Хачу ў тэлевізар!
**11.15** Тэлебарометр.
**11.20** Ваша лато.
**11.50** Пяцёрачка.
**12.20** Камедыйны серыял «Мая цудоўная няня» (Расія).
**14.25** Мастацкі фільм «Сацыяльная сетка».
**16.35** Баявік «Чалавек-павук 3» (ЗША).
**19.15** Суперлато.
**20.05** Тэлебарометр.
**20.40** Кіпень.
**21.10** Іранічны дэтэктыў «Метад Фрэйда» (Расія). 1-я і 2-я серыі.
**22.00** Спортлато 5 з 36, КЕНА.
**23.30** Містычны трылер «Прывіды» (Вялікабрытанія). 1-я серыя.
**00.30** Камедыйны серыял «Як я сустрэў вашу маму» (ЗША).

### Беларусь 3

**08.00** «Калейдаскоп».
**08.10** «Нестар Бурма». Крымінальны дэтэктыў. 5-я серыя «Світанне над Луўрам» (Францыя, 1992 г.).
**09.40** Міжнародны музычны фестываль «Залаты шлягер-2015» у Магілёве. «Асеннее лісце». Канцэрт зорак сусветнага і айчыннага джазу.
**11.10** «Наперад у мінулае».
**11.35** Хіт-парад «Сто песень для Беларусі».
**12.30** «Шклянка вады». Меладраматычная камедыя. 1-я серыя (СССР, 1979 г.).
**13.30** «Раман з лёсам». Ала Дзямідава.
**14.00** «Шклянка вады». Меладраматычная камедыя. 2-я серыя (СССР, 1979 г.).
**15.05** «Справы фамільныя». «Банкірскі дом». Браты Паляковы і гісторыя развіцця банкаўскай справы на Беларусі.
**15.30** «Мядзведжая восень». Дакументальны фільм.
**15.50** «Музеі Беларусі». Гомельскі музей ваеннай славы.
**16.15** «Георгій Жукаў. Вайна і мір маршала Перамогі». Дакументальны фільм.
**16.50** «Калейдаскоп».
**17.00** «Калегі». Драма (СССР, 1962 г.).
**18.35** «Палонныя нябёсаў». Дэтэктыўная драма (Вялікабрытанія, ЗША, 1996 г.).
**20.45** «Калыханка».
**21.05** СССР - музыка пад забаронай. Гурт «Наутилус Помпилиус».
**21.30** Міжнародны музычны фестываль «Залаты шлягер-2015» у Магілёве. Канцэрт Аляксандра Іванова і групы «Рондо».
**23.05** «Марк Шагал. Майстэрства кахання». Дакументальны фільм.
**23.55** «Нестар Бурма». Крымінальны дэтэктыў. 5-я серыя «Світанне над Луўрам» (Францыя, 1992 г.).
**01.20** «Калейдаскоп».
**01.38** Перерыв в вещании.

### Беларусь 5

**06.55** Спорт-мікс.
**07.10** Тэніс. Турнір ВТА. Ухань.
**09.15** Хакей. КХЛ. Дынама - Авангард.
**11.05** Футбол. Чэмпіянат Англіі. «Чэлсі» - «Саўтгэмптан».
**12.55** Валейбол. Чэмпіянат Еўропы. Жанчыны.
**14.55** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА.
**15.25** Футбол. Чэмпіянат Англіі. Эвертан - Ліверпуль.
**17.25** Авертайм.
**17.55** Валейбол. Чэмпіянат Еўропы. Жанчыны.
**19.55** Футбол. Шахцёр - Мінск.
**21.55** Футбол. Чэмпіянат Англіі. «Арсенал» - «Манчэстар Юнайтэд».
**23.50** PRO спорт. Навіны.
**00.00** Плаванне. Кубак свету. Сінгапур.

### БЕЛСАТ tv

**07.00** Студыя «Белсат».
**07.10** ПраСвет.
**07.45** Прыгоды і паходы, спазнаваўчы мультсерыял: Грыбы.
**07.55** Цюхця, што ты за стварэнне?!, мультсерыял.
**08.05** Між намі, буслямі, анімацыйны серыял для дзяцей.
**08.30** Зона «Свабоды» (аналітычная праграма).
**09.05** Маю правa (юрыдычная праграма).
**09.25** Над Нёмнам (тэлечасопіс).
**09.45** Два на два (тэледыскусія): Валер Булгакаў і Сяргей Дубавец: Ці ўдалася ўладам «мяккая беларусізацыя»?
**10.15** Рэпартэр (публіцыстычная праграма).
**10.40** Загадкі беларускай гісторыі: Жыццё і смерць Рамана Скірмунта.
**10.55** Прыгоды і паходы, спазнаваўчы мультсерыял: Праца.
**11.05** Цюхця, што ты за стварэнне?!, мультсерыял.
**11.10** Між намі, буслямі, анімацыйны серыял для дзяцей.
**11.35** Дзяўчына з мокрай галавою, серыял.
**12.10** Мова нанова: Матацыклы.
**12.30** Чорным па белым (культурніцкая праграма): Альтэрнатыўная школа ў Беларусі, ці ёсць яна?
**12.55** Троіца, фільм-канцэрт.
**13.40** Апошнія сакрэты Трэцяга Райху, дак. серыял: Жанчыны Гітлера.
**14.35** Відзьмо-невідзьмо (інфармацыйна-забаўляльны агляд).
**15.05** Зона «Свабоды» (аналітычная праграма).
**15.40** Людскія справы: Выбарчае выданне.
**16.15** Самотнасць у сеціве, м/ф: ч. 1.
**17.35** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**18.05** Падарожжа на Усход – з Берліну ва Уладзівасток, дак. серыял: ч. 4: З Манголіі ў Кітай.
**18.50** Невядомая Беларусь: Даволі! Да Волі…, д/ф.
**19.45** Сведкі: Талака.
**20.00** Эксперт (сатырычная праграма).
**20.25** Балканскі экспрэс: Харватыя, д/ф.
**21.20** Кінаклуб: «Вайна ў акрузе Гарлан».
**21.30** Вайна ў акрузе Гарлан, драма.
**23.20** Mad Men. Утрапёныя IV, серыял.
**00.05** U455. таямніца загінулай субмарыны, д/ф.

---

# Шаноўныя чытачы!

**На жаль, газету «Новы час» немагчыма купіць у шапіках або крамах. Няма нас і ў дзяржаўнай сістэме распаўсюду Белпошты. Але можна падпісацца на «Новы час», і кожны тыдзень атрымліваць газету.**

Падпісацца можна на любую колькасць месяцаў, аформіўшы банкаўскі ці паштовы перавод і накіраваўшы копію плацёжнага дакументу на адрас рэдакцыі. (Глядзіце ўзоры квітанцый). **Нашы рэквізіты: рахунак 3012741108019 у аддзяленні №539 ОАО «Белінвестбанка», код банка 153100739. Адрас банка: 220004, Мінск, вул. Калектарная, 11. Адрас рэдакцыі: 220113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234.**

**Акрамя таго падпісацца можна ў рэдакцыі і ў нашых рэгіянальных прадстаўнікоў:**
**Магілёў:** (8 029) 930 79 22, Міхась
**Мінск:** (8 029) 178 31 68, Вольга
**Слуцк:** (8 029) 364 42 60, Зінаіда
**Гомель** (8 029) 697 82 75, Аляксандр

БЕЛПОЧТА

ф. ПС 112

**ЭЛЕКТРОННЫЙ ДЕНЕЖНЫЙ ПЕРЕВОД**

№ ______ (вход, по карте отправки)

ВЫРУЧКА ☐ НАЛОЖЕННЫЙ ПЛАТЕЖ ☐

(сумма цифрами) (сумма прописью)

ПОЛУЧАТЕЛЬ___ Г-та «Новы час», р/с 3012741108019 отд. №539 ОАО «Белинвестбанк», код 153100739, УНН 190790926

КУДА 220004, г. Минск, ул. Коллекторная, 11
(почтовый код, адрес получателя, телефон)

ОТПРАВИТЕЛЬ ______
(почтовый код, адрес отправителя, телефон)

АДРЕС ______

Доставка ☐ уведомление ☐ простое ☐ заказное ☐ электронное

(назначение платежа)

(письменное сообщение)

Отметки отделения почтовой связи места приема:
(почтовый код, оттиск контрольно-переводной печати, кол. шт.)
№ перевода по ф. 5 ____________
Время приема ______ ч. _____ мин.
Подпись

# Паважаныя чытачы!

Падпісны кошт аднаго нумара газеты 4500 руб., аднаго месяца — 18000 руб.

**ДЗЯКУЙ ВАМ ЗА ПАДТРЫМКУ!**
«Новы час» запрашае да супрацоўніцтва распаўсюджвальнікаў газеты ва ўсіх рэгіёнах Беларусі.
**Даведка па тэл: (8 029) 625-57-51.**



КВИТАНЦИЯ

ЧИУП «Час навінаў»
(получатель платежа)
отд. №539 ОАО «Белинвестбанк»
(наименование банка)

| Счет получателя | 3012741108019 | Лицевой счет | Код 739 |
|---|---|---|---|
| УНП* | 190790926 | | |

(фамилия, имя, отчество, адрес)

| Вид платежа | | | Дата | Сумма |
|---|---|---|---|---|
| | | | | |

Период подписки указывает абонент

Плательщик

Пеня ______
Всего ______

Кассир

# Тэнге ў вольным плаванні

Алег НОВІКАЎ



**У Казахстане імаверны старт аперацыі «пераемнік» прыйшоўся на самы вялікі абвал нацыянальнай валюты за часы незалежнасці. Пра сітуацыю, што склалася ў краіне, распавядае казахскі праваабаронца Андрэй Грышын.**

***— Як у лічбах выглядае восеньскі «тэнгепад»? Ці можна верыць СМІ, якія пішуць пра зачыненыя праз шалёны ажыятаж пункты абмену валюты?***

— На працягу тыдня тэнге адносна долара абвалілася са 185 да 270 тэнге за адзін долар. Часам курс даходзіў да 300. Валютнай панікі ў поўным сэнсе гэтага слова няма. Долары набыць можна, аднак часам у банках іх прытрымліваюць зранку, бо пасля абеду курс звычайна трошкі расце. Увогуле, пра магчымы крах тэнге пісалі даўно, і хто хацеў, той ужо даўно перавёў свае капіталы ў еўра і долары. Аднак усё роўна адчуваецца напружанасць, паколькі ніхто не ведае, калі нарэшце будзе дно. У Цэнтрабанку кажуць, што не будуць асабліва намагацца выратоўваць тэнге, сыходзячы з новых прынцыпаў валютнай палітыкі. Па словах банкіраў, «казахстанская валюта адправілася ў вольнае плаванне».

***— Якія фактары паўплывалі на развіццё такой сітуацыі?***

— Прычыны падзення тэнге ў прынцыпе зразумелыя. Гэта следства глыбокага падзення сусветных коштаў на энерганосьбіты. Напрыклад, на нафтавы сектар у нас прыходзіцца 50% даходаў бюджэту і 60% экспарту. Ёсць, натуральна, і канспіратыўныя версіі. Напрыклад, нехта намагаецца звязаць дэфолт тэнге і амаль сінхронны зварот Пуціна да Думы з заклікам перавесці разлікі ўнутры Еўразійскага саюза на расійскія рублі. Гэта падаецца некаторым першым крокам па стварэнні еўразійскай валюты. Маўляў, Пуцін нейкім чынам наўмысна абрынуў тэнге, каб паскорыць інтэграцыйныя працэсы на постсавецкай прасторы.

***— Літаральна напярэдадні абвалу тэнге намеснікам прэм'ер-міністра была прызначаная дачка прэзідэнта Дарыга Назарбаева. У прэсе адразу з'явілася шмат спекуляцый наконт таго, што менавіта Дарыга можа стаць пераемнікам 75-гадовага Елбасы на пасадзе кіраўніка дзяржавы. Як паўплывае цяперашні кепскі стан эканомікі на магчымую змену ўлады?***

— Дарыга Назарбаева ў статусе пераемніка — гэта спрэчнае пытанне. Ёсць шмат аргументаў супраць яе кандыдатуры. Тут і лакальная традыцыя разумення функцый жанчыны ў соцыуме. І яе шлюб з алігархам, які з часам пайшоў у палітыку і стаў галоўным апанентам Назарбаева. Яе імя таксама звязанае з шэрагам гучных бізнес-афёраў. Таму не ўсе прадстаўнікі бізнес-эліты і мясцовыя кланы будуць падтрымліваць такое прызначэнне. Калі стаўка сапраўды зробленая на Дарыгу, то наўрад ці ўлада будзе асабліва звяртаць увагу на кепскі эканамічны фон і незадавальненне грамадзян. Прыклад таму — цяперашняя падрыхтоўка да датэрміновых выбараў у парламент. У іншай краіне ў падобных умовах такое мерапрыемства адтэрмінавалі б, баючыся ўсплёску незадаволення.

***— Агульнавядома, што наступствам падаўлення страйку ў Жанаазене стала зачыстка казахскай апазіцыі. Ці рэшткі апазіцыйнага руху неяк рэагуюць на крызіс?***

— Пасля Жанаазена апазіцыя цалкам перайшла ў фармат клубу дысідэнтаў. Як следства, увесь яе цяперашні пратэст абмежаваны гнеўнымі артыкуламі ў інтэрнэце. Ілюстрацыяй маргіналізацыі апазіцыі стаў казус Жамбыла Калаува. Гэты непрыкметны чыноўнік з Чымкенту нечакана стаў франтменам антыназарбаеўскай апазіцыі. Ён размясціў у сеціве запіс, у якім захапляўся адміністратыўнымі метадамі Аляксандра Лукашэнкі. У вертыкалі сімпатыі да замежнага гаранта палічылі замахам на аўтарытэт Назарбаева і выключылі Жамбыла з прэзідэнцкай партыі «Нур-Атан». Гэты скандал стаў падзеяй нацыянальнага маштабу.

***— Як дзяржаўная прапаганда намагаецца апраўдаць дэвальвацыю?***

— Назарбаеў асабіста заклікаў суайчыннікаў канстатаваць суровую рэчаіснасць — з улікам нізкіх коштаў на нафту і газ, краіна вымушаная зацягнуць паясы. Таксама ў афіцыёзе пачалася кампанія супраць спажывання імпартных тавараў, старт якой даў таксама прэзідэнт. Падчас сустрэчы з працоўнымі ён заклікаў грамадзян не набываць у тым ліку бананы, фуа-гра і лэндкрузеры. Заклік Елбасы выклікаў шквал абурэння ў сацсетках і стаў нагодай для розных жартаў і дэматыватараў. Напрыклад, юзеры заклікаюць Назарбаева растлумачыць народу, што такое фуа-гра?

***— Некаторыя палітолагі прагназуюць, што ў постсавецкіх краінах Цэнтральнай Азіі можа з'явіцца новы палітычны актор — Ісламская дзяржава. Яны лічаць, што казахі, узбекі, таджыкі, якія зараз змагаюцца ў Іраку і Сірыі пад сцягамі ісламістаў, могуць з часам імпартаваць мадэль радыкальных ісламскіх рухаў на свае радзімы. Ці крах тэнге спрые пашырэнню папулярнасці экстрэмісцкіх поглядаў?***

**50%**

**даходаў бюджэту Казахстана і 60% экспарту прыходзіцца на нафтавы сектар гэтай краіны**

— Пакуль людзі ў моцным шоку і не ў стане думаць пра такія экзатычныя рэчы, як Ісламская дзяржава. Акрамя таго, больш за ўсё мусульман у Казахстане жыве на поўдні, дзе эканамічная сітуацыя хранічна цяжкая. Там, у параўнанні з іншымі рэгіёнамі, менш людзей трымаюць сродкі ў валюце, і пытанне пра тое, дзе набыць долары, для іх не такое праблематычнае.

***— Якія прагнозы наконт развіцця сітуацыі?***

— Усё залежыць ад таго, як дэфолт паўплывае на кошты. Пакуль улады намагаюцца адміністратыўна стрымліваць іх рост, аднак, думаецца, наўрад ці атрымаецца доўгі час трымаць кошты замарожанымі. У любым выпадку, народ вельмі незадаволены і раз'юшаны. Я думаю, што гэты калектыўны гнеў будзе так ці інакш праяўляцца, выйдзе за межы кухняў і інтэрнэт-форумаў. Праўда, якія канкрэтна формы ён набудзе, мне пакуль сказаць цяжка.

## ЯНЫ ПРА НАС. ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

Расія прасоўвае свой план стварэння ваеннай авіябазы ў Беларусі, узмацняючы апасенні аб патэнцыйных пагрозах Польшчы і краінам Балтыі. Рашэнне аб размяшчэнні базы з'яўляецца апошнім прыкладам рашучасці Масквы зацвердзіць сваю прысутнасць па-за сваімі межамі і аднавіць ваенны патэнцыял, што моцна пацярпеў пасля распаду Савецкага Саюза 24 гады таму.

**«The Financial Times» (Вялікабрытанія)**

У 2014 годзе ўлады Беларусі праігнаравалі 75-годдзе ўз'яднання Заходняй Беларусі з БССР, на чарговую гадавіну знамянальнай падзеі звярнулі ўвагу толькі навукоўцы, публіцысты і прадстаўнікі творчай інтэлігенцыі. У 2015 годзе «ідэалагічная вертыкаль» постсавецкай рэспублікі зноў замоўчвае значэнне вызвольнага паходу РККА ў 1939 годзе. Пры гэтым усе чатыры зарэгістраваных кандыдата ў прэзідэнты Беларусі ў сваіх праграмах заявілі пра важнасць захавання незалежнасці постсавецкай рэспублікі, тэрыторыя і насельніцтва якой падвоіліся пасля 17 верасня 1939 года.

**REGNUM (Расія)**

Зараз у Беларусі з абяцаннямі і іх выкананнем не вельмі добра. І даводзіцца ціснуць на суверэнітэт як самастойную каштоўнасць. А ўсё для таго, каб патлумачыць, што будзе суверэнітэт — будуць падачкі і ад Масквы, і ад Еўропы ды Штатаў. Таму Лукашэнка імкнецца парваць з РФ усе кантакты.

**«Люди» (Украіна)**

Аналіз вопыту расійска-беларускага ўзаемадзеяння па адчувальных для Мінска пытаннях дае экспертам падставы меркаваць, што лёс пагаднення аб расійскай авіябазе будзе няпросты, а прыняцце Расіяй рашэння яшчэ нічога не значыць. Можа паўтарыцца гісторыя з прызнаннем Абхазіі і Паўднёвай Асеціі або рэалізацыяй сумесных прыватызацыйных праектаў. Парламент, які павінен ратыфікаваць пагадненне, раптам праявіць раней не бачаныя цуды самастойнасці.

**«Независимая газета» (Расія)**

Рашэнне аб авіябазе прынята на фоне напружанасці ў адносінах з Захадам з-за ўдзелу Расіі ў канфлікце ва Украіне і Сірыі, на думку аналітыкаў, таксама можа сігналізаваць цікавасць Крамля да захавання непрадказальнай Беларусі ў межах геапалітычнай арбіты Крамля. Лукашэнка карыстаецца рэпутацыяй непрадказальнага партнёра Крамля, паколькі неаднаразова падрываў яго давер праз заляцанні да Захаду.

**«Voice of America» (ЗША)**

ЕС наўрад ці здыме ўсе санкцыі за адзін прысест. Сцэнарыі, якія разглядаюцца экспертамі, уключаюць наступныя версіі: намінальнае падаўжэнне санкцый на адзін год, якое суправаджаецца часовым шасцімесячным прыпыненнем, як было ў 2008 годзе, ці ж «выкрэсліванне» са спісу пэўнай колькасці ўрадавых чыноўнікаў або кампаній, уключаючы самога прэзідэнта Лукашэнку.

**«Финансовая газета» (Расія)**

Такім чынам, авіябазе быць. І быць ёй літаральна пад самым носам у NATO, у 140 кіламетрах ад мяжы з ЕС. Па сутнасці, Лукашэнка з міратворца ператвараецца ў партнёра агрэсара. Не самы лепшы ход, пагадзіцеся, але іншага выйсця ў яго таксама няма, бо рукі звязаны «саюзным дагаворам». А ў выпадку яго разрыву ў Беларусі «зялёныя чалавечкі» апынуцца на раз, два, тры. Улічваючы менталітэт насельніцтва, немалая частка як грамадзянскіх, так і прадстаўнікоў сілавых структур прыме іх з распасцёртымі абдымкамі. Пры гэтым у абарону Беларусі, якая пакуль яшчэ застаецца дэ-факта апорай апошняга тырана Еўропы, ніхто не заступіцца. Вось такая дылема.

**«24ua» (Украіна)**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### Украіна. Свіння не прарвалася ў сінагогу

Як вядома, у верасні ва ўсім свеце іудзеі святкавалі Рош-а-Шана — іудзейскі Новы год. Святкавалі яго таксама ва ўкраінскім горадзе Умань, дзе знаходзіцца магіла прарока Нахмана, аднаго з самых вялікіх аўтарытэтаў хасідскага руху. Не дзіўна, што ў гэты час Умань наведваюць дзясяткі тысяч пілігрымаў, галоўным чынам з Ізраілю. У гэтым годзе Рош-а-Шана ва Умані аказаўся азмрочаны вылазкамі ўкраінскіх правых радыкалаў. Яны перыядычна нападалі на намётавы лагер хасідаў, валілі слупы электраперадач, білі камеры відэаназірання... Аднак гэта было дробязззю ў параўнанні з каварным планам, якія антысеміты задумалі ўвасобіць непасрэднага перад святам. У прэсу трапіла інфармацыя, што экстрэмісты збіраюцца запусціць у мясцовую сінагогу свінню, якая, як вядома, лічыцца ў іудаізме бруднай жывёлай. Акцыя са свіннёй — не проста хуліганства. Паводле Талмуду, калі ў сінагогу патрапіць свіння, праводзіць рытуальныя мерапрыемствы там нельга будзе 200 гадоў. Не дзіўна, што ўся хасідская грамадскасць узяла сінагогу пад абарону. У выніку ніякіх правакацый не адбылося. Праўда, магчыма, мабілізацыя хасідаў была лішняй. Правакацыю маглі сарваць жыхары Умані, якія даўно і стабільна зарабляюць на пілігрымцы на магілу Нахмана. У разгар Рош-а-Шана кватэру ў горадзе можна здаць у арэнду па 300 долараў за суткі.

**Паводле ўкраінскай прэсы**

### Венесуэла. Чавес і школа

Міністэрства адукацыі Венесуэлы даслала на месцы інструкцыі, паводле якіх з наступнага года даты нараджэння і смерці Уга Чавеса маюць быць асаблівымі для вучэбных устаноў краіны: 18 ліпеня і 5 сакавіка — адпаведна, дзень нараджэння і смерці Уга — дзеці ў рамках спецыяльнага ўроку павінны ўзгадваць былога прэзідэнта. Кожны маленькі венесуэлец павінен будзе ў гэты дзень напісаць твор на тэму жыцця Чавеса. Прычым пець асану Чавесу ў школах будуць не адзін дзень, а яшчэ ўвесь наступны тыдзень. Натуральна, ідэя не выклікала захаплення ў апазіцыі, якая пабачыла ў пастанове Мінадукацыі праяву культу асобы. Калі верыць апазіцыі, наступным крокам сацыялістычнага ўраду стане абвяшчэнне 18 ліпеня і 5 сакавіка афіцыйнымі чырвонымі датамі календара. У сваю чаргу, чавісты звяртаць увагу на тое, што ў школах адзначаюцца не толькі ключавыя даты біяграфіі іх куміра. Таксама ў школах будуць згадвацца даты з біяграфій іншых значных фігур у венесуэльскай гісторыі.

**Паводле іспанскай прэсы**

### Вялікабрытанія. Гітлер быў мігрантам?

У пошуках аргументаў супраць мігрантаў, якія спрабуюць атрымаць прытулак у Вялікабрытаніі, сакратар замежных спраў Філіп Хаманд выпадкова анімаваў забытую версію пра развязку жыцця Гітлера. Ён згадаў, што ў свой час Скотленд-Ярд шукаў Гітлера сярод імігрантаў, якія рваліся ў краіну пасля вайны. Паводле розных спекуляцый, фюрэр не пакончыў жыццё самагубствам, а схаваўся на тэрыторыі Вялікабрытаніі. Для гэтага ён таксама скарыстаўся статусам уцекача, ахвяры вайны і нацызму. Аперацыя мела месца яшчэ да падзення Берліну, у красавіку 1945 года. Тады германскія спецслужбы, быццам, інфільтравалі Гітлера ў групу венгерскіх яўрэяў, якая праз Францыю перабралася на Альбіён. Паводле Хаманда, гэта сведчыць пра пагрозу нацыянальнай бяспецы, якую ўяўляюць імігранты, з той розніцай, што ў 1945 годзе пад соусам уцекача мог правраўцца Гілер, а ў 2015-м — тэрарысты-ісламісты. Экскурс палітыка ў мінулае выклікаў рэзананс сярод гісторыкаў, якія зноў кінуліся распрацоўваць версіі смерці Гітлера.

**Паводле брытанскай прэсы**

### Арменія. Сірыйцаў запрашаюць у Карабах

Азербайджанская прэса баіцца, што міграцыйны крызіс на Блізкім Усходзе можа ўсур'ёз узмацніць пазіцыі Арменіі ў Карабаху — афіцыйна азербайджанскай тэрыторыі, якая кантралюецца армянамі. Паводле некаторых крыніцаў, у Ерэване падрыхтаваны план засялення гэтага краю сірыйскімі грамадзянамі, які ёсць этнічнымі армянамі. На цяперашні дзень у Арменію з Сірыі перабралася ўжо 20 тысяч этнічных армян. Тыя, хто не здольны ехаць далей у Еўропу, пагаджаюцца адпраўіцца ў Карабах у рамках спецыяльнай урадавай праграмы. Праблема, на думку Баку, настолькі сур'ёзная, што яе плануюць агучыць у ААН. Так, азербайджанскі прадстаўнік праз Асамблею афіцыйна заявіў: «Ёсць дадзеныя, што пэўная катэгорыя сірыйскіх бежанцаў перасяляецца на іншыя тэрыторыі, дзе ёсць канфлікт. Яны пасяляюцца на землях, якія былі вымушаныя пакінуць людзі, якія пражывалі там спрадвечна». Акрамя ААН, Баку паскардзіўся саюзнай Анкары. Дырэктар турэцкага МУС ужо паабяцаў прыняць меры, каб не прапускаць армянскіх уцекачоў з Сірыі, якія выкарыстоўваць Турцыю ў якасці транзітнай краіны на шляху ў Арменію.

**Паводле азербайджанскай прэсы**



# Крызіс мігрантаў. Наступствы для СНД

*Алег НОВІКАЎ*

**Міграцыйны крызіс у Еўропе зменіць выгляд еўрапраекту. Адначасова будуць мяняцца і праеўрапейскія рухі ў краінах СНД.**

Дзяржавы СНД пакуль што засталіся па-за рамкамі другой рэдакцыі вялікага перасялення народаў (колькасць тых жа сірыйскіх нелегальных бежанцаў на тэрыторыі былых савецкіх рэспублік вымяраецца максімум сотнямі). Параўнайце з сотнямі тысяч сірыйцаў, якія зараз штурмуюць балканскую лінію кардону ЕС. Такая калькуляцыя ў прынцыпе лагічная — нават Венгрыю ўцекачы з Блізкага Усходу разглядаюць як транзітны вузел на шляху да заможнай Германіі ці сацыяльна прасунутай Швецыі. Аднак гэта не значыць, што націск мігрантаў на Еўропу не паўплывае на расклады ў нашых палесцінах. Новая мадэль палітычнага дыскурсу і расстаноўкі палітычных сіл унутры краін ЕС — наступства цяперашняга цунамі мігрантаў — адвадочна падкарэктуюць нашы погляды на ЕС і яго імідж.

Адно з пытанняў, якое паўстае ў гэтай сувязі: ці еўраінтэграцыя застанецца компасам для значнай часткі грамадстваў у постсавецкіх краінах? Еўрафілія як больш-менш аформлены ідэалагічны напрамак сфармавалася ў краінах СНД яшчэ ў часы перабудовы. Яе вага ў дэбатах падтрымліваецца ў тым ліку наборам фактаў і міфаў, некаторыя з якіх з'яўляюцца патэнцыйнымі мішэнямі наступстваў цяперашняга міграцыйнага крызісу.

Перш за ўсё, гэта старая тэма адмены візаў — мара ўсіх прыхільнікаў ЕС. Па ходу развіцця міграцыйнага крызісу сама шэнгенская зона пачала дыхаць на ладан. У барацьбе з трафікам мігрантаў нацыянальныя МУС вольна або нявольна адбудоўваюць старыя памежныя бар'еры. Адначасова становіцца актуальным пытанне пра больш жорсткі вонкавы кантроль. Найбольш балюча ўспрымаецца такая тэндэнцыя ва Украіне, дзе рэйтынг постмайданаўскага ўраду шмат у чым трымаецца на абяцанках хуткага бязвізавага рэжыму з краінамі ЕС.

Цяжка сказаць, наколькі Украіна сапраўды наблізілася да крытэрыяў, якія дазваляюць адмяніць украінцам візы, аднак зараз усе прызнаюць, што

**Ужо зараз у прэсе актыўна прасоўваецца тэзіс «Заняпаду Еўропы». На думку яго прыхільнікаў, еўрапейская ментальнасць будзе разбураная масавай мусульманскай інтэрвенцыяй**

давесці справу да паспяховага фіналу будзе вельмі складана. Выданне УНІАН піша: «Няма сур'ёзных перспектыў увядзення бязвізавага рэжыму ў бліжэйшы час. У Еўропы свае праблемы з мігрантамі, яна будзе павышаць стандарты для краін-суседзяў. Міграцыйная палітыка будзе больш жорсткай, і тэзіс пра бязвізавы рэжым можа быць перагледжаны і нівеліраваны».

Важную ролю для падтрымкі праеўрапейскіх настрояў на прасторах Беларусі гуляла сталае намаганне Еўропы ўключыць беларусаў у свой цывілізацыйны код. Адсюль розная кшталту праграмы, семінары, курсы і г.д. Абсалютна не зразумела, як гэтыя інстытуты будуць функцыянаваць, калі да ўлады ў ЕС дарвуцца антыеўрапейскія і ксенафобскія партыі, глебу для трыумфу якіх стварае міграцыйны крызіс. Прыкладам можа быць цяперашняя Венгрыя. Абапіраючыся на фобіі сярэднестатыстычнага жыхара Венгрыі, нацыяналісты з партыі «YOBBIK» прымушаюць урад звяртацца да ўсё больш радыкальных антыміграцыйных захадаў, замацоўваючы свае пазіцыі і светапогляд на палітычнай сцэне.

Падобная ўстаноўка на нацыянальную самаізаляцыю, фабрыкацыя атмасферы калектыўнага жаху перад чужымі ў перспектыве будзе ўскладняць дыялог з грамадзянскай супольнасцю краін СНД, тармазіць сістэмную падтрымку культурна-адукацыйных праграм на Усходзе.

Нарэшце, ужо зараз у нашай і заходняй прэсе актыўна прасоўваецца тэма «Заняпаду Еўропы». На думку прыхільнікаў гэтага тэзісу, еўрапейская ментальнасць у сярэднетэрміновым часе будзе разбураная цяперашняй масавай мусульманскай інтэрвенцыяй, якая цягне з сабой у Еўропу абсалютна варожыя ёй каштоўнасці. Прапануюцца самыя жудасныя сцэнары заўтрашняга дня. «На насельніцтва Еўропы насоўваецца велізарная колькасць мігрантаў, не гатовых да еўра-амерыканскай цывілізацыі і якія мяркуюць пры гэтым, што іх чакае росквіт без працы. (...) У ЕС выдаюць мільёны новых інструкцый, але што рабіць з мусульманамі, ніхто не ведае. Гэтыя людзі ўсё больш агрэсіўныя, таму што нічога іншага ім не застаецца. Часцяком яны нічога больш і не ўмеюць», — мяркуе чэшскі «Neviditelny pes».

Хаця падобныя тэксты чымсці нагадваюць пуцінскія агіткі супраць «гейропы», пэўны эфект на грамадскую думку яны маюць. У тым ліку таму, што існуюць сур'ёзныя падставы казаць пра крах еўрапейскай мадэлі інтэграцыі іншаземцаў. Галоўнае, аднак, тут тое, што прамоўтэрамі такіх тэзісаў выступае якраз частка праеўрапейскай, нацыянал-ліберальнай інтэлігенцыі. Нацыянал-лібералы, з аднаго боку, лічаць сябе еўрапейцамі, а з іншага — публічна ставяць крыж на Еўропе, куды, тэарэтычна, ім наадварот трэба ўсімі сіламі імкнуцца.

Апісаныя канцэптуальныя нестасоўкі і параліч некаторых атракцый з боку ЕС і будзе спрыяць перазагрузцы цяперашняга праеўрапейскага руху ў краінах СНД, які доўгі час спрабаваў аб'яднаць нацыяналізм і лібералізм. У прынцыпе, нічога жудаснага ў гэтым няма.

# Шатландыя. Год пасля рэферэндуму

Алег НОВІКАЎ

**Год таму шатландцы не падтрымалі праект выхаду краю са складу Аб'яднанага Каралеўства. Аднак, падаецца, новы рэферэндум не за гарамі.**




Калі 18 верасня 2014 года сталі вядомыя вынікі рэферэндуму (45% — за незалежнасць і 55% — супраць), нават самыя вялікія аматары незалежнай Шатландыі максімальна асцярожна казалі пра перспектывы. Прынамсі, Алекс Салманд, шатландскі прэм'ер ад Партыі нацыяналістаў (SNP), пабаяўся называць якую-небудзь канкрэтную дату наступнай спробы абвясціць суверэнітэт. Як пісала прэса, у кіраўніцтве SNP разумелі, што другі запар правал можа паставіць крыж на незалежніцкім праекце на доўгі час.

Нацыяналісты замест гэтага акцэнтавалі ўвагу на вялікім працэнце тых, хто прагаласаваў «за», на тым факце, што колькасць сяброў SNP у выніку кампаніі вырасла ў тры разы і г.д. Сапраўды, 45 працэнтаў тых, хто падтрымаў на рэферэндуме прапанову SNP — гэта вельмі шмат, калі ўзгадаць, што яшчэ 20–30 гадоў таму шатландцы ў большасці былі нават супраць стварэння Holyrood (шатландскі парламент).

Нацыянальным канцэпцыям не спрыяе і глабальная эканамічная кан'юнктура. Падзенне сусветных коштаў на нафту пазбавіла Салманда і яго аднадумцаў іх галоўнага агітацыйнага козыру — за кошт эксплуатацыі шатландскіх карысных выкапняў у Паўночным моры забяспечыць у незалежнай Шатландыі сацыяльныя стандарты не меншыя за нарвежскія і стварыць гарантыі для моцнай мясцовай валюты. Паводле разлікаў эканамістаў, нізкія кошты на энерганосьбіты ўжо зараз стварылі дзірку ў шатландскім бюджэце памерам у 7 мільярдаў фунтаў, якую можна кампенсаваць выключна за кошт датацый з Лондану.

Аднак праз год, нягледзячы на ўзгаданыя мінорныя абставіны, тэма магчымага хуткага рэферэндуму пра незалежнасць не знікае з павесткі дня. Пра гэта сведчаць вынікі апытанняў, якія прыводзіць выданне «Financial Times». У выпадку правядзення новага апытання на гэты конт каля 44 працэнтаў шатландцаў аддадуць голас за суверэнітэт краю. Столькі ж прагаласуюць супраць. Што дае глебу для падтрымання і нараджэння новых незалежніцкіх ілюзій?

Перш за ўсё, крызіс цяперашняй брытанскай палітычнай эліты, якая год таму была прамоўтарам кампаніі «Better together». Сёння «юніяністы» знаходзяцца ў дэмаралізаваным стане.

**Як адзначаюць палітолагі, у Шатландыі пачаўся працэс «Ulsterification» — фармавання адрознай ад англійскай палітычнай канфігурацыі**

Лепшым маркерам тут ёсць нядаўняе трыумфальнае абранне на пасаду лідара галоўнай апазіцыйнай партыі Джэрымі Корбана (Jeremy Corbyn). Як прызнаюць архіварыусы, яшчэ ніколі ў партыйнай гісторыі, нават у часы славутага брытанскага ўсеагульнага страйку 1926 года, лейбарысты не мелі такога левардыкальнага правадыра. Сам Корбан, хаця і браў удзел у «Better together», не супраць пашырэння аўтаномных свабодаў Шатландыі.

Вельмі кепска выглядаюць у вачах грамадства і кансерватары — галоўная партыя, якая абараняе існуючую мадэль англа-шатландскай уніі. Можна пачаць з таго, што торы вельмі шмат інвеставалі ў стварэнне іміджу нашчадкаў імперскай традыцыі, у тым ліку, каб прыцягнуць інтарэс выбаршчыкаў Партыі незалежнасці Аб'яднанага Каралеўства (UKIP). Каб трымаць марку, яны часам робяць вельмі супярэчлівыя заявы — аж да заклікаў абмежаваць аўтаномію краю, што ўнутры Шатландыі не падабаецца ўмераным аматарам англа-шатландскай інтэграцыі.

Свой унёсак у імкліва нарастаючую кампраметацыю торы нясе так званы «Piggate». Гэта мегаскандал вакол персоны кіраўніка кабінету, які выбухнуў на пачатку тыдня. Выбуховым рэчывам сталі апублікаваныя фрагменты мемуараў Майкла Ашкрафта (Michael Ashcroft), аднаго з аднакурснікаў Дэвіда Кэмерана. Калі верыць Майклу, прэм'ер у часы бурнай маладосці браў удзел у брутальных студэнцкіх рытуалах. У тым ліку, для ўступлення ў нейкую арганізацыю ўкладаў інтымныя часткі цела ў галаву мёртвай свінні.

З-за ўпартага маўчання з Даўнінг-Стрыт «Piggate» з кожнай хвілінай набірае абароты, а яго вынікі спрагназаваць вельмі цяжка. У тым ліку таму, што сама кніга трапіць у крамы толькі ў кастрычніку, а яе асноўнай фішкай стане анансаванне выдаўцамі змешчанага на старонках фота прэм'ера і галавы свінні. Так ці інакш, на тле разбэшчанасці лонданскай эліты шатландскія палітыкі выглядаюць сапраўднымі маралістамі.

Як адзначаюць палітолагі, па сутнасці ў Шатландыі пачаўся працэс «Ulsterification» — фармавання адрознай ад англійскай палітычнай канфігурацыі, якая даўно існуе ў Ольстары (Паўночная Ірландыя). Там усё верціцца вакол канкурэнцыі праірландскіх рэспубліканцаў і пратэстантаў. Нешта падобнае цяпер чакае і Шатландыю, дзе асноўнымі апанентамі выступаюць нацыяналісты і лейбарысты.

Тэмпы дрэйфу грамадскай думкі ў бок падтрымкі незалежнасці могуць паскорыць або прытармазіць дзве рэчы. Гэта мясцовыя выбары ў Шатландыі ўвесну наступнага года. Новы лідар SNP Нікола Старджэн (Nicola Sturgeon) заявіла, што ў выпадку перамогі яе партыі гатовая прызначыць новы рэферэндум на працягу наступных 5–10 гадоў. Другі фактар — вынік рэферэндуму аб выхадзе Вялікабрытаніі са складу ЕС, які плануюць правесці ў 2017 годзе. Па сутнасці, гэта будзе правобраз плебісцыту пра давер цэнтральнаму ўраду, паколькі шатландскія нацыяналісты бачаць край часткай Еўрасаюзу.

Калі большасць шатландцаў прагаласуе супраць выхаду, то, кажучы словамі аднаго з палітолагаў, пачне цікаць часавая бомба — SNP, натхнёная гэтымі лічбамі, пачне планаваць новы рэферэндум. «Financial Times» лічыць, што новы рэферэндум наконт незалежнасці Шатландыі адбудзецца ў 2025 годзе.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Эва Копач



Прэм'ер-міністр Польшчы заявіла, што Польшча рызыкуе ў хуткім часе быць выключанай са складу ЕС. Такі сцэнар, па яе словах, магчымы, калі праз 5 тыдняў на парламенцкіх выбарах палякі прагаласуюць за кансерватараў. Апошнія ў асобе іх лідара Яраслава Качыньскага рашуча супраць размяшчэння ў краіне імігрантаў з Блізкага Усходу па квоце, якую прапануе Брусэль. Як сцвярджае Качыньскі, мусульмане-ўцекачы — пагроза польскаму ладу жыцця, і згода на іх прыбыццё закончыцца стварэннем у краіне прававаых рэзервацый, дзе будуць дзейнічаць законы шарыяту. Качыньскі таксама пераклаў усю адказнасць за крызіс на немцаў, якія паабяцалі прымаць імігрантаў з Усходу. Заявы Канчыньскага, чыя партыя «Права і Справядлівасць» (PiS) — стоадсоткавы фаварыт выбараў, вельмі рэзка каментуе нямецкая і французская прэса. Гэтым, напэўна, і намагаюцца скарыстацца лібералы, якія палохаюць палякаў тым, што Польшча згубіць рэпутацыю і давер у Еўропе, прычым у час вялікай нестабільнасці на яе ўсходніх межах. Тэма іміграцыі толькі стала топавай у польскай выбарчай кампаніі, і таму пакуль цяжка сказаць, які падыход — нацыяналістычны або ліберальны — пераможа. Застаецца дадаць, што Польшча — краіна з вельмі маленькім па еўрапейскіх мерках працэнтам мігрантаў. За апошнія 10 гадоў у 38-мільённую краіну прыехала ўсяго сто тысяч чалавек.

### Рустам Мініханаў



Кандыдат ад партыі «Адзіная Расія» на выбарах прэзідэнта Татарстана перамог на прэзідэнцкіх выбарах. З улікам таго, што Рустам Мініханаў і раней займаў пасаду татарскага гаранта, навіна падаецца не цікавай. Аднак на самай справе выбары Мініханава сталі значным поспехам татарскіх нацыяналістаў. Апошнія выбары былі першымі прамымі выбарамі прэзідэнта рэгіёна за 14 гадоў. Раней татарскага прэзідэнта папросту прызначаў прэзідэнт Расіі як звычайнага губернатара вобласці. Па-другое, Масква перастала патрабаваць, каб з татарскай Канстытуцыі знікла слова «прэзідэнт», што, маўляў, супярэчыць Канстытуцыі РФ, дзе гаворыцца, што прэзідэнт у краіне адзін. Гэтыя саступкі звязваюць з глабальнымі палітычнымі трэндамі, калі Крамлю трэба пазбягаць унутраных этнічных канфліктаў, і перш за ўсё з татарамі — другой нацыяй у Расіі. З іншага боку, гучыць трывога, што перамога чыноўнікаў з Казані можа прывесці да рымейка «кадыраўшчыны», калі цэнтр у падзяку за лаяльнасць стане заплюшчваць вочы на ўсе выбрыкі намесніка. Пра такую пагрозу сведчыць незвычайны ўчынак татарскіх афіцыйных журналістаў. Той факт, што Рустам Мініханаў атрымаў на выбарах 94 працэнты, дазволіў мясцовым журналістам увесці ў абыход новую для яго мянушку. Цяпер яго пачалі называць «народны прэзідэнт». Праўда, трэба прызнаць, што ў старога-новага татарскага лідара сапраўды ёсць дасягненні. Менавіта пры ім Татарстан прыняў першую ў гісторыю Расіі Універсіяду.

### Бен Карсан



Прэтэндэнт на кандыдата ў прэзідэнты ЗША ад Рэспубліканскай партыі, адзіны чарнаскуры рэспубліканец, які балатуецца на вышэйшую ў краіне пасаду, вядомы сваімі хрысціянскімі фундаменталісцкімі поглядамі, выйшаў на другое месца па папулярнасці сярод прэтэндэнтаў-рэспубліканцаў з 20 працэнтамі падтрымкі. Гэтая падзея выклікала істэрыку сярод амерыканскіх палітолагаў. Справа ў тым, што Карсан атрымаў рост свайго рэйтынгу, дзякуючы агрэсіўнай, папулісцкай рыторыцы, як і Дональд Трамп — лідар апытанняў (34 працэнты папулярнасці). У той час, як Трамп абяцае выслаць усіх імігрантаў з Лацінскай Амерыкі, Карсан прайшоўся па мусульманах. У прыватнасці, ён заявіў, што іслам супярэчыць прынцыпам амерыканскай канстытуцыі і, як следства, вернікі ісламу не могуць быць гаспадарамі ў Белым Доме. Натуральна, гэта тэма выклікала скандал, які, аднак, як сведчаць дадзеныя сацыёлагаў, толькі ўзняў аўтарытэт Карсана сярод электарату рэспубліканцаў. Прычым пакуль ніякіх адзнакаў таго, што лідарства ў рэспубліканскім праймерыз можа перахапіць нейкі палітык з умеранымі права-цэнтрысцкімі поглядамі, няма. Каментуючы феномен Трампа-Карсана, прэса нават піша пра хуткі раскол партыі на кансерватыўную і цэнтрысцкую фармацыі. Найбольш далёка ў ацэнках таго, што адбываецца, пайшла «Washington Post», якая наўпрост напісала, што рэспубліканцы хворыя на галаву.



Эміграцкая пошта. Разбураная Варшава



Савецкая марка 1940 года да ўз'яднання Беларусі



Марка 1932 года з партрэтамі Вашынгтона, Касцюшкі і Пуласкага



Марка ў памяць Ю. Пілсудскага



Марка Пошты Гданьскай



Марка эміграцкага ўрада



Марка з выявай пілотаў Жвіркі і Вігуры



Эміграцкая марка з надпісам «Монтэ-Касіна»



Монтэ-Касшна, 1944 год

# Гісторыя ў паштовых марках



Ігар МЕЛЬНІКАЎ

**Часам малапрыкметная марка на канверце можна расказаць нам цэлую гісторыю пра легендарных пілотаў ці вядомага героя паўстання. Прапаную вам гістарычнае падарожжа па марках з маёй калекцыі.**

Год таму на адным з аўкцыёнаў я набыў цікавы артэфакт — паштоўку, адпраўленую ў жніўні 1930 года грамадзянінам Францыі свайму знаёмаму ў Парыж.

«Шаноўны спадар! Дасылаю Вам гэтае пасланне з мяжы паміж Польшчай і Расіяй у Стоўбцах. Сюды я даехаў без асаблівых праблем», — пісаў француз да дому. Да карткі прыклеена марка 1925 года (коштам у 30 грошаў), на якой бачна выява помніка каралю Рэчы Паспалітай Яну III Сабескаму ў Львове.

У гэтага помніка вельмі цікавая гісторыя. Ён з'явіўся ў сталіцы Галіцыі ў 1898 годзе. Як вядома, у міжваеннае дваццацігоддзе Львоў уваходзіў у склад Другой Рэчы Паспалітай, але ў выніку «вызвольнага паходу Чырвонай Арміі ў Заходнюю Беларусь і Заходнюю Украіну» апынуўся ў складзе СССР. Такі статус-кво захаваўся і пасля Другой сусветнай вайны. У 1950 годзе савецкія ўлады вырашылі «вярнуць» помнік палякам. Пасля гэтага «кароль» на некаторы час прапісаўся ў Варшаве, а ў 1965 годзе быў перавезены ў Гданьск, дзе знаходзіцца па сённяшні дзень.

У 1932 годзе з нагоды 200-годдзя з нараджэння Джорджа Вашынгтона Пошта Польская выпусціла ў свет марку з выявай першага прэзідэнта ЗША, побач з якім знаходзіліся партрэты кіраўніка паўстання 1794 года Тадэвуша Касцюшкі і генерала кантынентальнага войска, удзельніка барацьбы за незалежнасць Злучаных Штатаў Казіміра Пуласкага. Менавіта гэтая марка наміналам у 30 грошай апынулася на канверце, які атрымаў адзін з жыхароў Кобрына ў 1934 годзе.

У 1933 годзе ў Польшчы была выпушчана марка ў памяць пра славутых польскіх пілотаў Франца Жвірку і Станіслава Вігуру, якія годам раней на самалёце RWD-6 перамаглі ў прэстыжных авіяцыйных спаборніцтвах «Challenge 1932» у Берліне. Пры гэтым авіятары з Другой Рэчы Паспалітай былі лепшыя за калег з Германіі і Францыі.

Мала хто ведае, што легенда польскай авіяцыі, Франц Жвірка нарадзіўся ў Свянцянах на Віленшчыне. Падчас Першай сусветнай вайны ён ваяваў у складзе Рускага імператарскага войска, пазней у арміі Антона Дзянікіна. У верасні 1921 года Франц перайшоў савецка-польскую мяжу і хутка пасля гэтага паступіў на службу ў Войска Польскае.

Падчас палёту ў Чэхаславакію восенню 1932 года самалёт, якім кіравалі Жвірка і Вігура, разбіўся. Пілоты загінулі і з вайсковымі ўшанаваннямі былі пахаваны на могілках Павонзкі ў Варшаве.

## Смерць Пілсудскага і госці з Румыніі

У траўні 1935 года памёр Юзаф Пілсудскі. У памяць пра гэту падзею Пошта Польская выпусціла «жалобную» марку наміналам у 25 грошай. «Гэтая марка карыстаецца попытам як сярод айчынных, так і замежных філатэлістаў», — адзначалася ў артыкуле, надрукаваным у майскім нумары (за 1935 год) часопіса «Святавід».

У гэтым жа годзе ў калекцыях тагачасных філатэлістаў з'явіліся маркі з выявамі розных архітэктурных аб'ектаў, размешчаных на тэрыторыі міжваеннай Польшчы. Сярод іншых на знаках паштовай аплаты былі выявы Кафедральнага сабора ў Вільні, а таксама Мірскага замка. Праз два гады з'явіліся новыя маркі з гэтай серыі. На адной з іх быў намаляваны ўніверсітэт у Львове.

У 1937 годзе ў Польшчу з афіцыйным візітам прыехаў спадчыннік румынскага прастола, прынц Міхай І. Пазней у Польшчу прыязджаў і румынскі кароль Караль ІІ (бацька Міхая). У гонар гэтых візітаў Пошта Польская выпусціла памятныя блокі з выявай прэзідэнта Ігнацыя Масціцкага, маршала Эдварда Рыдз-Сміглы, а таксама «начальніка дзяржавы» Юзафа Пілсудскага. Акрамя малюнкаў палітыкаў, на блоках былі выявы польскага і румынскага гербаў, а таксама даты 26.VI – 1.VII 1937.



Цяжка сказаць, як гэтыя артэфакты апынуліся ў кнізе з Бібліятэкі Палескага ваяводства ў Брэсце. Відавочна, нехта выкарыстоўваў іх як закладкі. Пазней пра тую кнігу ўсе забылі, і ўрэшце зараз яна ў маёй калекцыі разам з паштовымі блокамі 1937 года.

У 1938 годзе Другая Рэч Паспалітая адзначала дваццацігоддзе атрымання незалежнасці, і ў гонар гэтай падзеі была выдадзена серыя марак з выявай ключавых этапаў развіцця польскай дзяржаўнасці. Так, адна з іх была прысвечана заключэнню Люблінскай уніі 1569 года паміж Каралеўствам Польскім і Вялікім Княствам Літоўскім. Таксама ў гэтай серыі былі маркі, прысвечаныя прыняццю Канстытуцыі 3 мая 1791 года, Лістападаўскаму і Студзеньскаму паўстанням. Сваістым працягам было выданне ў 1939 годзе блока, прысвечанага XXV гадавіне фарміравання польскіх легіёнаў. Тады ж свет убачыла марка, на якой была выява заснавальніка дынастыі Ягелонаў, караля Уладзіслава ІІ Ягайлы і каралевы Ядвігі.

## Змаганне і акупацыя

У верасні 1939 года пачалася Другая сусветная вайна. Адной з найбольш гераічных старонак гісторыі Вераснёўскай кампаніі 1939 года была абарона Гданьскай пошты — польскай паштовай установы, якая ў міжваенныя гады знаходзілася на тэрыторыі Вольнага горада Данцыга.

Ужо з красавіка 1939 года на Паштамце №1 неслі службу байцы спецыяльнай польскай самааховы, якой камандаваў кадравы афіцэр, супрацоўнік Другога аддзела польскага Генштаба Конрад Гудэрскі. У жніўні адміністрацыя паштамту была ўзмоцнена 10 кадравымі вайскоўцамі. На ўзбраенні абаронцаў было тры ручных кулямёты «Браўнінг», каля 40 пісталетаў, некалькі карабінаў і гранаты. Непасрэдна напярэдадні нямецкага нападу на Польшчу камандаванне польскага войска адмовілася ад аперацый у Гданьску і, такім чынам, пакінула супрацоўнікаў Пошты Гданьскай на пагібель.

Раніцай 1 верасня 1939 года часткі СС пачалі штурм польскага Паштамта. У атацы ўдзельнічалі аўстрыйскія браневікі «ADGZ». Аднак немцам не ўдалося адразу захапіць будынак. Больш таго, абаронцы выбілі нацыстаў з першага паверху. Пазней часткі СС падпалілі паштамт, што прымусіла палякаў капітуляваць. Усе захопленыя ў палон абаронцы былі расстраляныя. Толькі некалькім абаронцам удалося збегчы і ўратавацца. Маркі з пячаткай «Гданьскі порт» можна ўбачыць на шматлікіх канвертах, якія ў 1930-я ішлі адрасатам у Заходнюю Беларусь.

Нягледзячы на мужнасць Войска Польскага, у верасні 1939 года Другая Рэч Паспалітая была падзелена паміж Трэцім Рэйхам і СССР. Мяжа паміж таталітарнымі хаўруснікамі прайшла па Бугу. На далучанай да Германіі польскай тэрыторыі было створана Генерал-Губернатарства. Тут выкарыстоўваліся акупацыйныя знакі паштовай аплаты. Пры гэтым іх кошт, у большасці выпадкаў, пазначаўся ў грошах і злотых. Аднак замест польскіх арлоў і выяваў на марках малявалася нацысцкая свастыка і партрэт Адольфа Гітлера.

У сваю чаргу, у 1940 годзе ў Савецкім Саюзе была выдадзена серыя марак, прысвечаных «вызваленню брацкіх народаў Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны 17 верасня 1939 года. Усяго свет убачыла 5 відаў марак наміналам ад 10 капеек да 1 рубля. На знаках паштовай аплаты можна ўбачыць чырвонаармейцаў, мірнае насельніцтва, савецкую бронетэхніку. З цягам часу гэтыя маркі сталі філатэлістычнай рэдкасцю. Іх актыўна набывалі замежныя філатэлісты.

## «Poland — first to fight»

У красавіку 1941 года палякі дабіліся ад брытанскага МЗС права на выданне паштовых марак, і ўжо ў кастрычніку 1941 года выйшаў дэкрэт прэзідэнта Уладзіслава Рачкевіча, паводле якога справамі польскай пошты і тэлеграфа павінна было займацца Міністэрства фінансаў, у якім быў створаны адмысловы аддзел.

Галоўнымі паштовымі «кур'ерамі» сталі вайсковыя і цывільныя польскія караблі. 15 снежня 1941 года была выдадзена першая серыя марак. На іх былі выявы знішчэнняў, якія зрабілі нацысты ў акупаванай Польшчы. У снежні 1943 года была выпушчана чарговая серыя польскіх знакаў паштовай аплаты. На гэты раз на марках былі выявы розных радоў Войска Польскага. Пасля бітвы пад Монтэ-Касіна ў 1944 годзе на папяровых прамавугольніках з'явіўся аднайменны надпіс. Гэтымі маркамі карысталіся, у тым ліку, і беларусы, жаўнеры 5-й крэсовай дывізіі. У лютым 1945 года ў гэтай серыі з'явілася апошняя марка, прысвечаная Варшаўскаму паўстанню 1944 года. Хутка пасля заканчэння Другой сусветнай вайны польскія паштовыя агенцтвы, якія дзейнічалі на караблях, былі ліквідаваны. Так скончылася гісторыя польскай эміграцкай пошты.

# Вячаслаў Чамярыцкі:
# Углядаюся ў адвечныя краявіды Бацькаўшчыны



Сяргей ЧЫГРЫН

**Калі вядомы беларускі крытык і літаратуразнавец, культуролаг, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі Вячаслаў Чамярыцкі паспяхова абараніў кандыдацкую дысертацыю пра беларускія летапісы і хронікі, Уладзімір Караткевіч з гэтай нагоды напісаў для яго паэтычны экспромт:**

*«Слыннаму летапісцу Краю пану Чаславу Чамярыцкаму ад люду паспалітага:*
*Ад Аўраамкі да Аўрамчыка*
*Гісторыю за горб бяры,*
*І чэмер сып усім у вочы,*
*Каб аж здзівілісь Чамяры.*
*19.12.67 г. Места Менскае славутае».*

Пад вершам паставілі свае аўтографы яго сябры: Уладзімір Караткевіч з Оршы, Сцяпан Міско з вёскі Чамяры Слонімскага раёна і Адам Мальдзіс з Астравеччыны. Ліст з гэтым аўтографам Вячаслаў Чамярыцкі беражэ да сённяшніх дзён. Як і шмат іншых аўтографаў вядомых і паважаных асобаў.

Дарога ў жыццё і ў літаратуру пачалася ў Вячаслава Чамярыцкага з вёскі Рабкі Дзятлаўскага раёна, дзе ён нарадзіўся летам 1936 года. Маці была звычайнай хатняй гаспадыняй, а калі сям'я з Рабкоў пераехала ў Навагрудак, пэўны час працавала на маслазаводзе. Бацька быў будаўніком, майстрам на ўсе рукі. Ён у 1937 годзе купіў каля Навагрудка зруб, перавёз яго ў горад, а потым пабудаваў дом. Там сям'я Чамярыцкіх перажыла ўсе ліхалецці. Праўда, падчас вайны хлопчык Вячаслаў пераважна быў у Рабках. Як прыгадвае сам Вячаслаў Антонавіч, вяскоўцы не так баяліся немцаў, як партызан, якія ноччу наведвалі сялянскія хаты і рабавалі іх: забіралі жывёлу, рэчы, харчы. Нават аднойчы сялянская гаспадарка Чамярыцкіх моцна пацярпела ад начнога набегу партызан, якія прыставілі да сцяны дзядзьку Івана і забралі ў яго адзінага каня.

Пры немцах Вячаслаў Чамярыцкі пайшоў у школу, якая знаходзілася на ўскраіне Навагрудка. Але хутка школу спалілі партызаны. А пасля вайны хлопчыка запісалі ў другі клас беларускай школы, якая неўзабаве стала працаваць у будынку былой Навагрудскай беларускай гімназіі, у якой яшчэ ў 1920-я гады вучыўся Барыс Кіт і выкладаў Язэп Драздовіч.

«Зусім непісьменная мая маці круцілася, як магла, хацела, каб я добра вучыўся, казала мне: вучыся, сынок, панам будзеш, — успамінае Вячаслаў Антонавіч, — і я стараўся, бо даволі рана зразумеў, што навука сапраўды дапаможа ўзбіцца хоць і не заўсёды на панскае, але на больш людскае. Помню, як толькі навучыўся чытаць, палюбіў кнігу. Чытаў запоем, балазе, што ў школьнай і ў гарадской бібліятэках было нямала літаратуры. На руках жа ў людзей, па хатах, пападаліся рэдкія кнігі на польскай і беларускай мовах, творы Адама Міцкевіча, Янкі Купалы, Якуба Коласа, розныя заходнебеларускія выданні. Паступова ў мяне ўзрастала асаблівая, патрыятычная цікавасць і цяга да гісторыі і культуры Беларусі, да беларускай літаратуры і роднага слова. Гэтаму спрыялі і само асяроддзе горада, дзе тады паўсюдна яшчэ чулася беларуская гаворка, старасвецкія муры некалі магутнага замка, дзе рэхам аддаваліся галасы далёкіх гераічных стагоддзяў, імя славутага Адама Міцкевіча, а таксама цалкам беларускамоўнае асяроддзе роднай вёскі, дзе былі закладзены асновы маёй беларушчыны».

У 1953 годзе Вячаслаў Чамярыцкі паступіў на філалагічны факультэт Белдзяржуніверсітэта. А пасля яго заканчэння, паехаў па размеркаванні настаўнічаць у Вілейскі раён, потым перабраўся ў Маладзечна, дзе адпрацаваў інспектарам райана. І ў 1962 годзе падаўся ў аспірантуру пры Інстытуце літаратуры імя Янкі купалы АН Беларусі. Ужо тады стаў сур'ёзна цікавіцца новай беларускай літаратурай, захапляцца творчасцю Якуба Коласа і Максіма Багдановіча. Аднак унікальная «Гісторыя беларускай (крыўскай) кнігі» Вацлава Ластоўскага рашуча схіліла навуковыя інтарэсы юнака ў бок старажытнай літаратуры.



Дарога ў жыццё і ў літаратуру пачалася ў Вячаслава Чамярыцкага з вёскі Рабкі Дзятлаўскага раёна, дзе ён нарадзіўся летам 1936 года. Маці была звычайнай хатняй гаспадыняй, а калі сям'я з Рабкоў пераехала ў Навагрудак, пэўны час працавала на маслазаводзе. Бацька быў будаўніком, майстрам на ўсе рукі. Ён купіў каля Навагрудка зруб, перавёз яго ў горад

У 1967 годзе Вячаслаў Чамярыцкі абараніў кандыдацкую дысертацыю пра беларускія летапісы і хронікі. Яна лягла ў аснову ягонай манаграфіі «Беларускія летапісы як помнікі літаратуры» (1969 г.), якая стала першай грунтоўнай працай пра гэтыя каштоўныя помнікі беларускага летапісання, падрыхтаванай па-беларуску беларускім вучоным. Набыты даследчыцкі вопыт даў Вячаславу Чамярыцкаму магчымасць плённа ўдзельнічаць у падрыхтоўцы да друку тэкстаў беларускіх летапісаў і хронік у вядомай акадэмічнай серыі «Поўны збор рускіх летапісаў», куды яго прыцягнуў знакаміты гісторык Мікола Улашчык. Вячаслаў Чамярыцкі падрыхтаваў і ў 35 томе (1980 г.) упершыню апублікаваў выдатны помнік летапісання Беларусі эпохі Барока — Магілёўскую хроніку (у арыгінале, на польскай мове). Па яго ініцыятыве і пры яго непасрэдным удзеле быў пачаты пераклад на сучасную беларускую мову і публікацыя для шырокага чытача, спачатку ў часопісе «Спадчына», летапісных помнікаў Беларусі. А ў 1997 годзе яны выйшлі асобным выданнем у мінскім выдавецтве «Беларускі кнігазбор».

Вячаслаў Чамярыцкі з'яўляецца адным з аўтараў першых навуковых гісторый нашай нацыянальнай літаратуры на беларускай і рускай мовах, 3 і 4 тамоў «Истории всемирной литературы» (Масква, 1985, 1987), кнігі пра Францыска Скарыну, якая была выдадзена ў Парыжы на французскай і англійскай мовах, плённа ўдзельнічаў у распрацоўцы і выкананні вялікай Скарынаўскай праграмы, за што быў узнагароджаны медалём Францыска Скарыны, а ў 1994 годзе атрымаў Дзяржаўную прэмію Беларусі. А восенню 1992 года ён прымаў удзел у Скарынаўскай канферэнцыі ў Венецыі і ў Падуі.



**Вучні 9-га класа беларускай сярэдняй школы № 1 г. Навагрудка пішуць сачыненне. У першым шэрагу Слава Чамярыцкі. 1952 г.**



**Калегі Інстытута літаратуры (злева направа) Генадзь Кісялёў, Вячаслаў Чамярыцкі, Сяргей Гаранін, Уладзімір Мархель. 1999 г.**

**Засмучаюць старэчыя гады і парадзелыя шэрагі маіх родных, сяброў, калег. Асабліва ж балюча катастрафічны стан беларускай мовы**

Вельмі плённымі ў навукова-творчай біяграфіі Вячаслава Чамярыцкага былі 1990-я гады, а таксама пачатак XXI стагоддзя, калі ён узначальваў у Інстытуце літаратуры аддзел гісторыі старажытнай і новай беларускай літаратуры.

Выдатным дасягненнем таленавітага калектыву навукоўцаў, якім кіраваў Вячаслаў Чамярыцкі, сталі падрыхтоўка і выданне «Гісторыі беларускай літаратуры XI–XIX стагоддзяў» у двух тамах і «Анталогіі даўняй беларускай літаратуры». Гэта шмат у чым новыя і арыгінальныя, сапраўды этапныя працы як паводле багацця выкарыстанага фактычнага матэрыялу, так і паводле сваёй навуковай канцэпцыі і грунтоўнасці выкладу. Яны, смела магу адзначыць, з'яўляюцца важкім плёнам удумлівых навукова-даследчых распрацовак іх аўтараў і лепшых дасягненняў усяго айчыннага літаратуразнаўства ў вывучэнні тысячагадовай пісьмовай спадчыны беларускага народа. Гэтыя працы — годнае падсумаванне і ўласных шматгадовых навуковых штудый асабіста Вячаслава Чамярыцкага ў галіне гісторыі даўняй беларускай літаратуры.

Цяпер Вячаслаў Антонавіч Чамярыцкі на заслужаным адпачынку. Ён пагадзіўся адказаць на некалькі пытанняў для чытачоў «Новага Часу».

***— Нягледзячы на ваш шаноўны ўзрост, хачу запытаць, а ці пішацца што сёння, ці працуецца?***

— Вядома ж. Цяпер рыхтую да выдання зборнік сваіх прац, які, мяркую, удасца выдаць да свайго афіцыйнага 80-годдзя, а таксама, думаю, што ўдасца апублікаваць у 2017 годзе новы, больш поўны збор твораў Францыска Скарыны, які я ў асноўным падрыхтаваў да друку. Нядаўна пабачыў свет том летапісаў і хронік — своеасаблівы вынік маіх паўвекавых заняткаў летапісамі. Хочацца яшчэ чым-небудзь вартым ушанаваць наш непаўторны Навагрудак: дапрацаваць і ўбачыць на кніжных паліцах доўгачаканую «Навагрудчыну літаратурную», якую я ўклаў разам з пісьменнікам Яўгенам Лецкам. Паспрыяць, каб нарэшце была перакладзена з лацінскай мовы на беларускую і выдадзена ўнікальная кніга пра гісторыю Навагрудка, што ў 1759 годзе была апублікавана ў Львове і рэдкі асобнік якой я ў 1980-я гады адшукаў у невычэрпных кніжных сховах Ленінграда.

***— Вячаслаў Антонавіч, а што вас сёння найбольш хвалюе, трывожыць, засмучае ці, наадварот, радуе?***

— Засмучаюць старэчыя гады і парадзелыя шэрагі маіх родных, сяброў, калег. Асабліва ж балюча перажываюцца катастрафічны стан беларускай мовы, самага каштоўнага, самага дарагога духоўнага скарбу беларускага народа, асновы яго нацыянальнай ідэнтычнасці, культурна-гістарычнай незалежнасці і незайздроснае становішча ў свеце нашай краіны, якая, на жаль, ніяк не можа заняць «свой пачэсны пасад між народамі». А радуюся сёння кожнай сустрэчы з непаўторным Навагрудкам, дзе жыве мая сястра Ванда, шчырыюць на ніве культуры і асветы мае маладзейшыя сябры і добрыя знаёмыя ў гістарычна-краязнаўчым музеі, куды я перадаў шэраг каштоўных матэрыялаў, добрую сотню кніг і часопісаў са сваёй уласнай бібліятэкі, у музеі Адама Міцкевіча, у іншых установах культуры і асветы горада. Асаблівую ўзрушанасць адчуваю, калі наведваю родную школу, адкуль я вылецеў у вялікі свет, калі ўзнімаюся на Навагрудскі замак, дакранаюся да яго старадаўніх муроў і з вышыні птушынага палёту ўглядаюся ў адвечныя краявіды Бацькаўшчыны.

# Беларускі свабодны тэатр, родны ды блізкі

Пятро КАМЕНЬ

**Беларускі свабодны тэатр распачаў 11-ы сезон. У праграме — спектаклі, якія былі створаны рэжысёрам Уладзімерам Шчэрбенем ды драматургам і рэжысёрам Мікалаем Халезеным на працягу дзесяцігоддзя плённай дзейнасці.**





Той самы тэатр, чые пастаноўкі атрымоўваюць пахвалу ды прызнанне ад сусветна вядомых тэатральных дзеячаў ды крытыкаў па той бок Атлантыкі, можна абсалютна бясплатна наведаць у Мінску. І тым не менш упісаць тэатр у кантэкст беларускай тэатральнай рэчаіснасці не атрымаецца. Эміграцыя заснавальнікаў тэатру пасля сумных падзей 2010 года ў Лондан яскрава сведчыць пра гэта. Прорва ў эстэтычных падыходах паміж дзяржаўным тэатрам і экспрэсіўным у сваім творчым выказванні Свабодным тэатрам — неверагодная. Плата за такую радыкальнасць — падпольны стан ва ўсіх сэнсах недзяржаўнага тэатра на Радзіме, але прызнанне і вядомасць у міжнароднай тэатральнай супольнасці.

Ужо адбыўся паказ пастаноўкі «Родныя ды блізкія» па п'есе сучаснага беларускага драматурга Канстанціна Сцешыка. Нагадаем, прэм'ера спектакля адбылася 21 снежня 2012 года, і зараз — у межах рэтраспектыўнага сезону — ёсць шанец для тых, хто не патрапіў раней. Перад самым пачаткам на сувязь з Лондану па skype выходзіць рэжысёр Уладзімір Шчэрбень ды задае традыцыйнае пытанне — ці ёсць тыя, хто ў Свабодным тэатры ўпершыню? Такія людзі абавязкова знаходзяцца перад кожным спектаклем.

Дзея адбываецца ў адносна невялікім пакоі, месцы для гледачоў у якім з двух супрацьлеглых бакоў па перыметры залі. Акторы ж сядзяць таксама ля адной са сцен. Дзеля эфекту паяднання тых, хто глядзіць, і тых, хто паказвае, актор у вобразе дурненькага гарадскога вар'ята паціскае рукі прысутным.

«Родныя ды блізкія» — гэта сугучча бязлітасных маналогаў, кароценькіх страшных гісторый, успамінаў пра людзей з цяжкага сацыяльнага асяродку, дзівакоў, да якіх аніхто не меў спагады. Спецыфіка ў тым, што апавядаюць гэтыя страшылкі такія ж недарэкі, з гэтага ж сацыяльнага асяродку, з гэтага ж двара, гэтай жа сям'і, гэтага ж святочнага стала...

Перад вачыма гледачоў паўстае шэраг бязлітасных гісторый без пафасу, без відавочнай маральнай асновы, без неабходнасці суперажываць. Гэта гісторыі пра нашых суседзяў, пра нашых знаёмых, пра нашых калег. Гісторыі, якія мы слухаем з цікавасцю, але няпэўнасцю.

Спектакль аздоблены візуальна моцнымі і ў той жа час простымі вобразамі: агонь, запалкі, цені, падрапаныя паліто ды старамодныя пінжакі. У залі моцна пахне. Пах гэтых гісторый — гэта пах старой шуфляды, пах цыгарэтнага дыму, пах няёмкі, цяжкі, але неабходны дзеля пагружэння ў атмасферу. Акторы старанныя. Увага гледачоў фармуецца за кошт моцных рухаў на сцэне: лямант, енк жаночы ды мужчынскі, бойкі, разам з тым — вусцішная цішыня, папераменнае «ціха — гучна» ад адной гісторыі да іншай. Акторы граюць як лялькі, не як людзі. Спектакль — як лялечныя гісторыі, недарэчна саркастычныя страшылкі, што казычуць нервы. Фінал — едкі дым былога, у якім успаміны ажываюць ды труцяць сваім пахам залю. Шчаслівы фотаздымак, на якім мы — недарэкі, вар'яты і пачвары — з вамі развітваемся. Але вы нас памятайце да скону дзён, бо мы — вашы родныя ды блізкія!



**Мастацка-спеўны эксприкмент. Пушкін і Сівурава**

# «Жоўтая брукаваная дарога» Элы і яе сяброў

Анатоль МЯЛЬГУЙ

**Ва ўправе ТБМ раскрывалі таямніцы асобы мастака Алеся Пушкіна і спевака Змітра Вайцюшкевіча.**



Пушкін і Вайцюшкевіч сталі галоўнымі дзеючымі асобамі кніг, якія пабачылі свет дзякуючы ініцыятыве журналісткі і грамадскай дзячкі Элы Дзвінскай — «Алесь Пушкін» і «Беларускае слова ад спеву» (У сааўтарстве з П. Северынцам і аўтарам гэтых радкоў). Дарэчы, так шчасліва супала, што Эла Дзвінская і Алесь Пушкін ў гэты дзень таксама адзначалі свае 50-годдзі.

Госці з пазнаёміліся з рознымі бакамі творчага жыцця Алеся Пушкіна, якога ведаюць многія беларусы, бадай, толькі па легендарным перформансе з «тачкай гною» ля прэзідэнцкай адміністрацыі. Алесь — асоба неардынарная: ён і манументаліст, і тэатральны мастак, рэстаўратар, і, як высветлілася, шчаслівы шукальнік гістарычных рарытэтаў.

У сваім слове Алесь падзякаваў выдаўцам, складальнікам кнігі, журналістам, у тым ліку і карэспандэнту «Новага Часу» Аляксандру Тамковічу, якія ажыццявілі гэты праект. Як заўсёды, запамінальным было песеннае вітанне ад Змітра Вайцюшкевіча — прафесіянала-выканаўца, добрага кампазітара, які чуйна разбіраецца ў паэзіі.

Цудоўным завяршаючым акордам творчай вечарыны Элы Дзвінскай і герояў яе кніг стала выступленне на «біс!» А самыя гарачыя апладысменты выклікала песня Вайцюшкевіча «Віцебск–2030», у якой у сатырычным ключы ўздымаецца праблема абмежаванняў для беларускамоўнай музыкі ў тэле- і радыёэфіры, на фестывалях і канцэртных пляцоўках.







Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.info

Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Выконваючы абавязкі галоўнага рэдактара **Колб Аксана Мікалаеўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 29 986-38-05, +375 17 268-52-81 novychas@gmail.com; novychas.info

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. Замова № 1237

Падпісана да друку 25. 09.2015. 8.00. Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая. Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.